ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

17 ЛІСТАПАДА 1995 г. № 46 (3818) Кошт 2 500 руб.

## ВЫКЛІК НЕБУ

***Уладзімір КОНАН: "Сутнасць неататалітарызму ў рэгіёнах былога СССР — не ў жаданні аднавіць былы СССР. Двойчы ўступіць у пройдзеную плынь гісторыі, як сказаў калісьці Геракліт, немагчыма. Але справа не толькі ў логіцы гісторыі. Аднаўлення былога месіянска-камуністычнага Саюза не хоча Расія, якая таксама была ахвяраю псеўдамесіянства. Затое ёсць шмат праектаў адраджэння новай Расійскай імперыі "мірным" шляхам, з далучэннем на першым этапе беларускага "калідору".***

**4, 15**

## КЕНГУРУ

***Аляксандр ЛУКАШУК: "За апошнія гады мне давялося там-сям пабываць і тое-сёе пакаштаваць... Але нідзе і ніколі я не перажыў такога патрасення, як у вясковай хаце старшыні калгаса, калі на стол уздвіглі смажанага кенгуру. Тое, што ўнесеная жывёліна адносілася да атрада сумчатых, а не дробных грызуноў, у мяне не выклікала ніякага сумнення".***

**5, 12**

## "РАСЦЕ Ў ЦІШЫ ТАЕМНЫ САД..."

***Новыя вершы Алеся БАДАКА.***

**8**

## "ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА ІСНУЕ ДЗЕЛЯ ВЫПУСКУ КНІГ..."

***Серафім АНДРАЮК: "І яшчэ адзін момант, на які таксама нельга не звярнуць увагу. У такім тоне, у такім стылі, з такімі абвінавачваннямі пісалі толькі ў сумнавядомыя трыццатыя гады. І раптам падобнае "ўсплывае" сёння. Гэта ўжо не проста здзіўляе".***

**16**






## "УСЁ ЛЕПШАЕ, ШТО ЁСЦЫ!.."

Гэтыя словы сталіся загалоўкам сённяшняй публікацыі, якую мы прапануем увазе не толькі аматараў музыкі. Ды найперш мусіць быць цікава менавіта ім, бо "ўсё лепшае, што ёсць" — сказана пра педагогаў, выканаўцаў, даследчыкаў, асветнікаў, прапагандыстаў музычнага мастацтва, сярод якіх і спешчаныя авацыямі публікі, і сумленна адданыя сваёй няўгледнай справе працаўнікі. Розныя — і назаўжды паядненыя, але не толькі агульнасцю адукацыі ды прафесійных інтарэсаў. Паядненыя тым, што кожны з іх далучыўся ў свой час да непаўторнага жыцця-вучнёўства ў сценах Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі.

Ліцэю — 60 гадоў, і да гэтай падзеі прымеркаваная размова з яго дырэктарам Уладзімірам Кузьменкам, змешчаная ў нумары. Дарэчы, на здымку наш суразмоўца — побач з генеральным дырэктарам міжнароднай дабрачыннай праграмы "Новыя імёны" Іветай Воранавай. Яна прыязджала ў Мінск тыдзень таму. Прысутнічала на прэзентацыі праграмы фонду "Новыя імёны планеты. XX стагоддзе — XXI стагоддзю", дзе як заўсёды гожа паказаліся і выхаванцы нашага ліцэя-юбіляра, сярод якіх ёсць стыпендыяты фонду. З гэтай нагоды была, як вядома, і прадстаўнічая сустрэча ў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Сустрэча, мяркуе сп. Кузьменка, дазваляе спадзявацца на сталую дзяржаўную падтрымку юных талентаў.

У падрыхтоўцы ліцэя да свята аказалі матэрыяльную дапамогу кіраўніцтва справамі прэзідэнта, "Белбізнесбанк", фірмы "Манхэтэн" і "Гігагрант". Урачысты сход з нагоды юбілею адбудзецца 21 лістапада ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, на ім будуць шматлікія госці ды ўдзельнікі сёлетняй "Беларускай музычнай восені", і яе "ўраджай" мы з часам збяром на сваіх старонках. Сёння ж чытайце стар. 10—11.

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Звесткі пра тое, што былы прэм'ер-міністр Беларусі В. Кебіч "залажыў Беларусь на 1 мільярд 100 мільёнаў долараў ЗША", рэспубліканскія газеты ўслед за "Народнай газетай" падаюць асцярожна, пад рубрыкай "скандал" з пытальнічкам. Ці не таму, што чакаюць афіцыйнай рэакцыі? Звычайна прэзідэнт, а часцей ад яго імя У. Замяталін, надта аператыўна адгукаўся на іншыя менш значныя, зусім не сенсацыйныя і не скандальныя паведамленні. Тут жа — цішыня. Прэзідэнт трымае паўзу. Пакінем нашыя меркаванні пра тое, чаму гэта адбываецца, пры сабе. Варыянтаў далейшага развіцця падзей — вялікае мноства. І цікавіць нас можа толькі адно: чым урэшце скончыцца супрацьстаянне Лукашэнка—Кебіч, якое пачалося яшчэ да прэзідэнцкіх выбараў. Бяда ў тым, што крайнімі і пацярпелымі могуць у выніку аказацца дэмакраты, а не былая і новая наменклатура, як ні парадаксальна гэта гучыць...***

### *ФАКТ ТЫДНЯ*

Ні адна міжнародная арганізацыя пакуль не заявіла пра намер даслаць сваіх назіральнікаў на паўторныя выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі, хоць засталося да выбараў менш двух тыдняў. Яшчэ адна рысачка ў адносінах сусветнага супольніцтва да нашае незалежнае дзяржавы.

### *ЗМЕНЫ ТЫДНЯ*

Газеты надрукавалі ўказ прэзідэнта аб зменах у структуры Кабінета Міністраў Беларусі. Такім чынам, чуткі пра раздзел Міністэрства культуры і друку на чатыры самастойныя структуры пацвердзіліся. З'явіліся вакансіі. Прынамсі, як мінімум, адна. З'явілася і падстава для новых чутак і "вылучэнняў". Улады ж, як прынята ў нас апошнім часам, з прызначэннем "в. а." не спяшаюцца.

### *УПАРТАСЦЬ ТЫДНЯ*

Указ N 434 прэзідэнта Беларусі "Аб аб'яднанні адміністрацыйных адзінак Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр", у хуткім часе, пэўна, чакае лёс многіх ягоных папярэднікаў: разгляд у Канстытуцыйным судзе. Прэзідэнт няйначай зноў перавысіў свае паўнамоцтвы і падмяніў сабою цэлы Вярхоўны Савет. Аднак пакуль указ паступіць у КС, пакуль яго там разгледзяць, выбары ў "аб'яднаных" раёнах... не адбудуцца. Справа зроблена.

### *ПАРАЎНАННЕ ТЫДНЯ*

Агенцтва гуманітарных тэхналогій прадставіла для азнаямлення кіраўніцтву Аб'яднанай грамадзянскай партыі сваю работу "Семіятычнае асяроддзе Рэспублікі Беларусь". У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: "Бяднейшай краінай Еўропы 80-ых гадоў была Албанія, дзе помнікі Сталіну захаваліся некранутымі. Сёння Беларусь — апошняя краіна ў Еўропе, дзе захаваліся на сваіх месцах помнікі Леніну, а па тэмпах падзення ўзроўню жыцця і па абсалютных паказчыках галечы РБ у 1995 годзе апярэдзіла Албанію. Сёння Беларусь — самая бедная ў Еўропе краіна, за выключэннем разбуранай вайной Босніі". Гэтую інфармацыю распаўсюдзіла агенцтва РІД. Праўда, потым, з дапамогай У. Замяталіна, агенцтва вымушана было паправіць сваё паведамленне, бо, па словах У. Замяталіна, сёння бядней, чым у Беларусі, жывуць на Украіне, у Грузіі і яшчэ сям-там.

### *ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ*

15 лістапада Беларускаму радыё споўнілася ўсяго 70 гадоў. А нам сёння здаецца, што было яно заўсёды. Бо не ўяўляецца нашае жыццё без радыё, без любімых перадач, без знаёмых галасоў... Лімаўцы віншуюць сваіх калег са слаўным юбілеем і зычаць ім, услед за прэзідэнтам, "творчага натхнення і вялікага плёну ў працы на карысць нашай Бацькаўшчыне".

### *ЗАДУМКА ТЫДНЯ*

Часопіс "Беларуская думка" (раней — "Камуніст Беларусі") з новага года стане органам Адміністрацыі прэзідэнта. Аб'ём ягоны вырашана павялічыць да 20 друкарскіх аркушаў, а друкавацца ў ім будзе ўсё, аж да твораў літаратуры, у якіх будзе адбівацца курс на пастаяннае павышэнне эканамічнай і палітычнай стабільнасці ў нашай краіне і паказвацца няўхільнае павышэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Ведаючы трагічную сітуацыю, што складваецца вакол фінансавання і падтрымкі дзяржавай часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Нёман"... ад усялякіх каментарыяў наконт "новага" выдання ўстрымаемся.

### *КАМПРАМІС ТЫДНЯ*

На апошнім сойме БНФ прынята адно неардынарнае рашэнне: па некаторых выбарчых акругах вырашана зняць зарэгістраваных ад БНФ кандыдатаў у дэпутаты, каб не ствараць перашкод іншым кандыдатам. У прыватнасці, адным з тых, каму створана "зялёная вуліца", стаў былы дзеяч КПБ-КПСС, а сёння апальны палітык Георгій Таразевіч. Рашэнне нечаканае для БНФ, бо раней шмат разоў даводзілася шкадаваць аб няўменні ці нежаданні кіраўнікоў фронту ісці на такія неабходныя ў палітыцы кампрамісы.

### *ВЫДАННЕ ТЫДНЯ*

Нягледзячы на жорсткі "маральны" ўціск і пастаянныя запалохванні, усё ж многія выданні на Беларусі працягваюць захоўваць свой твар, сваю лінію. Адно з такіх выданняў — палітыка-прававая газета "Фемида", якая працягвае здзіўляць прынцыповасцю сваёй пазіцыі, аб'ектыўнасцю і смеласцю ацэнак нашага сёння. "Фемида" зараз — адна з тых газет, якія хочацца чытаць і ў якіх ёсць што чытаць. А цытаты з Лукашэнкі, якія ніхто, акрамя "Фемиды", не друкуе, хочацца чытаць, перачытваць і перадаваць таварышу.

### *РЭКЛАМА ТЫДНЯ*

Шаноўная і вельмі папулярная на Беларусі газета "Аргументы и факты" ці не першай з рускамоўных і, галоўнае, амаль цалкам з замежных выданняў, скарыстала ў сваёй рэкламе аб падпісцы вядомую цытату з беларускага класіка: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі..." Добра ведаючы выданне, можна вытлумачыць зварот да гэтых слоў толькі тым, што ў бліжэйшым часе "АиФ", услед за "Свабодай", увядзе ў сябе "беларускамоўную старонку". Тады б, на гэткім фоне, нават памылка ў прозвішчы паэта ў рэкламе — "Багушевіч"— выглядала б какетнай і зразумелай...

---

*З нагоды*

# СУМНАЕ СВЯТА

У суботу—нядзелю ў Доме літаратара ў Мінску праходзіла сустрэча кіраўнікоў беларускіх суполак у замежжы, арганізаваная Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына". У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі дыяспары з блізкага і далёкага замежжа, дзеячы культуры, навукі, палітыкі.

Хтосьці з выступаючых назваў сустрэчу "сумным святам", і гэта вельмі дакладнае вызначэнне настрою, які панаваў на пасяджэннях і ў кулуарах. Калі дзяржаўная ўлада ў Беларусі ў лепшым выпадку абыякавая да лёсу нацыі і дзяржавы, а часцей — ваяўніча-варожая, дык, згодна з вядомым выслоўем, "выратаванне тапельцаў" становіцца асабістай справай саміх "тапельцаў". Калі беларуская справа на Беларусі ў занядбаным стане, дык як жа яна будзе ладзіцца за межамі нашай краіны? Дыяспара абапіраецца на метраполію, а якія беларускія сілы мы рэальна маем у самой Беларусі? Пытанні рытарычныя...

Наўрад ці стаўленне беларускіх уладаў да беларускай дыяспары ў бліжэйшы час зменіцца ў лепшы бок. Выступаючыя адзначалі, што кіраўніцтва краіны ледзь не дэманстратыўна ігнаруе афіцыйныя звароты, заклікі беларусаў дыяспары паважаць мову, гісторыю і традыцыі беларускага народа, кіравацца ў палітыцы інтарэсамі нацыі, зрэшты — здаровым сэнсам.

А пасля "гарачай" сустрэчы, якую наладзілі сп. Лукашэнку амерыканскія беларусы (іхняя акцыя пратэсту асвятлялася ў сродках масавай інфармацыі Злучаных Штатаў), стасункі прэзідэнта і дыяспары будуць яшчэ больш халоднымі. Бо сп. Лукашэнка на папрокі сярдуе, а ягоныя настроі пры ягонай пасадзе становяцца фактарам дзяржаўнай палітыкі...

Можа, таму, выступаючы на сустрэчы, С. Шушкевіч прапанаваў наступны з'езд беларусаў свету ладзіць не ў Мінску, не ў Беларусі ўвогуле, а, напрыклад, у Летуве, у Вільні, дзе калісь у часе "перабудовы" збіраліся беларускія адраджэнцы-незалежнікі на свае імпрэзы.

Мяркую, што пры ўсім драматызме (мо, нават, трагізме) нашай сітуацыі гэта ўжо занадта! Мяняецца свет вакол нас, і Беларусь не зможа застацца нязменнай. Да таго ж, прэзідэнт, урад і Вярхоўны Савет — не вечныя. Будуць і лепшыя.

Немалую частку свайго выступлення С. Шушкевіч прысвяціў звядзенню рахункаў з БНФ, які нібыта не скарыстаў свайго гістарычнага шанцу і нават самога Станіслава Станіслававіча, тагачаснага спікера ВС, падставіў пад удар.

Мабыць, трыбуна сустрэчы была не лепшым месцам для падобных заяў. Не думаю, каб беларусам замежжа было цікава прысутнічаць пры "разборцы" мясцовых дэмакратаў. Не дзеля гэтага сабраліся...

Удзельнікі сустрэчы абмеркавалі шэраг праблем беларускай дыяспары. Сярод іх — вяртанне беларусаў на Радзіму, дапамога ў галіне культуры, адукацыі, выкананне праграмы "Беларусы ў свеце". Быў прыняты зварот і рэзалюцыя.

Свята атрымалася сумным, але, тое, што людзі пазбаўлены ілюзій і бачаць свет такім, які ён ёсць, — спараджае надзею. "Хай на нашай наступнай сустрэчы словы "Жыве Беларусь!" будуць не пажаданнем, а радасным сцвярджэннем".

Хай бы так...

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

---

# "ЧАЛАВЕК ГОДА" Ў БЕЛАРУСІ

9 кастрычніка ў нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная абвяшчэнню конкурсу "Чалавек года". У Беларусі летась такое мерапрыемства праводзілі недзяржаўныя фірмы на чале з кампаніяй "Элен Валеры". Сёлета да арганізацыі конкурсу далучыліся Міністэрства культуры і друку, творчыя саюзы і Беларускі Экзархат.

Вызначэнне лепшых з лепшых будзе праводзіцца па сямі намінацыях: выяўленчае мастацтва, журналістыка, музычнае мастацтва, мастацтва эстрады, тэатр і кіно, спорт, духоўнае адраджэнне.

Цяпер ужо створаны экспертныя камісіі, незалежныя адна ад адной, якія будуць вылучаць кандыдатаў на атрыманне прэмій "Чалавек года — 95".

Канчатковае пасяджэнне журы адбудзецца напрыканцы гэтага года. На ім будуць вызначаны 3 прызёры па кожнай з сямі намінацый. Цырымонія ўручэння прэмій "Чалавек года - 95" адбудзецца ў Калядную ноч.

Правядзенне падобнага мерапрыемства стала магчымым дзякуючы падтрымцы не толькі дзяржаўных, але і камерцыйных устаноў. Сярод дабрадзеяў — тэлекампанія "Свой круг", кампаніі "Белавія", "Семіраміс-Якавіцкі", "KIKO International", "Radio Rocks" і іншыя. Тэлекампанія "Свой круг", у сваю чаргу, абвясціла конкурс на лепшае асвятленне падрыхтоўкі і правядзення гэтага конкурсу ў беларускіх сродках масавай інфармацыі.

Спадзяёмся, што конкурс "Чалавек года" чакае доўгае і шчаслівае жыццё. Хацелася б, аднак, у будучыні ўбачыць сярод лаўрэатаў года і літаратараў...

---

*Вечарыны*

# ПРАГА СТАЛА БЛІЖЭЙШАЙ

Прага для беларусаў — не чужы горад. Такім ён быў у даўнія часы, такім ён застаецца й цяпер. Мала хто ведае, што ўжо ў 1297 годзе ў пражскім універсітэце навучаліся студэнты з Вялікага княства Літоўскага. Ну а потым тут жылі Францішак Скарына, Уладзімір Жылка, Ларыса Геніюш, Міхась Забэйда-Суміцкі і шмат хто яшчэ з беларусаў. Цяпер у Празе знаходзіцца радыё "Свабода", а значыць, і беларуская служба гэтага радыё. Так што Прага была й ёсць "нашай", адной з нашых "сталіцаў" па-за межамі метраполіі.

З таго часу як Беларусь і Чэхія сталіся незалежнымі, узнікла неабходнасць у больш шчыльным кантакце паміж дзвюма дзяржавамі, у пашырэнні ведаў адна аб адной. З гэтаю мэтаю беларускае Таварыства дружбы й культурнай сувязі з замежнымі краінамі, сябрына Беларусь—Чэхія й Амбасада Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі наладзілі вечарыну, якая мела назоў "Чэшская культура ў беларускай прасторы" й адбылася 14 лістапада ў Беларускім Доме дружбы.

Адкрыў вечарыну Часовы Паверany ў справах Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі сп. Душан Доскачыл, які згадаў у сваім слове лёсавызначальны для абодвух народаў 1918г. — у гэтым годзе былі абвешчаныя незалежныя Чэхаславацкая (28.10.1918г.) і Беларуская Народная Рэспубліка. (Праўда, чэхам тады пашанцавала болей.) Потым сп. Доскачыл распавёў пра падзеі недалёкага мінулага — аксамітную рэвалюцыю 1989 г. і ўтварэнне Чэшскай Рэспублікі.

Пасля гэтага Сяргей Панізнік чытаў вершы, прысвечаныя гэтай краіне й яе сталіцы, пераклады з чэшскіх паэтаў. На вечарыне, вяла якую доктар навук, прафесар, загадчыца кафедры замежнай літаратуры БДУ сп-ня Ірына Шаблоўская, выступілі паэт Пятро Прыходзька, перакладчык Алесь Мажэйка, студэнты Лінгвістычнага універсітэта, са сваёй праграмай выйшлі й вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя, чэшскую мову ў якіх выкладае сп-ня Наталля Зайцава.

Пра сваё жыццё ў Празе расказаў сп. Юрка Станкевіч, які да нядаўняга часу жыў стала ў Амерыцы, а цяпер — у сталіцы Чэхіі.

У прыгожай зале Дома дружбы працавала выстава твораў беларускага мастака Мікалая Рыжыкава "Мінск—Прага—Браціслава", гучала музыка чэшскіх кампазітараў.

**Аляксей ШЭІН**

---

# СУСТРЭЧА З ЮНЫМІ



У рэзідэнцыі прэзідэнта адбылася сустрэча з прадстаўнікамі Міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "Новыя імёны" і стыпендыятамі гэтага фонду — юнымі выканаўцамі з Беларусі. Адбыўся абмен прамовамі і падарункамі паміж А. Лукашэнкам і прэзідэнтам фонду І. Воранавай.

Кіраўнік нашай дзяржавы выказаў удзячнасць прысутным за іх талент і працу і падкрэсліў, што кожны талент патрабуе ўвагі і беражлівых да сябе адносін. У хуткім часе будзе створаны адпаведны прэзідэнцкі фонд па падтрымцы здольнай моладзі.

Прэзідэнт запаліў сімвалічны агмень і запрасіў гасцей частавацца кавай і ласункамі. Выступілі і прысутныя настаўнікі — прадстаўнікі музычнага і мастацкага ліцэяў. Юныя віртуозы (асобныя з іх унесены ў так званую Залатую кнігу, як, напрыклад, Міша Лявончык) прадэманстравалі сваё майстэрства. У гэтай "чыноўніцкай зале", як пажартаваў Аляксандр Рыгоравіч, не часта гучыць музыка.

**Г.К.**

# БУДЗЬЦЕ ЎВАЖЛІВЫМІ НА ВЫБАРАХ!

## ЗВАРОТ IV З'ЕЗДА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ДА ВЫБАРШЧЫКАЎ

Дарагія суайчыннікі!

Прайшло ўсяго некалькі месяцаў пасля вядомага рэферэндуму, але ўжо відаць, як жорстка ашукалі наш народ.

Наша жыццё не стала лепшым. І павагі да нас у свеце не пабольшала. Але затое панішчаны сотні беларускіх школ, насуперак волі бацькоў, гвалтам і падманам пераводзяцца на рускую мову навучання пачатковыя і сярэднія школьныя класы; толькі пачаўшы пераходзіць да нармальных, праўдзівых праграм і падручнікаў па роднай гісторыі і літаратуры, нашы навучальныя ўстановы вымушаны вяртацца назад, да спарахнелых і хлусьлівых догмаў. Найвышэйшая ўлада адкрыта заяўляе, што беларусы не маюць сваёй гісторыі, што беларусы не здольныя жыць сваім розумам, што наша мова — "непаўнацэнная". Прагаласаваўшы на рэферэндуме за "раўнапраўны" статус беларускай і рускай моў, людзі фактычна дазволілі ўладам адкрыта выціскаць нашу родную мову з тых нешматлікіх сфераў, дзе яна паспела замацавацца, — са школы, ВНУ, сродкаў масавай інфармацыі, дзяржаўнага справаводства. Цяперашнія ўлады Беларусі далі магчымасць працвітаць чарнасоценнай ідэі аднаўлення Расійскай імперыі, у якой няма месца незалежнай Беларусі, нашай мове, культуры, нашай будучыні.

Мы заклікаем усіх, каму баліць душа за тое, што робіцца ў краіне: будзьце ўважлівыя на выбарах! Галасуйце за тых кандыдатаў, якія на справе бароняць незалежнасць нашай краіны, а значыць, адстойваюць будучыню нашых дзяцей. Галасуйце за тых, хто шануе родную мову і здольны спыніць цяперашні адкрыты здзек з беларушчыны. Галасуйце за патрыётаў Беларусі!

# ЗБЕРАГЧЫ ДУХОЎНЫЯ СКАРБЫ

## ПАСТАНОВА IV З'ЕЗДА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Святыня народа, нацыянальная мова беларусаў, ізноў апынулася ў небяспецы. Сталася гэта ў выніку наступу антыдэмакратычных і антынародных сілаў на нацыянальныя школы і ўстановы культуры, на іншыя структуры, у якіх беларуская мова пачала набываць статус сапраўды дзяржаўнай.

Вынікі сумнеўнага з пункту гледжання канстытуцыйнасці рэферэндуму выкарыстоўваюцца не толькі для апраўдання выціснення з грамадска-дзяржаўнага ўжытку беларускай мовы, для апраўдання парушэнняў Канстытуцыі і моўна-культурнага заканадаўства краіны, але і для дыскрэдытацыі самой незалежнай Беларускай дзяржавы. У Беларусі парушаюцца міжнародныя нарматыўныя акты, якія гарантуюць нацыянальнай мове захаванне і дзяржаўную падтрымку.

Антыбеларускія сілы бессаромна выкарыстоўваюць зманапалізаваныя сродкі масавай інфармацыі. Навязваючы ідэю "раўнапраўя" беларускай і рускай моваў, яны праводзяць разбуральную палітыку выціснення беларускай мовы з ужытку. Пры гэтым спекулююць тым, што значная частка грамадзян Беларусі не магла за лічаныя гады стаць актыўнымі носьбітамі і абаронцамі беларускай мовы.

Беларускае грамадства апынулася ў стане сацыяльна-палітычнага здранцвення і пакуль не знаходзіць дастаткова сілы, каб абараніць нацыянальную годнасць і зберагчы свае духоўныя скарбы. У такіх умовах не толькі беларускай мове і культуры, але мовам і культурам іншых нацыянальных групаў насельніцтва краіны наканавана не развівацца, а няўхільна дэградаваць.

IV з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян краіны, усіх нацыянальных згуртаванняў, палітычных сілаў, грамадскіх арганізацыяў, працоўных калектываў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання з заклікам аб'яднацца і зрабіць усенароднай справай абарону беларускай мовы. І дзеля гэтага

ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Асудзіць дзеянні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і кіраўніцтва шэрагу дзяржаўных органаў і ўстановаў, скіраваныя на згортванне дзяржаўных праграмаў развіцця беларускай мовы, нацыянальнай сістэмы адукацыі, культуры і інфармацыі, а ўрэшце — на страту незалежнасці краіны.

2. Звярнуцца да Вярхоўнага Савета, Канстытуцыйнага Суда і Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь з просьбай даваць адпор неправавым спробам прынізіць грамадска-дзяржаўны статус беларускай мовы.

3. Звярнуцца да сусветнай грамадскасці, да родасных Таварыству міжнародных арганізацыяў і замежных нацыянальна-культурных згуртаванняў з просьбай аб маральнай падтрымцы і супрацоўніцтве ў адстойванні перспектывы беларускай мовы як культурнага здабытку ўсяго чалавецтва.

4. Даручыць Рэспубліканскай Радзе, рэгіянальным кіраўнічым органам Таварыства наладзіць супрацоўніцтва з усімі грамадскімі, палітычнымі і дзяржаўнымі структурамі, якія падзяляюць клопат пра зберажэнне беларускай мовы і пашырэнне яе як дзяржаўнай у незалежнай краіне.

5. Галоўную ўвагу Таварыства скіраваць на асветніцкую і арганізацыйную працу. Для гэтага:

— рэкамендаваць Рэспубліканскай Радзе, рэгіянальным кіраўнічым органам Таварыства ўсяляк падтрымліваць пашырэнне беларускамоўнай інфармацыйнай прасторы і праяўляць уласную ініцыятыву ў стварэнні мясцовых беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі;

— падтрымліваць стварэнне і фармаванне беларускамоўнай грамадзянскай супольнасці; спрыяць утварэнню беларускамоўных культурных, маладзёжных, дзіцячых згуртаванняў і аб'яднанняў па інтарэсах.

6. Абавязаць сяброў і арганізацыі Таварыства супольна з шырокай грамадскасцю прыкласці ўсе сілы дзеля таго, каб захаваць і памнажыць колькасць беларускамоўных адукацыйных установаў усіх тыпаў. Ствараць для іх належныя ўмовы.

7. Даручыць Рэспубліканскай Радзе ТБМ і рэдакцыі газеты "Наша слова" вырашыць пытанне арганізацыйна-тэхнічнага і фінансавага забеспячэння дзейнасці друкаванага органа Таварыства.

*6 кастрычніка 1995 г.*
*г. Мінск*

# ПАЧАТАК ПАКЛАДЗЕНЫ...

## АДКРЫЎСЯ МУЗЕЙ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ СКУЛЬПТУРЫ ІМЯ А. БЕМБЕЛЯ

У Мінску, на вуліцы Я. Коласа, у глыбіні двара хаваецца за маляўнічымі дрэвамі дом пад нумарам 29 "а", дзе правёў апошнія гады жыцця вядомы беларускі скульптар, народны мастак Беларусі Андрэй Ануфрыевіч Бембель. У гэтым доме некалі было сабрана ўсё, што было дорага сэрцу мастака — злепкі, памятныя падарункі, фотаздымкі, сувеніры, рукапісы выступленняў, лісты. Тут былі прасторная майстэрня, жылыя пакоі, працоўны кабінет, бібліятэка; тут былі выкананы лепшыя работы мастака, засталіся незавершанымі дзесяткі эцюдаў у пластыцы і гліне, станковыя кампазіцыі, праектныя эскізы. У гэтым доме заўжды было людна — сябры, вучні, ганаровыя госці зазіралі сюды запраста,без асаблівых цырымоній. Бо атмасфера ўсіх гаворак была пранізана абаяльнасцю асобы Андрэя Бембеля, выдатнага майстра, выкладчыка і выхаваўцеля плеяды вядомых беларускіх скульптараў, вялікага гумарыста, чые жарты і дасюль выклікаюць нязмушаную ўсмешку, і проста прыемнага чалавека.



*А. Бембель у майстэрні. 1954 г.*

Можа, менавіта таму штогод трыццатага кастрычніка збіраліся ў гэтай майстэрні сябры і вучні скульптара, каб памянуць яго добрым словам у чарговую гадавіну смерці, каб запаліць свечку памяці, каб зноў памарыць пра няздзейсненае — пра музей мастака, які меркавалі адчыніць у... наступным годзе. Колькі тых гадоў прайшло з дня ягонай смерці 13 кастрычніка 1986 года?! Ды — нам жа не прывыкаць да нашай недарэчнай няпамятлівасці, да так і неадчыненых музеяў, неперанесеных магіл, непастаўленых помнікаў...

Таму трыццатага кастрычніка гэтага года — памятны дзень, калі нарэшце здзейснілася адно з такіх пачынанняў. З дапамогаю Міністэрства культуры і друку, Мінгарвыканкама, Саюза мастакоў (які, па сутнасці, і з'яўляецца гаспадаром музея), Беларускай акадэміі мастацтваў на вуліцы Я. Коласа, 29 "а" адчыніўся Музей сучаснай беларускай скульптуры імя А. Бембеля. Ён пакуль зусім невялікі: бальшая зала з варыянтам вядомага помніка М. Гастэлу, сямейнымі здымкамі мастака і музейны пакойчык з работамі скульптара, у асноўным — малымі формамі. Але галоўнае — пакладзены пачатак, працягам якога, магчыма, стане адкрыццё музея ў доме-майстэрні другога мэтра беларускай скульптуры Заіра Азгура, як гэта было абвешчана на чарговым з'ездзе мастакоў і на вечарыне, прысвечанай адкрыццю Музея сучаснай скульптуры.

Андрэй Бембель — адна з найбольш яркіх асоб у гісторыі беларускай культуры. Згадайма яго самыя вядомыя скульптурныя кампазіцыі: барэльефы на Доме Ўрада, у Доме афіцэраў, на абеліску-помніку на плошчы Перамогі ў Мінску, бюсты М. Гастэлы, А. Матросава, абеліск на Кургане Славы. А мноства скульптур, што былі створаны ім за гады творчасці — ад шматлікіх помнікаў Леніну да партрэтаў Мендзялеева, Міцкевіча, Купалы? І ацэньваем мы ягоныя работы сёння не па ідэалагічных адзнаках, не па тэматыцы, а па выдатным майстэрстве, па моцы выканання, па прызнанні і агульнай вядомасці, якімі не быў абдзелены Андрэй Ануфрыевіч.

Аб гэтым гаварылі на ўрачыстай вечарыне, прысвечанай адкрыццю Музея сучаснай скульптуры, ганаровыя госці, прадстаўнікі міністэрстваў, Саюза мастакоў, вучні ягонай, Бембелеўскай скульптурнай школы. Ёсць усе спадзяванні, што гэты музей стане тым месцам, дзе будуць пастаянна экспанавацца работы, якія назапасіліся за шматлікія гады ў фондах Саюза мастакоў, Нацыянальнага мастацкага музея і, на жаль, захоўваюцца там мёртвым грузам. Зрэшты, сорамна заставацца адзінай на тэрыторыі былога СССР рэспублікай, якая дасюль не мае Музея сучаснага нацыянальнага мастацтва і дзе дзяржава не клапоціцца, каб дапамагчы зацікаўленым арганізацыям вырашыць гэту праблему.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**





*Зачадчык кафедры скульптуры БелАМ Ул. Слабодчыкаў на адкрыцці музея.*



*Дачка мастака Клара Бембель.*

# ПАД ДЭВІЗАМ "НЕБЯСПЕКА-СНІД"

Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Міністэрства аховы здароўя, Беларускі саюз мастакоў абвясцілі (з 25 кастрычніка па 25 лістапада 1995 года) чарговы тур конкурсу на стварэнне лепшага плакатнага твора пад дэвізам "Небяспека-СНІД". Удзельніку конкурсу трэба падаць свае прапановы журы па адрасе: г. Мінск, вул. Казлова, 3, Палац мастацтваў. Арыгіналы плакатаў павінны быць наклеенымі на кардон (60х90; 70х108) і выкананыя ў тэхніцы, якая найбольш даспадобы аўтару (гуаш, тэмпера, фотамантаж). За лепшыя работы ўстаноўлены тры прэміі: адна першая — 2 млн. рублёў, адна другая — 1 млн. 500 тысяч рублёў, адна трэцяя — 1 млн. рублёў.

# БЛАГІХ ФЕСТЫВАЛЯЎ НЕ БЫВАЕ

**Кінафестываль "Лістапад" нарадзіўся восенню мінулага года, стаўшы ў шэраг буйнейшых фестываляў СНД — "Кінатаўр", "Кінашок", "Сузор'е", "Залаты віцязь", "Кінафорум" і абвяргаючы гаворкі пра кіно як пра індустрыю забавы, а не мастацкай творчасці.**

**Сёлетні фестываль супаў са стогадовым юбілеем кіно, што вымагала стварэння сапраўднага свята кінамастацтва. І трэба адзначыць, што энтузіязм генеральнага прадзюсера фестывалю, дырэктара студыі "Тэле-Арс" БСК Сяргея Арцімовіча і яго каманды быў узнагароджаны.**

**Адкрыццё фестывалю здзівіла публіку не столькі арганізацыйнай пышнасцю (чаму яшчэ нам трэба вучыцца), колькі багаццем гучных імёнаў: Сяргей Салаўёў (старшыня Саюза кінематаграфістаў Расіі), Марка Рудзінштэйна (генеральны прадзюсер кінафестывалю "Кінатаўр"), Валерый Гушчын (генеральны дырэктар кінафестывалю "Сузор'е"), Сяргей Наважылаў (генеральны дырэктар "Кінашока"), Аляўціна Чынарава (начальнік Упраўлення фарміравання творчых праграм Раскамкіно) і іншыя. Усе яны пажадалі "Лістападу" доўгага творчага жыцця, а М. Рудзінштэйн нават адзначыў прамое сваяцтва "Кінатаўра", дзе прэзідэнтам Алег Янкоўскі, і "Лістапада" на чале з ягоным прэзідэнтам Расціславам Янкоўскім.**

**Арганізатарамі кінафестывалю выступілі Міністэрства культуры і друку РБ, Беларускі Саюз кінематаграфістаў сумесна з МАТ "Кінацэнтр" і Канфедэрацыяй Саюзаў кінематаграфістаў СНД пры спонсарстве СП "Весса-Бел", ЗАТ "Корпак-Плюс", АП "Крыніца" і інш.**

**Аўтарытэт любога фестывалю складаецца з многіх фактараў, аднак на першым месцы заўсёды была якасць кінапрадукцыі, прадстаўленай на фестывальным экране. У праграме "Лістапада-95" былі лепшыя фільмы, створаныя кінематаграфістамі былога СССР за апошні год, якія паспяхова ўдзельнічалі ў міжнародных кінафестывалях і атрымалі прызнанне крытыкі.**

**На працягу васьмі дзён, з 29 кастрычніка па 5 лістапада, у мінскіх кінатэатрах "Кастрычнік" і "Цэнтральны" дэманстраваліся 15 фільмаў, якія прадстаўлялі кінематографы Расіі, Украіны, Азербайджана, Казахстана і Беларусі. Мінская публіка сустрэлася з вельмі рознымі фільмамі як па жанрах, так і па стылістычных манерах такіх вядомых рэжысёраў, як П. Тадароўскі, В. Абдрашытаў, К. Шахназараў, В. Мяньшоў, В. Рубінчык, М. Ібрагімбекаў, А. Чарных і іншыя. Восем дзён экран разважаў, спрачаўся, выкрываў, іранізаваў. Хоць ашаламляльных адкрыццяў і сенсацыйных прэм'ер на фестывалі не было. Мінская публіка, знудзіўшыся па сапраўдным кіно, была чуйнай, патрабавальнай і ўдзячнай. Практычна на ўсіх фільмах былі аншлагі. Цікавасць да карцін была абумоўлена таксама прысутнасцю іх стваральнікаў: рэжысёраў, акцёраў, прадзюсераў, якія прадстаўлялі свае работы перад паказамі фільмаў і на сустрэчах з творчай моладдзю Мінска. А наогул, благіх фестываляў не бывае. Нягледзячы на некаторыя арганізацыйныя недахопы, свята кінематографа адбылося. Давайце пажадаем "Лістападу" знайсці сваё аблічча і ўвайсці ў добрую працоўную форму. А таксама — большай увагі з боку Міністэрства культуры і друку РБ. Магчыма, тады ў нашага кінафестывалю з'явяцца шанцы скласці канкурэнцыю кінафорумам — з тых двухсот, якія штогадова ладзяцца ў самых розных краінах свету.**

**Наталля ЕЎДАКІМАВА**

# ІРМЕ ЯЎНЗЭМ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА...

**18 лістапада — нацыянальнае свята нашай суседкі Латвіі — Дзень абвяшчэння дзяржаўнасці. Рада таварыства "Беларусь — Латвія", клуб "Спадчына" школы N 11 у Мінску падрыхтавалі своеасаблівы падарунак да такой даты: правялі пасяджэнне клуба ў гонар дачкі латышскага народа, заслужанай артысткі Беларусі Ірме Яўнзэм (1897—1975). Яна нарадзілася ў Мінску, сабрала сотні пярлінак вуснай народнай творчасці беларусаў і бездакорна іх выконвала. У сталіцы нашай рэспублікі доўгі час існавала латышскае зямляцтва — у доме, дзе жыла Ірма Яўнзэм.**

**Са згадкаю пра незабыўную латышку выступіў перад вучнямі школы Уладзімір Юрэвіч.**

**-Сяргей ПАНІЗНІК, старшыня рады таварыства "Беларусь — Латвія"**

*Уражанне*

# ХАЦЕЎ БЫ ПАРАДАВАЦЦА З ВАМІ...

Калі б усё было добра, можа б, і гэтыя вершы не нарадзіліся. Але ў паэтаў "усё добра" не бывае. І не будзе. Ім гэта — супрацьпаказана. Калі ж наадварот, то будзь сабе кім заўгодна: шаўцом, краўцом, машыністам, кадэбістам, зацейнікам, "парцейнікам", — але не паэтам...

Дык вось — аб вершах, якія нарадзіліся.

І не толькі. Яны выйшлі ў людзі. Маю на ўвазе ўсяго толькі адзін нумар часопіса "Першацвет", на вокладцы якога пазначана: "Кастрычнік, 1995". Чаму "ўсяго толькі адзін"? Ды проста так атрымалася. Мог бы і іншы нумар "абазваццa": "Першацвет" шчодры на імёны і знаёмствы.

І ўсё ж — аб "нашым": N 10...

Пэўна, "зачапілі" за жывое — двое — Кацярына Варанцова і Ігар Шарай. Іх паэтычныя нізкі стаяць побач уполплечкі, чуюць дыханне і пульс адно аднаго...

"Вершы пішу змалку, але пачуццё таго, што гэтая змучаная, усё роўна як сонная, зямля — мая Радзіма, прыйшло не так даўно. Мяне вельмі турбуе лёс Беларусі, беларускай мовы, гісторыі і культуры. На жаль, пакуль я нічым не магу дапамагчы маёй краіне (мне толькі семнаццаць гадоў), акрамя як сказаць у яе адрас колькі шчырых слоў"...

Што ж — для "семнаццаці" і гэта нямала. А яшчэ калі і словы тыя, мяркуючы па фота, зусім дзеўчаняці, праўда, з чупрынай задзірыстай, па-чаротаўску віхравейнай. Гэта Кацярына Варанцова — са Слуцка:

**... топчуць краіну каменныя людзі...**

І —

**Стаяць і смяюцца каменныя людзі,**
**смяюцца, таму што ў нямое каменне**
**паспелі яны апрануць пакаленне.**

Каця разумее, што яна з гэтага пакалення. Але — не з "каменных". Бо на вуснах у яе пытанне: "Чаму гэтак сталася, што з намі будзе?.." На вуснах — бо пытанне не толькі і не сама да сябе, а найперш — да пакалення: "Як жа вам, бязглуздым, даказаць, што на гэтай мове можна марыць!" — Хай не надта выкшталцона з боку паэтычнага, але затое — не ў брыво, а ў вока!.. Як і гэты запыт — ужо не да пакалення, а ад імя пакалення:

**Нам трэба ведаць: з кім ісці,**
**галоўнае ж — куды.**

Запомнім: гэта Кацярына Варанцова, — пытаецца і шукае адказы на свае пытанні...

У Ігара Шарая (ён з Белаазёрска) пытанняў менш — больш сцверджанняў. Але ў іх — гэткі ж самы боль і крыж пакалення, — хоць ён не ўсеагульны, не ўсеахопны, а вельмі асабісты, інтымны:

**Ну вось і мы здарожыліся. Колькі**
**нам засталося? Вечнасць альбо ўздых?**
**І нашы стрэчы — быццам нашы болькі:**
**чым больш баляць, тым болей прагнем іх.**

Цяжка быць фізіянамістам, асабліва на аснове двух фотаздымкаў. Але от жа гэтыя прычоскі, гэтыя вусны... Якія розныя яны! Зноў і зноў параўноўваю — не крыўдзячы нікога, а знаходзячы "нервовыя" нітачкі ад зрокавага да сутнаснага: Ігар, прыкладам, і да абранніцы — толькі на "вы":

**не трымайце, — калі не да сэрца,**
**не ганіце, — калі да душы...**

Ён і з жыццём у своеасаблівых, як бы тут сказаць, не "гераічна" — наступальных, а ў медытатыўна-засяроджаных стасунках:

**О не, яшчэ не думаем аб смерці.**
**Адкуль жа прысмак смерці на губах? —**

На што Кацярына Варанцова, як вастрыё стралы, скіроўвае: "і лёгка так згаджаешся на смерць...", — адрасаванае асенняму лісту, а, між тым, і (невядома-незнаёмаму) Ігару. Хлапечая хватка ў гэтай Каці!..

А то яшчэ — Ганна Бутырчык:

**Ты жыві, як жывеш. Не зважай на бяду,**
**што бянтэжыць штодня,**
**абярнуўшыся Ганнай... —**

гэта яна сама пра сябе, як бы гледзячы збоку, але з такой гаркотай — не столькі для Яго, колькі для Сябе, Ганны, якая бачыць:

**Пантофлі чужыя кахання**
**старанна вартуюць твой дом...**

Не хацелася б упадабляцца аглядальніку ад крытыкі (і вышукваць нейкія праекцыі, скажам, на Каменнага госця, Камандора, у выпадку з "каменнымі людзьмі", або на Ахматаву — з Ганнай), — я толькі пра тое, што прачыталася мне, мінуючы ўсялякую папярэднюю зададзенасць. Я і чытаў гэта, каб проста чытаць, — у штодзённай маёй электрычцы Мінск—Зялёнае. Але, чытаючы, адчуваў:

**Над зямлёю плылі галасы**
**растрывожаных восенню продкаў...**

Пра гэта мне гаварыў верш Міколы Сенькаўца, верш, у якім чуўся голас, пульсавала музыка (не ведаю — хваліцьза гэта ці ўшчуваць) прозы ці, прынамсі, яе памежжа з паэзіяй, — паслухайце:

**Ішоў восеньскі дождж.**
**Ціхі, цёплы і нейкі самотны.**
**Свечкі плакалі воскам, ды ўсё ж**
**не адплакаць сваёй адзіноты... —**

можа, гэта (не будзем падказваць...) гукае Міколу проза: "Жыву ў Давыд-Гарадку. Зусім нядаўна скінуў пагоны і пайшоў працаваць на завод. Гэту паэтычную нізку я назваў проста: "З напісанага ў войску"...

Старонка за старонкай: у каго верш, у каго абразок, у каго страфа ці радок, альбо адзінае — ды трапнае — слоўка... Але ж не толькі мне, самотнаму чытачу — "не бойся й сонцу крышачку адкрыцца", — скажам усім аўтарам "дзесятага нумара" словамі іх "судзесятніка" Міколы Віча.

Хацеў бы парадавацца з вамі, усімі, хто любіць паэзію (ёсць паэты — жыве надзея!), калі б не горкія* думы, прамоўленыя юнымі — мудрымі і абцяжаранымі жыццём...

**Васіль ЗУЁНАК**

Уладзімір КОНАН

# ВЫКЛІК НЕБУ

## ПРАБЛЕМЫ ВЫЖЫВАННЯ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ ВА ЎМОВАХ НЕАТАТАЛІТАРЫЗМУ

На першым Міжнародным кангрэсе Беларускага Пэн-цэнтра (Іслач, травень 1994 г.) я звярнуў увагу на антыноміі паміж фармальнай дэмакратыяй і культурай, асабліва ў тых рэгіёнах, дзе адбываецца адраджэнне раней "адсунутых" з гістарычнай сцэны народаў, аднаўленне іх дзяржаўнасці, мовы, школы, свабоднай прэсы. Няўдача дэмакратыі ва ўмовах этнанацыянальнай, эканамічнай, сацыяльна-палітычнай дэстабілізацыі — з'ява вядомая ад старажытнасці, зафіксавана Арыстоцелем яшчэ ў IV ст. да г.э.

Наш век пацвердзіў хісткасць фармальна "свабодных" выбараў як асноўнага крытэрыю дэмакратыі. Свабода — каштоўнасць духоўная, у пэўным сэнсе элітарная, да яе трэба дарасці. Як вядома, у 1933 г. партыя Гітлера прыйшла да ўлады праз "свабодныя" выбары, а сам фюрэр тады ж стаў дыктатарам — рэйхсканцлерам і прэзідэнтам Германіі. І гэта ў краіне з высокай агульнай і прававой культурай, дзе вопыт парламенцкіх выбараў і рэферэндумаў набываўся з сярэдзіны XIX стагоддзя.

Але вярнуся да Беларусі. На жаль, беларускі феномен — не зразумелі, альбо не захацелі зразумець не толькі "далёкія" амерыканцы, італьянцы, французы, але і нашы блізкія суседзі — расіяне, палякі, літоўцы, немцы, з якімі нам прыходзілася жыць разам.

Прывяду два прыклады. Сёлета ў часопісе "Нёман" апублікаваны артыкул нямецкага палітолага Астрыд Зам "Беларусы: вопыт самаідэнтыфікацыі", з якім я ўжо спрачаўся (рэдакцыя часопіса, дзякуй ёй, у тым жа нумары змясціла мой каментарый да артыкула). Вось як пачынаецца артыкул спадарыні Зам: "Белорусы никогда не были самоорганизованной и общепризнанной нацией. Самостоятельного белорусского государства практически не существовало вплоть до 20-го столетия". Адсылаю тых, хто захоча разабрацца ў гэткіх міфах пра Беларусь, да свайго палемічнага артыкула.

Зусім нядаўна незалежная газета "Свабода" перадрукавала з расійскай "Общей газеты" артыкул Д. Фурмана "Президент Лукашенко — вождь восточных славян". На жаль, без свайго беларускага каментарыя. Тут ужо справа тычыцца адказнасці незалежнай прэсы (расійскай і беларускай) перад сваім і суседнім народамі. Я не аспрэчваю палітычную ацэнку Д. Фурманам "феномена Лукашэнкі", бо там ёсць горкая праўда. Але калі аўтар спрабуе гаварыць пра Беларусь і беларусаў, то сам збіваецца на банальную лукашэнкаўшчыну. Вось што ён піша пра беларусаў і беларускія каштоўнасці: "В отличие от третьего восточнославянского брата — украинцев, они (белорусы — **У. К.**) не имели традиции национального государства или <u>протогосударства</u> (падкрэслена мною. — **У. К.**), борьбы за независимость, своего "эпоса" освободительных войн".

А што ж усё-такі мелі і маюць беларусы? — спытаемся ў аўтара. Свайго прэзідэнта Лукашэнку, адказвае Д. Фурман і піша: "Он имел (...) явную близость своих сумбурных воззрений и ценностей к воззрениям и ценностям белорусского народа".

Няхай прабачаць мне выдаўцы газеты "Свабода", але іхняга нованабытага аўтара інфармацыйная наіўнасць мяжуе з цынізмам. Бо пан Лукашэнка навідавоку ўсяго свету выракаецца беларускіх нацыянальных каштоўнасцяў — мовы, культуры, сімволікі, гісторыі. Урэшце, ён замахнуўся на інтэлектуальную свабоду і школу — будучыню Беларусі. Да таго ж неяк публічна заявіў, што "мы — рускія". Некаторыя наіўныя журналісты прынялі такую заяву як агаворку.

Быццё народа рэалізуецца ў трох вымярэннях: мінуўшчыне, сучаснасці і будучыні. Абсалютнай рэальнасцю валодае толькі тое, што "адбылося". Сучаснасць мімалётная, а будучыня праблематычная, яны — хутчэй эвентуальныя, чым актуальныя рэальнасці. Беларусь мае за сабою тысячагадовую традыцыю, якая адбылася, сталася рэальнасцю. Яе сёння Лукашэнка і ягоная каманда сваімі "забаронамі" беларускіх падручнікаў абяцаюць "предать забвению", абвясціць "неіснуючай". А гэта ўжо выклік Небу. Выклік не праметэеўскі, не Культурнага Героя, а хутчэй Трыктэра — дэманічна-камічнага дублёра. Але даўно было сказана вялікім прарокам-евангелістам: "Дух дыхае, дзе хоча, і голас яго чуеш, а не ведаеш, скуль прыходзіць і куды адыходзіць".

Дарэчы, незалежны друк ва ўсходнеславянскім рэгіёне пачаўся з Беларусі. Нагадаю, што беларус Ф. Скарына ў 1517—1519 гг. выдаў у Празе навукова-папулярную Біблію ў сваім перакладзе на родную мову і са сваімі каментарыямі. Гэта былі свабодныя кнігі, бо прыйшлі ў свет без санкцыі царкоўных і свецкіх уладаў і без іхняй цэнзуры. Беларусь страціла сваю дзяржаўнасць, дзяржаўную мову, школу на роднай мове і сваё кнігадрукаванне ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай (1772—1795 гг.) і далучэння Беларусі да Расіі ў якасці "ўскраіны", а фактычна — унутранай калоніі. Да распаду Расійскай імперыі ў 1917 годзе ў Беларусі не было ніводнай беларускай школы, а беларускі легальны друк аднавіўся толькі пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг. Беларуская дзяржава адрадзілася і абвешчана незалежнай Беларускаю Народнаю Рэспублікаю 25 сакавіка 1918 года. За два гады ва ўмовах ваеннай разрухі БНР аднавіла беларускі друк і нацыянальную школу. Кароткі

(Працяг на стар. 15)

---

*Выступленне на II Міжнародным кангрэсе Пэн-цэнтра*

*Галоўнаму рэдактару "Літаратуры і мастацтва" сп. ГІЛЮ М.С.*

*Шаноўны Мікола Сымонавіч*

*Тут, у Празе, толькі цяпер наладжваецца парадак з поштай, і спадзяёмся, што калі "ЛіМ" будзе выходзіць, дык будзем яго атрымліваць. Хацелася б на гэта разлічваць, бо роля штотыднёвіка, як выглядае, яшчэ больш важная, а задача больш цяжкая, чым у слаўную пару перабудовы. Яно і зразумела — цяпер ілюзій менш, а багна ды цемра больш глыбокія.*

*Тым часам хачу прапанаваць Вашай (і чытачоў) увазе свой тэкст. Гэта фрагмент дакументальнай работы, якая яшчэ ў працэсе, і называецца "Перад свабодай. (Нататкі перабежчыка)". Усё напісанае — праўда, у той, вядома, ступені, у якой напісанае можа быць праўдай. Калі зацікавіць — буду рады пабачыць на старонках "ЛіМа".*

*З найлепшымі пажаданнямі А. ЛУКАШУК.*

*Радыё "Свабода", Прага, 17.10.95.*

Аляксандр ЛУКАШУК

# КЕНГУРУ

Я даўно падазраваў, што ўласцівыя мне маральная нястойкасць і палітычная беспрынцыповасць звязаныя з колькасцю выпітага, але нейкім незразумелым чынам. Прамую залежнасць не ўдавалася вывесці, нягледзячы на рэгулярныя спробы адшукаць ісціну. Мой аднакурснік, які працаваў настаўнікам на Віцебшчыне, хваліўся парадкамі ў сябе ў школе. Калі памёр Чарненка, падзею вырашылі адзначыць у калектыве. У спартыўнай зале накрылі жалобны стол, дырэктар адкрыў сход. З прамовай выступіў мой знаёмы — ён лічыўся прапагандыстам, за што яму ў дадатак да нямецкай мовы далі права выкладаць чарчэнне і музыку.

Стоячы выпілі за памін душы нястомнага барацьбіта за мір, вернага ленінца, выдатнага дзеяча сусветнага камуністычнага і міжнароднага рабочага руху. Пасля паднялі тост за мір увогуле, потым за вернасць курсу. Затым за камуністычны рух і асобна за рабочы.

— Потым выпілі за жанчын, фізік збегаў па магнітафон і да раніцы танцавалі пад Высоцкага, — завяршыў расказ аднакурснік.

У дадзеным выпадку адбылася паступовая эвалюцыя: савецкае мерапрыемства плаўна перацякло ў антысавецкае. Але бывала і іначай. Калі Сталіну даклалі, што аўдыторыя літаратурнага вечара ўстала, каб вітаць Ганну Ахматаву апладысментамі, ён спытаў: "Хто арганізаваў уставанне?" Пытанне, як і ўсё сталінскае, было геніяльнае. Гэта адчулася асабліва выразна пасля таго, як аднойчы я асабіста арганізаваў уставанне і авацыю Брэжневу Леаніду Ільічу (ён тады яшчэ лічыўся жывым).

Здарылася гэта ў горадзе, які быў некалі сталіцай княства, меў слаўную контррэвалюцыйную гісторыю, а потымператварыўся ў звычайны райцэнтр з макароннай фабрыкай, камбінатам бытавога абслугоўвання, цукровым і піўным заводамі. Прычым уставанне праходзіла не на піўзаводзе, а ў гарадскім палацы культуры. Праўда, перад гэтым была экскурсія на піўзавод.

— Раней казалі: піва няма, толькі тутэйшае. А зараз наадварот, — хвастаў патрыёт-інструктар гаркама. Пасля дэгустацыі некалькіх гатункаў мясцовай вытворчасці гэтае цьмянае сцвярджэнне было цяжка аспрэчыць.

У горад я патрапіў у якасці суправаджэння пры аташэ ў справах культуры пасольства Кубы ў СССР. Неяк сакратар мясцовага гаркама наведаў востраў Свабоды. Пасля турпаездкі раён быў абвешчаны пабрацімам астраўной правінцыі, дзе, нягледзячы на перамогу рэвалюцыі, па-ранейшаму добра рос цукровы трыснёг. З яго ў беларускім гарадку рабілі жоўты цукар, які мясцовыя жыхары адмаўляліся купляць. З часу гістарычнай турпаездкі ў дадатак да ўласных святаў у горадзе бурна адзначалі чырвоныя дні кубінскага календара. Якраз у такі дзень напярэдадні Новага года горад упершыню рыхтаваўся да сустрэчы карыбскага абарыгена.

Аташэ скончыў савецкі універсітэт і не патрабаваў перакладчыка, з Масквы ў Менск дабраўся самастойна. Далей, аднак, паводле дыпламатычнага статуса ён чамусьці не мог ехаць адзін (як высветлілася пазней, перасцярога была нялішняя).

На раённай мяжы нашу "Волгу" перапынілі машыны ДАІ. Гэта быў эскорт, высланы з райцэнтра. З-за недахопу жыццёвага вопыту я не змог своечасова ацаніць усю сур'ёзнасць чакаемых выпрабаванняў, што і прывяло потым да інцыдэнту з авацыяй.

Спачатку нас завезлі ў паказальна-ўзорную вучэльню, дзе рыхтавалі механізатараў шырокага профілю і апаратараў машыннага даення (так у дакладах тады называлі трактарыстаў і даярак). Пасля агляду тэхнікі, пакоя працоўнай славы і дошкі гонару дырэктар запрасіў перакусіць з дарогі. Было ранавата, мы нядаўна снедалі, але сказаць, што накрыты стол узбуджаў апетыт — нічога не сказаць. У бронзавым баршчы плавалі айсбергі смятаны, вулканам дымілася адварная бульба, пупышкі на марынаваных гурках нагадвалі дзявочыя грудкі. Як ракеты на пускавых пляцоўках, чакалі каманды запацелыя бутэлькі "Сталічнай".

— Яму можна свініну? — ціха пытаўся дырэктар. І паспешліва дадаваў: — На чыстым масле!

Старт на арбіту інтэрнацыянальнай дружбы быў дадзены. Калі мы прыехалі ў гаркам, нас ужо выглядала знерваваная сакратарка па ідэалогіі.

— Графік, аміго, графік! Павінна быць рэвалюцыйная дысцыпліна! У нас шмат справаў!

Аднак перад тым, як пазнаёміць са спісам мерапрыемстваў, яна прапанавала ўшанаваць гістарычны момант. Стрэліла шампанскае, зазвінелі бакалы, на закуску былі выстаўлены шакаладныя цукеркі і апельсіны. У планах значылася наведванне краязнаўчага музея, азнаямленне з вытворчасцю на піўзаводзе, візіт у прыгарадны калгас і ўрачысты мітынг у палацы культуры.

— Але спачатку — абед, таварышы чакаюць!

Мясцовы рэстаран сустрэў вывескай "Спецмерапрыемства". Здалёк здалося, што на ўсю даўжыню банкетнай залы выцягнуты слуцкі пояс: геаметрыя халодных закусак, ікорніц з маслам і графінаў з морсам паўтарала "ўзор радзімы васілька", з якім мы знаёміліся гадзіну назад у сельгасвучэльні. З той розніцай, што тутэйшы ўзор стракацеў усімі колерамі вясёлкі: каньячна-гарэлачныя вырабы і настойкі дастойна сімвалізавалі моц дружбы савецкіх народаў. Па марачных вінах можна было вывучаць геаграфію краіны. Члены бюро райкама і іншае мясцовае начальства, мяркуючы па нервовай паспешнасці, з якой пацісkaліся рукі, даўно прагла практычнага вывучэння. Культурны аташэ прафесійна ацаніў сітуацыю і ўзяў курс на поўны парытэт і раўнапраўе бакоў.

З надзвычайнай вытрымкай кар'ернага дыпламата ён не прапусціў ніводнай перамены страў: пасля асятрыны, паштэта і рыбнага рулета пакаштаваў ружовую паляндвіцу, малочную вяндліну і вэнджаны гавяжы язык. За булёнам з прафітролямі наступіла чарга ягнячых адбіўных і запечанага ў цесце карпа, якога падалі з лімоннымі долькамі і іспанскімі маслінамі замест вачэй. Дранікі з чырвонай ікрой былі прадстаўлены як узор нацыянальнай кухні, і таму не паспытаць іх было немагчыма. Колькасць тостаў не саступала колькасці страў. На дэсерт прынеслі брусніцы ў мёдзе, арэхі ў цукровай пудры і па кавалку цяжкага пірага, які сачыўся ў страснай знямозе быць неадкладна з'едзеным.

Падняцца пасля такога стала азначала парушыць законы прыроды. Грузная сакратарка ўспырхнула, як сінічка. Члены бюро прыхапілі па яблыку. Пасланец карыбскага вострава не дапіў толькі каву, яе падалі ў стаканах з падстаканнікамі. У машыне я прасіў вадзіцеля рэзка не паварочваць — баяўся расплёхаць выпітае.

— Кава, — мармытаў кубінец, — павінна быць чатыры разы вельмі: вельмі гарачая, вельмі моцная, вельмі чорная і вельмі мала!

— У нас так робяць піражкі з мясам, — пагаджаўся вадзіцель.

Наведанне музея прайшло ў паўсне. Зноў пілі шампанскае, прычым сакратарка высыпала цукеркі з дзвюх вазачак сабе ў сумку. Візіт на піўзавод працвярэзіў, але дзіўна паўплываў на вестыбулярны апарат: пры поўнай яснасці мыслення ногі не падпарадкоўваліся камандам цэнтральнай нервовай сістэмы.

Зімні дзень кароткі, і калі мы ўехалі на тэрыторыю калгаса, на небе ўжо прарэзаліся першыя зоркі.

— Што вы будзеце рабіць на ферме? — задаў філасофскае пытанне вадзіцель і заявіў, што ў Савецкім Саюзе і на Кубе каровы аднолькавыя, а ноччу яшчэ дарога назад. Сакратарка спрабавала запярэчыць, але культурны аташэ назваў вадзіцеля сапраўдным марксістам і ў выніку кароткай дыскусіі мы пракаціліся па цэнтральнай вуліцы, развярнуліся каля заснежанага помніка і накіраваліся да хаты старшыні.

У той вечар я ўведаў, што выразы "дым стаіць каромыслам" і "стол ломіцца ад страў" зусім не гіпербалы, а тэхнічна дакладнае апісанне бытавых фізічных працэсаў. У хаце варылі, парылі і смажылі з раніцы. У клубах пары мільгалі цені, бразгацелі чыгуны, нешта злосна шыпела і курчылася ў печы. Лысы, як калена, гаспадар правёў у светлы пакой, які амаль увесь займала канструкцыя, падобная да аэраплана братоў Райт. Аднак узляцець яму не было суджана ні пры якіх абставінах. Нясучыя плоскасці зверху выглядалі, як літара "Н", у якой сярэдняя злучальная рысачка прарэзала правую вертыкаль і вытыркнулася далёка ўбок. Эфект этажэркі дасягаўся шматслойнай структурай дапаможных плоскасцяў, якія ўтваралі рознай формы сподачкі, мелкія і глыбокія талеркі, салатніцы, сатэрніцы, соусніцы, місы, бляхі і тазы, што грунтаваліся адны над аднымі. Гарэлачныя галоўкі пункцірна выступалі над верхнім слоем посуду і нагадвалі алюмініевыя заклёпкі на фюзеляжы.

— Гэта толькі закускі, — пасляхова супакоіць старшыня, па-свойму прачытаўшы выраз на маім зменены тварам. — Гарачае будзе потым. Спецыяльна для госця зайца ўпалявалі. Фаршаваныя зайцы на Кубе ёсць? — звярнуўся ён да культурнага аташэ.

— Зайцоў на Кубе пакуль няма, — цвёрда адказаў той. — Але Фідэль і партыя вядуць нястомную барацьбу.

Праўленне калгаса азвалася ўхвальным гулам. Аперацыя рассадкі прайшла пасляхова, калі не лічыць пары сінякоў ад сутыкненняў з цэбрамі заінелага халадцу. Заціснуты паміж парторгам і перадавой цялятніцай з ордэнам Леніна на грудзях, я мог назіраць толькі фрагмент дыслазіцыі. Салёныя грузды хаваліся за марынаванымі баравікамі і смажанымі рыжыкамі. Каля шаткаванай капусты з журавінамі пунсавелі бачкавыя памідоры з наліплым смародавым лістом. Праз горы вантрабянкі выступала крывянка і крупяніца, побач з напластаваным кумпяком ласніліся вэнджаныя, сушаныя, печаныя кілбасы хатняга прыгатавання. Дзве бабкі — з бульбы і морквы, яйкі з сечаным селядцом, лустачкі свежага сала, галубцы, дэфіцытныя шпроты, нешта падобнае на авечы сыр...

Пабачыўшы, што мая талерка пустая, суседка спытала, ці каштаваў я калі кішкі з цялячай пячонкай, і прызналася, што сама гатавала. Пячонку яна ўзбівае ў ступцы, крышыць булку, улівае густой смятаны, потым дадае тоўчаных арэхаў, маярану, смажанай цыбулі, па правілах добра б уліць конаўку чырвонага віна, але ж з мужыком дома хіба тое віно дастаіць, разбівае чатыры яйкі, жаўткі варыць у булёне, кішкі абмывае халоднай вадой і смажыць на масле. Я набраўся духу, заплюшчыў вочы, пакаштаваў і выказаўся ў тым сэнсе, што ордэн ёй далі правільна, але не за тое. Мне паабяцалі даць пячонкі з сабой — ўсё роўна падзёж на ферме такі, што... Тым часам на супрацьлеглым баку стала ішла свецкая гутарка на міжнародныя тэмы.

— Хрэну вазьміце, хрэн на Кубе ёсць? — ветліва цікавіўся старшыня.

— Хрэн на Кубе ёсць, толькі салодкі, — адказваў асавелы госць.

— Жывуць жа людзі, — уздыхала мая суседка.

— Не перажывай, Сцяпанаўна, знойдзем табе салодкі! — абяцаў парторг.

Раптам дзверы расчыніліся, заверашчаў прыціснуты кот і ў пакоі пацямнела. На вялізным падносе ў зараслях пятрушкі і кропу, абкладзены маркоўнымі зорачкамі і бураком, пакрыты бура-залацістай скарыначкай узвышаўся гатовы да скачка кенгуру.

За апошнія гады мне давялося там-сям пабываць і тое-сёе пакаштаваць. У партовай рыбнай лаўцы ў Александрыі я еў смажаную на грылі рыбу-меч, у начным рэстаране "Неба Парыжа" смакаваў паштэт з гусінай пячонкі, у лонданскім "МЕЕРЭЦІ", адным з лепшых марскіх рэстаранаў свету, глытаў свежыя Фіндэклеры і яшчэ тры віды вустрыц, назваў якіх не помню. Бязлітасна халодным зімнім днём апякаўся цыбульным супам у ірландскім рэстаране на Манхэтэне, мой нож уваходзіў, як у масла, у далікатнейшую выразку з аргенцінскага высакагорнага быка ў рэстаране "Марэда", від на Рыа-дэ-Жанейра з дваццаць пятага паверха пяцізоркавага атэля "Цэзар" не мог адцягнуць вачэй ад дэсерту з тузіна трапічных фруктаў. У замку Фушль на поўначы Аўстрыі гатавалі неверагоднае сядло баранчыка, у Чыкага я сядзеў за столікам першай у свеце Піца-хат, у Венецыі ўзломваў інквізітарскім ключом панцыр лобстэра з вусамі, як у Сальвадора Далі.

Калі ў мюнхенскім рэстаране "Гурмэ" (19 з паловай зорак з дваццаці магчымых у класіфікацыі Гу Міё) каля нашага століка пачалі гатаваць соус для замоўленага голуба, японская пара здымала працэс відэакамерай, пакуль не скончылася стужка. Падчас аднаго з прыездаў у Антверпен мае сябры паклікалі свайго знаёмага, повара адзінага на той час у Бельгіі чатырохзоркавага рэстарана (паводле класіфікацыі Мішлін). Ён з'явіўся з дзвюма скрынямі інструментаў, адных нажоў налічвалася штук васемнаццаць, і гатаваў нам вячэру — гэта было, як бы Джон Ленан прыйшоў да вас у кватэру і заспяваў "Yesterday".

Але нідзе і ніколі я не перажыў такога патрасення, як у вясковай хаце старшыні калгаса, калі на стол узДвіглі смажанага кенгуру. Тое, што ўнесеная жывёліна адносілася да атрада сумчатых, а не дробных грызуноў, у мяне не выклікала ніякага сумнення.

— Раз, два, тры, чатыры, пяць, выйшаў зайчык пагуляць! — праспявала сакратарка па ідэалогіі.

— Піф-паф, ой-ёй-ёй, памірае зайчык мой! — падхапіў парторг.

— Патрыя о муэртэ — радзіма альбо смерць! — крыкнуў кубінец і ўсадзіў відэлец у фаршаванага монстра. Мяне замуціла і я выскачыў на марознае паветра.

Далей падзеі развіваліся так: недзе праз гадзіну сумеснымі з вадзіцелем намаганнямі і пры ідэалагічнай падтрымцы райкомаўскай сакраткі мы вырвалі аташэ з застолля, бо катастрафічна пазніліся на ўрачысты мітынг. Да райцэнтра было кіламетраў дваццаць. Ехалі ўжо з чвэрць гадзіны, як вадзіцель раптам пабялеў і пачаў рэзка тармазіць: упоперак дарогі стаяла машына і нехта махаў. На накатаным снезе "Волгу" развярнула і бокам пасунула на людзей, якія чамусьці рушылі да нас.

Калі мы выскачылі з аўтамабіля, знаёмыя галасы старшыні і парторга сустрэлі нас дружным воклічам: "На пасашок!" У гэтым месцы праходзіла мяжа калгаса, і гаспадары не маглі адпусціць госця без аглаблёвай. На капот узгрувасцілі скрыню з прыпасамі, забулькаў каньяк, усе чокнуліся і выпілі. Я прыгубіў і шукаў, як бы незаўважна выліць рэшту ў снег, калі быў схоплены на месцы злачынства.

— Ты камуніст? — спытаў парторг.

— Беспартыйны.

— Тым болей. Што скажа камарад аташэ?

— Венцэрэмас — мы пераможам! — нечакана адгукнуўся той.

— Пі, — падвёў рысу парторг.

Горш ужо не будзе, падумаў я і пад пільным наглядам інтэрнацыянальнай кампаніі ўліў у сябе шклянку. Пасля ўсіх удараў дня каньяк быццам не падзейнічаў. Выпілі па другой і па трэцяй. Стала шумна, горача, нікуды не трэба было спяшацца. Праважаючыя то крычалі ў вуха, то ўвогуле знікалі. Хвілінная стрэлка на гадзінніку рухалася скачкамі...

Калі наша "Волга" падкаціла да палаца культуры, грамадскасць даўно ўжо спрабавала разбегчыся, але вопытныя арганізатары зачынілі дзверы. Мы распрануліся ў кабінеце дырэктара, аташэ асвяжыўся шампанскім, сакратарка зноў высыпала сабе ў сумку цукеркі, і нас правялі ў прэзідыум. Госця віталі ад імя горада і раёна, кубінец выступіў у адказ, прычым, як мне здалося, па-іспанску, але зразумела: "Манкада", "Гуантанама", "Плая Хірон", "мучачас", "мачэтэ", "Чэ", як тады называлі рэвалюцыйнага бандыта Чэ Гевару... Пасля да мікрафона па чарзе выходзілі прадстаўнікі грамадскасці з залы і прадстаўнікі прэзідыума, якія зачытвалі амаль аднолькавыя тэксты і паўтаралі тыя ж самыя вызначэнні. Я перастаў слухаць і страціў

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## РЫХТУЕЦЦА АЛЬМАНАХ ДЗІЦЯЧАЙ КУЛЬТУРЫ

**Каталіцкая акадэмія ў Гамбургу ўжо каторы год рыхтуе і выдае альманахі дзіцячай культуры розных краін свету. Убачылі свет кнігі пра развіццё літаратуры, мастацтва, музыкі, тэатра для дзяцей у Германіі, Аўстрыі, Венгрыі, Прыбалтыцы.**

**Як правіла, у такія альманахі ўключаюцца аналітычныя артыкулы пра тое, што зрабіла нацыя, яе творцы для дзяцей у апошняе стагоддзе. Друкуюцца творчыя партрэты найбольш вядомых дзеячаў культуры і літаратуры, кароткія біяграфіі ўсіх пісьменнікаў, хто працуе для дзяцей.**

**Па дамоўленасці з дырэктарам акадэміі Гюнтэрам Гершэнекам чарговай кнігай гэтага папулярнага серыяла стане альманах дзіцячай культуры Беларусі. Мы павінны падрыхтаваць рукапіс кнігі і перакласці на нямецкую мову, падабраць неабходныя малюнкі і фотаздымкі. Далей за справу бярэцца рэдкалегія акадэміі ў Гамбургу. Яны даводзяць тэкст да друкавання і бяруць на сябе ўсе выдаткі па выхадзе кнігі ў свет. Ёсць згода, што наша кніга будзе выпушчана па-нямецку і па-беларуску ў наступным, 1996 годзе.**

**Нямецкія сябры выкупляюць увесь тыраж, клапоцяцца, каб кніга трапіла ва ўсе важныя бібліятэкі свету, у тым ліку ў бібліятэку Ватыкана, кангрэса ЗША і г. д. Частку тыражу, як падарунак, акадэмія прэзентуе бібліятэкам і чытачам Беларусі.**

**Выхад такой кнігі ўхваліў міністр культуры і друку рэспублікі Анатоль Бутэвіч, ён напіша прадмову да яе. Пра змест альманаха ішла зацікаўленая размова на чарговым пасяджэнні секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў. Створана ініцыятыўная група па выпрацоўцы плана кнігі і збору матэрыялу для яе. Узначаліў беларускую рэдкалегію кнігі галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі. У яе склад увайшлі пісьменнікі Яўген Каршукоў, Павел Місько, Міхась Пазнякоў, Маргарыта Яфімава, Уладзімір Ягоўдзік, мастак Яўген Ларчанка.**

**Рэдкалегія просіць усіх, хто мае канкрэтныя прапановы і цікавыя пажаданні па змесце гэтай кнігі, а таксама па магчымых яе аўтарах, звяртацца па тэлефонах: 36-83-12, 20-92-61 (Уладзімір Ліпскі), 36-35-01 (Яўген Каршукоў).**

**Праявім нашу падтрымку і актыўнасць!**

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

## 700 ГОД СЯБРОЎСТВА

**Аб прысутнасці чэшскай культуры на Беларусі гаварылася на вечарыне, якая прайшла ў Беларускім Доме дружбы 14 лістапада. Да правядзення сустрэчы з перакладчыкамі чэшскай літаратуры, дзеячамі музыкі і мастацтва спрычыніліся сябрына "Беларусь — Чэхія" пры Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і пасольства Чэшскай Рэспубікі на Беларусі. Спадар Душан Доскачыл пазнаёміў прысутных з гісторыяй утварэння незалежнай дзяржавы чэхаў і славакаў (абвешчана 28 кастрычніка 1918 г.), згадаў пра падзеі "аксамітнай рэвалюцыі" ў Празе.**

**Згадваліся некаторыя моманты з 700-гадовай гісторыі чэшска-беларускіх ўзаемадачыненняў. Цікавай, да прыкладу, з'яўляецца задума Рэфарматарскага збору на Беларусі ўстанавіць мемарыяльную дошку ў Віцебску ў гонар наведання гэтага горада гусіцкім прапаведнікам Еранімам Пражскім у 1413 г. На Беларусі засталіся згадкі аб наведанні нашага мацерыка вучонымі Адальфам Чэрным, Францішакам Ціхім, Людвікам Кубам... На нашых гутах працавалі ў свой час багемскія спецыялісты. А былі ў нас яшчэ і чэшскія лекары (К. Яніш), і музыканты (Э. Ванчура — у шклоўскім тэатры С. Зорыча), і мастакі... Па сённяшні дзень застаюцца на карце нашай дзяржавы населеныя пункты з назвамі Чэхі, Чэхаўшчына, Чэхавічы... Фактаў такой сяброўскай прысутнасці, будзіцельскага адзінаверства можна набраць на тоўстую кнігу. Аб выданні такога "помніка" чэшска-беларускага спараднення таксама ішла гаворка ў Доме дружбы. Там жа экспанавалася выстава твораў мастака Мікалая Рыжыкава "Мінск — Прага — Браціслава".**

**Разам са спадаром Д. Доскачылам быў накрэслены план агульных мерапрыемстваў на 1996 год.**

**С. ПАПАР**

# РАВЕСНІК КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРА

***75 гадоў — Андрэю Макаёнку... Менавіта толькі так хочацца гаварыць пра яго, народнага пісьменніка Беларусі, аднаго з самых знакамітых нашых драматургаў. Колькі гадоў мінулася, як Андрэя Ягоравіча не стала. Тым не менш — ён па-ранейшаму жывы. У літаратуры. У тэатры. У нацыянальнай культуры. Бо Макаёнак — гэта з'ява, а з'ява з цягам часу набывае яшчэ большую напоўненасць. І вымагае куды больш глыбокага спасціжэння і асэнсавання.***

***Вядомы даследчык беларускай драматургіі Сцяпан Лаўшук у сваім не зусім юбілейным артыкуле робіць адну з проб такога асэнсавання.***



Глыбокай восенню 1984 года ў складзе невялікай пісьменніцкай дэлігацыі, якую ўзначальваў тадышні сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Чыгрынаў, ездзіў я ў Журавічы, дзе ў мясцовай сярэдняй школе мелася быць адкрыццё музея народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Макаёнка. Даехалі на літфондаўскім рафіку без прыгод, азнаёміліся з экспазіцыяй музея, а вечарам у будынку РДК удзельнічалі ў літаратурнай вечарыне. Адгаварыўшы кожны сваё, саступілі сцэну мясцовым артыстам. Сам канцэрт не запомніўся, як, магчыма, не запомнілася б і ўся паездка, калі б не адзін эпізод...

Маёй суседкай у глядзельнай зале аказалася маладжавая жанчына з мясцовых. І не проста з мясцовых, а блізкая зямлячка Андрэя Макаёнка. Ды яшчэ якая блізкая — сведка самых першых імгненняў зямнога існавання славутага ў будучым драматурга.

Я ўжо і тады не быў маладзёнам і прафесіяналам нібыта лічыўся, аднак праявіў сябе ў той сітуацыі надта ж непрафесійна. Трэба было б адразу ж хапацца за дыктафон, распытваць ды запісваць. Як мага падрабязней! Бо пра такіх буйных асоб айчыннай культуры ніякая падрабязнасць дробнай не бывае. Але...

Але вернемся да аповяду жанчыны. Вядома, сама яна павітухай з-за ўзросту быць не магла, а трапіла на народзіны са сваёй бабкай, якую мусіла суправаджаць з-за кволасці здароўя апошняй. Жудасна і цікава было ёй, васьмігадовай, назіраць за адным з самых велічных актаў Прыроды. Што ж запомнілася найбольш ярка?

З'явіўся хлапчук на белы свет нейкім надта ўжо нахмураным. Крычаў гучна і патрабавальна, але не доўга. Заціх, мусіць, для таго, каб сапсаваць першую сваю пялюшку (бач ты, здзіўлялася малая, не кармілі яшчэ, не паілі яго, а ён "фантаніруе!"). Новую ж пялюшку ўспрыняў прыладай ушчымлення асабістай свабоды, усім сваім выглядам паказваючы, як яму непрыемна працэдура спавівання. "Хара-а-кцяр, — усміхнулася бяззубым ротам павітуха, — хай лёгкай будзе твая жытка".

Лёгкага жыцця ў А. Макаёнка не атрымалася, а характар і сапраўды ад самага нараджэння меў моцны. Макаёнкаўскі характар! Зрэшты, можа, і жыццё лёгкім не атрымалася таму, што характар у драматурга быў мужчынскі, неканфармісцкі, што заўсёды імпэтна пярэчыў ён, калі яго творчую свабоду спрабавалі абмежаваць пры дапамозе моцных "спавівачоў".

Сёння пад небам Беларусі ўсталявалася "нялётнае надвор'е". Вясна змяняе зіму, лета — вясну, а над роднай старонкай усё лунае і лунае восеньскі дух. Шэрань зусім не залатой восені забіла ўсе поры грамадскага арганізма. Зябка, непрыветла, непрывычна... Тубыльцы паныла бурчаць, праклінаюць сваё жабрацка-бязрадаснае існаванне, безнадзейна чакаючы, калі і хто пакліча іх на акцыі пратэсту. Калі і хто... Адно магу сказаць зусім пэўна: Андрэй Макаёнак, дажыві ён да нашага часу, не маўчаў бы, не здолеў бы маўчаць.

Ёсць, праўда, ў сённяшняй нашай рэчаіснасці і сёе-тое станоўчае. Назаву хоць бы спробы "праінвентарызаваць" банк духоўных каштоўнасцей. Перш за ўсе таго, што зроблена, што адбылося за перыяд пасля 1917 года (зрэшты, не толькі за гэты). Для слатлівага часу — хоць які ды занятак. Не насмяшыць бы толькі нашчадкаў, бо некаторыя няўрымслівыя пераглядрадыкалы, не дужа абцяжарваючы сябе інтэлектуальнымі высілкамі, механічна мяняюць на шкале вартасці плюсы мінусамі, белае мажуць чорным, чорнае спрабуюць выдаць зіхатліва-светлым. Ды нічога! З гэтымі "ацэншчыкамі" праблем не будзе: хто мае вочы — ды ўбачыць. Складаней з іншымі, якіх варта было б назваць селектыўпераглядчыкамі. Яны аперыруюць фактамі і толькі фактамі. Але селекцыянуюць іх, старанна адбіраюць дзеля ўласнай далёка не аб'ектыўнай канцэпцыі. Напрыклад, з "фрэскі" нараджэння А. Макаёнка яны выбралі б "эцюд-эпізод" з падмочваннем першай пялюшкі, праігнараваўшы малюнак у цэлым. І праўды нібыта не парушаюць, і лгуць, разам з тым, беспардоннейшым чынам...

З гэтымі, паўтараю, складаней, але... Смешнымі здаюцца мне спробы некаторых прыхільнікаў "новага прачытання" твораў мінулага часу ўсумніцца ў высокай мастацкай вартасці драматургічнай спадчыны Андрэя Макаёнка, бо надта ж цяжка, амаль немагчыма адшукаць такую падмочаную анучу, каб схаваць ёю ўсё зробленае нашым выдатным сатырыкам-грамадзянінам.

Рыхтуючы даклад на міжнародную навуковую канферэнцыю, прысвечаную сямідзесяціпяцігоддзю купалаўскага тэатра, я паспрабаваў вызначыць месца кожнага беларускага драматурга ў развіцці нашага славутага тэатральнага калектыву. Лідэрства А. Макаёнка ў гэтай справе відавочнае. Побач з Кандратам Крапівой ён быў самым "рэпертуарным" драматургам-купалаўцам. На п'есах А.Макаёнка вырасла цэлая плеяда выдатных акцёраў, удастоеных ганаровых званняў, лаўрэацкіх адзнак. Дзесяць прэм'ер па яго творах убачылі гледачы на сцэне купалаўскага тэатра, кожны раз вітаючы дружнымі апладысментамі нешараговую, адметна-яркую падзею ў культурным жыцці рэспублікі.

У сувязі з гэтым варта, мусіць, сказаць некалькі слоў аб праблеме ўзаемаадносін паміж нацыянальнай драматургіяй і нацыянальным тэатрам. На Беларусі яна з пэўнай вастрынёй паўстала 25—30 гадоў назад, калі некаторыя нашы рэжысёры паспрабавалі ўсумніцца ў абсалютнай ісціне, што без нацыянальнай драматургіі немыслімы нацыянальны тэатр. Сярод гэтых сумнявальшчыкаў не апошнюю скрыпку трымаў мастацкі кіраўнік купалаўскага тэатра В. Раеўскі. І што ж? За сваё некароткае рэжысёрскае жыццё ён паставіў шмат твораў зарубежнай драматургіі. У тым ліку і класікі. Аднак лепшым яго спектаклем, паводле аднадушнай думкі спецыялістаў, з'яўляецца пастаноўка макаёнкаўскага "Трыбунала".

Каго толькі не ставілі на купалаўскай сцэне: Шэкспіра, Мальера, Гётэ і Шылера, Брэхта і Нушыча, Астроўскага і Чэхава, Горкага і многіх іншых выдатных пісьменнікаў, а сапраўднага поспеху тэатр дасягаў тады, і толькі тады, калі знаходзіў творчае паразуменне з айчыннымі драматургамі. І ў першую чаргу — з Кандратам Крапівой і Андрэем Макаёнкам.

Гэта факты, а яны, як гаварыў адзін класік, — рэч упартая. Хіба ж не факт, што менавіта 70-я гады, на якія прыпадае творчы росквіт шчодрага таленту А. Макаёнка, былі надзвычай плённымі і для купалаўцаў? Зрэшты, яго п'есы і ў ранейшыя дзесяцігоддзі становіліся своеасаблівым допінгам для беларускіх тэатраў.

У пачатку 50-х гадоў у рэпертуары тэатра імя Якуба Коласа былі "Жывы труп" Л. Талстога, "Тры сястры" А. Чэхава, "На дне" М. Горкага, "Настаўнік танцаў" Лопэ дэ Вэга, "Шторм" У. Біль-Белацаркоўскага і інш. У купалаўцаў таксама не было браку на гучныя імёны і славутыя творы: "Вішнёвы сад" А. Чэхава, "Анна Карэніна" Л. Талстога, "Жаніцьба Бальзамінава" А. Астроўскага, "Каварства і каханне" Ф. Шылера, "Нора" Г. Ібсена і г.д. Аднак не гэтыя спектаклі, а макаёнкаўская сатырычная камедыя "Выбачайце, калі ласка!" удыхнула новыя сілы ў працу гэтых двух вядучых тэатральных калектываў Беларусі. Больш таго, п'еса беларускага драматурга дапамагла ўзняцца да новых мастацкіх вышынь многім тэатрам за межамі Беларусі, стаўшы такім чынам фактам не толькі беларускай, але і сусветнай культуры.

Так, ужо недзе з сярэдзіны 50-х гадоў імя Андрэя Макаёнка пачало набываць усё больш шырокую міжнародную вядомасць, пік якой прыпаў на пачатак 70-х гадоў. Бліскучыя камедыі беларускага драматурга з трыумфальным поспехам прайшліся па сцэнах соцень тэатраў Савецкага Саюза. Мець у рэпертуары п'есу А. Макаёнка лічылі за гонар многія знакамітыя тэатры. У тым ліку і за межамі СССР.

Праўда, гэта зусім не азначала, што ў яго не было ніякіх праблем з "абнародваннем" сваіх твораў. Былі. Ды яшчэ і якія.

Пакінем у спакоі ідэалагічных наглядчыкаў — служба ў іх такая сабачая была. Аднак і пасля таго, як усе дазволы ўдавалася атрымаць, складанасці не канчаліся. Прынамсі, нават у купалаўскім тэатры, дзе А. Макаёнка, здавалася б, цанілі і любілі, не спяшаліся, як правіла, з пастаноўкай яго п'ес. "Нічога, — скрушна жартаваў Андрэй Ягоравіч, — паставяць у Маскве, дык і нашы заварушацца".

Было... Што было, тое было. Але пісьменнік крыўды стараўся не затойваць. Ён добра ўсведамляў, што п'есы свае пісаў не для маскоўскіх тэатраў, што тут, на радзіме, патрэбна яго слова. І дзеля гэтага не баяўся прадзірацца праз любыя церні, праз завіці нядобразычлівасці і неразумення. Вялікай любоўю да Айчыны акрылялася яго муза. Ён бываў усякім: гнеўным, вясёлым, задзірыстым, жорсткім, несправядлівым, а вось абыякавым — ніколі. Асабліва турбаваў яго лёс Беларусі, яе будучыні. Даводзілася чуць, нібыта А. Макаёнак не быў патрыётам роднай мовы. Мне давялося шмат гаварыць з ім на гэты конт, таму магу засведчыць, што такое абвінавачванне не мае падстаў. Калі ж майго сведчання мала, паклічу на дапамогу чалавека староннягa.

Вядомая руская даследчыца-тэатразнаўца І. Вішнеўская згадвае: "Калі Макаёнак гаворыць аб роднай мове, ён нібы пераўтвараецца. Куды дзяваюцца гумарыстычныя слоўкі, іранічныя інтанацыі, жарсткаватая цвярозасць гаворкі, так уласцівыя Макаёнку звычайна. Успыхваюць агеньчыкі рамантыкі, адчуваецца пяшчотнасць вернага сына, узнікае мудрасць даследчыка, уражвае вопыт словашукальніка, словаўтваральніка".

Так, ён быў верным сынам сваёй Айчыны. Быў, вядома, і пяшчотным. Але часцей усё ж заставаўся гнеўным і насмешлівым: ці ж да пяшчотнасцей, калі розныя Каліберавы, Моцкіны, Глуздаковы, Цесаковы, Ухватавы ды Гудзеевы чыняць у жыцці ўсялякія кепствы. З такімі — бой! У імя святой мэты: каб людзі — сапраўдныя людзі — не журыліся.

**Сцяпан ЛАЎШУК**

## НАДРУКАВАНА Ў "ТЭХНАЛОГІІ"

***За апошні час у продажы з'явілася нямала кніг з серыі, заснаванай Беларускім фондам Сораса. Усе яны перакладзены з англійскай мовы і прадстаўляюць такія галіны ведаў, як філасофія, сацыялогія, эканоміка, культуралогія і многія іншыя. Нядаўна ў Доме дружбы і культурнай сувязі адбылася прэзентацыя некалькіх такіх выданняў. Сярод іх "Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі" Энтані Сміта, "Выбух камунікацыі" Філіпа Брэтона і Сэржа Пру, "Гістарычныя ўводзіны ў філасофію" Джоўна Лоўзі, "Дапаможнік для журналістаў".***

***На прэзентацыі, дзе слова бралі каардынатар фонду Сораса А. Анціпенка, дырэктар Цэнтра Еўрапейскіх даследаванняў "ЕЎРАФОРУМ" І. Бабкоў, прэзідэнт незалежнай выдавецкай суполкі В. Багдановіч, гаварылася, што гэта толькі першыя вынікі праекта, які прадугледжвае выхад каля 100 кніг з сусветнай скарбніцы ведаў. У нейкім сэнсе гэта праца — на заўтрашні дзень Беларусі, на яе будучыню.***

***Большасць з кніг, прадстаўленых на прэзентацыі, выдадзена ў "Тэхналогіі". На рахунку выдавецтва шмат іншых адметных выданняў. Асобныя з іх мы і прадстаўляем сёння ўвазе нашых чытачоў.***

# СВЯТЛО, ДАБРЫНЯ І ЧАЛАВЕЧАЯ ГОДНАСЦЬ

Феномен беларускай культуры ў тым, што ў яе далёка не заўсёды трапляюць натуральным шляхам: **сямейнае выхаванне — адукацыя — праца...** Найчасцей чалавек вымушаны шукаць сваю, родную, культуру ў ценю іншай, "масавай", і на пэўным адрэзку свайго жыцця ламаць стэрэатыпы, самога сябе прыводзіць да беларушчыны. Так ёсць — цяпер — асабліва для творчых людзей гарадскога паходжання, так было і на пачатку стагоддзя... Прычым, згадзіцеся, у такіх варунках этнічная прыналежнасць асобы не адыгрывае ролі. Часам мне здаецца, што ў беларушчыну трэба ўвераваць — настолькі яе атрыбуты няпэўныя для раўнадушнага вока. Можа, таму прыхільнікі беларушчыны на Беларусі ніколі не былі ў большасці — бо вера, яна ж патрабуе духоўных высілкаў дый пэўнага духоўнага росту.

Сярод тых, хто ўвераваў у Беларусь, была дачка віленскага купца-немца Юліяна Мэнке, у шлюбе — Вітан-Дубейкаўская. Гэтае імя шмат што кажа знаўцам нашай культуры. Бо непарыўна звязана з легендарнай асобай Івана Луцкевіча — чалавека, які стаяў ля вытокаў беларускага Адраджэння, які менавіта моцай сваёй веры паспрыяў развіццю культуры свайго народа.

...У Нюрнбергу ў 1953 годзе пажылая немка піша ўспаміны. Піша на беларускай мове. Згадвае Вільню пачатку стагоддзя... Стварэнне першых беларускіх класаў... Беларускай гімназіі... Выданне газеты "Наша Ніва"... Першую сусветную вайну... Рэвалюцыю... Купалу, Цётку, Лёсіка, Тарашкевіча, Аляхновіча... Але галоўнае — сваё першае каханне. Першае, і, як яна сцвярджае ўжо цяпер, на схіле дзён — адзінае і непаўторнае. Каханне да Івана Луцкевіча, чалавека ідэі, інтэлігентнага, чулага, вясёлага, але і — непахіснага барацьбіта за шчасце, за будучыню роднага краю, непрымірымага, нястомнага, нязломнага... Чалавека, які мог замест хлеба купіць на апошнія грошы цікавы экспанат для беларускага музея. У гарачцы, на мяжы жыцця і смерці, сарвацца з ложка, каб вырашыць якуюсь справу ў Беларускім камітэце. І адкладаць, бясконца адкладаць шлюб з каханай жанчынай дзеля вечных бясконцых спраў... І якім жа павінна было быць тое каханне, калі не прыгасілі яго ні тыя "цяжкія варункі", ні невылечная хвароба, ні смерць, ні многія гады жыцця пасля смерці каханага...

Таварыства беларускай культуры ў Літве, Незалежнае выдавецтва "Тэхналогія" дапамаглі чытачу сустрэцца з успамінамі Юліяны Вітан-Дубейкаўскай, "Кветкі Вітан", як падпісвалася яна. Рукапіс успамінаў спадарыня Юліяна перадала роднай сястры Івана Луцкевіча Аміліі Шабуні і яе дачцэ Яніне Каханоўскай у Нью-Йорк. Адтуль, праз дваццаць год пасля смерці аўтаркі, "Успаміны" трапілі ў Вільню, да Лявона Луцкевіча, пляменніка Івана Луцкевіча. І вось — кніга перад намі. Напісаная ў Нюрнбергу, захаваная ў Нью-Йорку, набраная ў Вільні, надрукаваная ў Мінску накладам 700 паасобнікаў.

*Юліяна Вітан-Дубейкаўская. "Мае ўспаміны", Вільня, 1994.*

Так надарылася, што я пазнаёмілася са зместам "Успамінаў" не з гэтага выдання, а ў рукапісным варыянце. "Успаміны" мяне ўразілі. У іх было тое, што я вызнаю ў жыцці і творчасці: прыстойнасць і палкасць пачуццяў.

Чысціня, набожнасць, вернасць, інтэлігентнасць, самабытнасць... Адчувалася, што аўтарка не хацела стварыць ані мастацкі твор, ані палітычны дакумент. Таму не да месца будзе ані ацэньваць мастацкія вартасці "Маіх успамінаў", ані правільнасць гістарычнай трактоўкі тых ці іншых фактаў. Можа быць, галоўным у іх з'яўляецца тое, што сфармуляваў Адам Мальдзіс, калі на пачатку 1980-х прачытаў гэты рукапіс у Лонданскай беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны: "з рукапіса можна даведацца мноства каштоўных звестак аб беларускім літаратурным жыцці пачатку XX стагоддзя". Але, на мой погляд, ёсць ва ўспамінах нешта больш каштоўнае: партрэт вялікага кахання, amor ardens, кахання палаючага... Кахання, непарыўна звязанага з любоўю да радзімы — адной — і ў немкі-лютэранкі Юліяны, і ў беларуса-каталіка Івана Луцкевіча. Праз усю кнігу праходзіць скразны вобраз будучай цудоўнай краіны — Беларусі, і праз усю ж кнігу — чаканне гэтай цудоўнай прышласці... Паралельна з чаканнем уласнага "собскага" шчасця... Будзе Беларусь — будзе час і магчымасць стварыць "собскае" гняздо... Падумаць пра сябе... Адсюль — адвечная чалавечая трагедыя: калі асабістыя інтарэсы ставяцца ў залежнасць ад грамадскіх, асабістае шчасце залежыць ад тых ці іншых гістарычных падзей — асабістае заўсёды прайграе... Гісторыя не ведае літасці, і "лепшыя часы" — паняцце міфічнае...

Мне давялося выслухаць меркаванне пра "Успаміны" Юліяны Вітан-Дубейкаўскай адной вядомай творчай асобы. Меркаванне было такім, што ва ўспамінах шмат што прыўкрашана, ідэалізавана, што на старасці год аўтарка апісвала падзеі не такімі, якімі яны ўспрымаліся ёю ў маладосці... Што цяжка паверыць у такое шчырае, самаахвярнае каханне... Цяжка ўявіць, што абставіны перашкаджалі Івану Луцкевічу на працягу некалькіх гадоў абвянчацца са сваёй нявестай і, фактычна, жонкай; увогуле — паверыць у шчырасць гэтых людзей, іх адданасць беларускай справе... Ды і ў самую гэтую справу...

Як бачым — ізноў — усё завязана на паняцці веры. А верыць ці не верыць — зноў жа справа сумлення, заснаванага на пэўнай ментальнасці. Я — веру. Веру, што "тыя людзі" былі менавіта такімі, здольнымі і на вялікую ахвярнасць, і на вялікае каханне... Адданымі і сумленнымі да апошняга... І — ці нам судзіць іх асабістыя адносіны, калі самі яны адзін аднаго не судзілі?

Ёсць і яшчэ адна каштоўнасць успамінаў — яны абвяргаюць абвінавачванні беларускіх адраджэнцаў у нацыяналізме ў сэнсе этнічнай замкнёнасці. Які тут нацыяналізм, калі вось святкуюць Каляды ў сям'і немцаў Мэнке, і за адным сталом сядзяць прадстаўнікі беларускага адраджэння і ўкраінскага руху, палякі, немцы, вернікі практычна ўсіх хрысціянскіх канфесій... І пануе за сталом атмасфера духоўнасці і згоды. Калі на магілу Івана Луцкевіча ў Закапанэ ўскладаюць вянкі ўкраінцы (з надпісам "Борцові Белорусі від братів українців"), немкі Юліяна ды Ляля Мэнке, мясцовыя іх знаёмыя-палякі, а з беларусаў не прыехаў на пахаванне ніхто...

Што ж, феномен беларускай культуры і ў тым, што, выбіраючы яе "банкам" для ўкладу свайго таленту, нельга разлічваць на працэнты. Прынамсі, у відочнай прышласці. Дай Божа, каб уклад твой зусім не змарнавалі, не забыліся на яго ў пыльных нетрах сховішчаў. Адна радасць — што, аднойчы ўкладзены, твой дар ўсё-ткі не дарэмны, падтрымае, хаця й нябачны, існаванне культуры твайго народа.

Не ведаю, наколькі можна назваць Юліяну Вітан-Дубейкаўскую выбітнай асобай. Наколькі мне вядома, яна і сама сябе такой ніколі не лічыла. Нам яна цікавая менавіта сваёй блізкасцю да Івана Луцкевіча, да беларускага адраджэнскага руху. Напэўна, павінна прысутнічаць у яе ўспамінах і натуральная ідэалізацыя — на якую аўтарка мае абсалютнае права.

На заканчэнне хочацца прывесці цытату з анонса, змешчанага на апошняй старонцы вокладкі кнігі: "Каханне і шчырая вера дапамагаюць Юліяне Мэнке і Івану Луцкевічу прайсці праз усе нягоды часу і захаваць у сваіх душах святло, дабрыню і чалавечую годнасць".

Вось гэтага хочацца пажадаць усяму нашаму народу.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

# ДОЎГІ ШЛЯХ ВЯРТАННЯ

У серыі "Бібліятэка беларускай дыяспары" выйшла з друку кніга Алеся Вініцкага (1891—1972) "Матэрыялы да гісторыі Беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадах". Аўтар кнігі — вядомы дзеяч беларускага замежжа. Ён адзін з тых тысяч беларусаў, якіх вайна пазбавіла радзімы. У часе нямецкай акупацыі сп. Вініцкі займаўся школьніцтвам. У канцы вайны трапіў у Германію, працаваў на фабрыцы і ў сельскай гаспадарцы. З прыходам амерыканцаў застаўся ў іхняй акупацыйнай зоне. А. Вініцкі браў удзел у стварэнні і працы Беларускага камітэта ў горадзе Рэгенсбургу, а потым і Беларускага Цэнтральнага Камітэта, быў сябрам Рады БНР. З 1956 года жыў у Злучаных Штатах Амерыкі, кнігу скончыў за некалькі месяцаў да смерці.

У 1991 г. кніга трапіла ў Беларусь, вяліся перамовы з выдавецтвам "Беларускай энцыклапедыі". Узяўся за выданне Міхась Ткачоў, які загадваў на той час рэдакцыяй гісторыі. Але заўчасная смерць нашага слаўнага гісторыка і патрыёта перапыніла справу. Сёння кніга нарэшце пабачыла свет у выдавецкай суполцы "Тэхналогія", але, на жаль, малым накладам — усяго 1200 асобнікаў.

Кніга складаецца з дзвюх частак. Першая ахоплівае час Другой сусветнай вайны (1939—1945 гг.), другая — час пасля капітуляцыі Нямеччыны (7.5.1945—31.12.1951 гг.). Мабыць, найбольш цікавымі для нашага чытача будуць звесткі пра дзейнасць беларускіх арганізацый на акупаванай немцамі тэрыторыі БССР. Да нядаўняга часу, у адпаведнасці з догмамі камуністычнай ідэалогіі, кожны, хто ў часе вайны не стаў пад чырвоны сцяг, лічыўся здраднікам і ворагам. Нават проста вымушанае знаходжанне на акупаванай тэрыторыі (немагчыма ж цэламу народу эвакуіравацца) трактавалася, як злачынства, як пляма ў біяграфіі. Што ж тады казаць пра тых, хто ў часе акупацыі спрабаваў ладзіць школьніцтва, вытворчасць альбо вясковую гаспадарку, займаўся культурніцкай дзейнасцю...

Кніга А. Вініцкага падводзіць да думкі, што "калабарацыянізм", і "калабарант" у адносінах да жыхароў Беларусі — гэта не так проста і адназначна, як здаецца некаторым. Будзем памятаць, што апошнія дзвесце гадоў у Беларусі панавалі чужынцы — расійцы, палякі, немцы, а мясцовы люд, не маючы магчымасці для актыўнага супраціўлення, быў вымушаны прыстасоўвацца да акупантаў. Так што за дзвесце гадоў набярэцца шмат "калабарантаў".

У другой палове 40-х — пачатку 50-х гадоў Заходняя Нямеччына была месцам, адкуль беларусы раз'язджаліся па свеце. У ДП-лагерах (DP — ангельская абрэвіятура: "перасяленыя (перамешчаныя) асобы") былі пачатковыя школы, школы для дарослых, гімназіі. Існавалі дзіцячыя садкі і арганізацыі скаўтаў, культурніцкія ўстановы. У ДП-лагерах беларусы, што засталіся на Захадзе, не пажадалі вярнуцца ў сталінскую імперыю, мелі нацыянальнае выхаванне і адукацыю, якіх былі пазбаўлены беларусы ў БССР. Мо адсюль і высокі патрыятызм гэтай плыні эміграцыі.

Жыццё не чужыне салодкім не было. Былі штодзённыя клопаты пра кавалак хлеба, быў і роздум "а што далей?" Аднак, да гонару нашых суайчыннікаў за мяжою, трэба сказаць, што яны здолелі ў той час, калі Беларусь была закрыта ад Еўропы "жалезнай заслонай", стаць паўнавартаснымі еўрапейцамі, людзьмі заходняй цывілізацыі, застаўшыся пры гэтым беларусамі, адданымі сваёй Айчыне. І сёння эміграцыя — гэта той мост, які звязвае Беларусь са Светам.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

# УСЁ ПРА АСОБУ

***"Асоба з псіхааналітычнага пункту гледжання" — так называўся раздзел з кнігі Уэстана Ла Бара "Culture in Context" (ЗША, 1980). Як асобная кніга ён выйшаў у незалежнай выдавецкай суполцы "Тэхналогія" ў перакладзе на беларускую мову Алеся Каўтаскіна (Масква).***

З'яўленне ў друку гэтай працы выклікана, як зазначае аўтар, адсутнасцю адпаведных тлумачэнняў некаторых поглядаў З. Фрэйда, якія б былі заснаваны на арыгінальных матэрыялах, а таксама значнасцю ўкладу яго тэорыі ў сучасную псіхіятрыю і, у пэўнай ступені, у сучасную псіхалогію.

Асаблівая ўвага звернута на найбольш адметныя рысы падыходу З. Фрэйда да псіхічных з'яў. Так, у адрозненне ад класічнай псіхалогіі, працэс мыслення ("думання"), разглядаецца ім зусім не як шлях адкрыцця прыроды рэчаіснасці; гэта нешта значна больш складанае — працэс дасягнення міру (пэўнай раўнавагі) паміж некалькімі супрацьдзеючымі сіламі. "Свядомы розум" — свядомае, суб'ектыўнае "эга", вымушана задавальняць патрэбы той часткі душы, якая завецца "ід"; у чалавека гэтыя патрэбы амаль такія ж (жаданне захаваць жыццё, здароўе, здольнасць да размнажэння) як і ў жывёлы. Рэакцыяй на іх ігнараванне з'яўляецца, як правіла, **неўроз.** "Эга" таксама вымушана эфектыўна прыстасоўвацца да навакольнага асяроддзя, бо мае патрэбу ў атрыманні біяхімічнай энергіі. Страта адаптацыйных магчымасцей у гэтым выпадку вядзе да **псіхозу.** І, нарэшце, "эга" павінна прыстасоўвацца да маральных патрабаванняў пэўнага грамадства, якія ўспрымаюцца як сумленне альбо "супер-эга". Калі ж асоба не ў стане зрабіць гэтыя маральныя патрабаванні сваімі, то магчыма **псіхапатыя.** Такім чынам, "эга" даводзіцца служыць тром гаспадарам адначасова: арганічнаму "ід", навакольнай рэальнасці і грамадскаму "супер-эга"; выказванне непаслухмянасці ў адносінах да любога з іх вядзе да неўрозу, псіхозу, псіхапатыі. Атрымліваецца так, што "эга" ніяк не з'яўляецца гаспадаром у сваім уласным доме.

Нярэдка "эга" вымушана звяртацца па дапамогу да разнастайных механізмаў псіхічнай засцярогі — рацыяналізацый, адмаўленняў, праекцый, канверсій. Але хранічнае злоўжыванне імі абарочваецца новымі складанасцямі. У крайніх выпадках рацыяналізацыя вядзе да шызафрэніі, адмаўленне — да істэрыі і г. д. Задача псіхіятра — адкрыць, даследаваць і зразумець характар даўніх уздзеянняў, якія захоўвае памяць хворага, і дапамагчы яму пазбавіцца ад іх. Зрабіць гэта, аднак, няпроста, бо неўратычныя сімптомы ў некаторым сэнсе карысныя для апошняга — не дазваляюць бачыць рэчы такімі, якімі яны ёсць на самай справе.

Выключная значнасць у кнізе надаецца сімвалічнаму зместу думкі, працэсу мыслення ў цэлым. Паколькі кожная падзея ў псіхічным жыцці чалавека, як зазначае З. Фрэйд, датэрмінавана ("звышнаканавана"), бо мае не адну, а мноства прычын, то гэтая комплекснасць можа знайсці ўвасабленне ў якімсьці сімвале ў сне. Закранута актуальная ва ўсе часы праблема ўзаемаадносін паміж паламі; адзначаецца нягнуткасць і нясхільнасць да кампрамісу "супер-эга" мужчыны і параўнальна большая пластычнасць жаночага "супер-эга". Звернута ўвага на суадносіны паміж псіхааналізам і канцэпцыямі Юнга, Адлера; даецца ацэнка некаторым псіхатэрапеўтычным методыкам.

**Мікалай ЯРЧАК,**
**прафесар**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЗУСІМ НЕ ГОСЦЕМ

адчуваў сябе сярод землякоў Уладзімір Паўлаў, а сваім чалавекам, якому блізкія і зразумелыя іх клопаты, які гатовы падзяліць іхнія трывогі. Любанцы ж, у сваю чаргу, з задавальненнем ішлі на сустрэчу са "сваім" пісьменнікам, у творах якога (як у паэзіі, так і ў прозе) вельмі адчуваецца прысутнасць малой радзімы.

Сустрэча была, так бы мовіць, юбілейнай (у сувязі з 60-годдзем Уладзіміра Андрэевіча) і праходзіла ў раённым Доме культуры. На яе сабраліся настаўнікі і вучні з усяго раёна.

Вядучым быў загадчык Любанскага раённага аддзела культуры В. Каток. Добрыя словы пра У. Паўлава і ягоныя кнігі прамаўлялі першы дырэктар Дарасінскай сярэдняй школы, якую ў 1954 годзе скончыў Уладзімір Андрэевіч, В. Радкевіч, старшыня Любанскага райвыканкама В. Сойка, сакратар праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў А. Пісьмянкоў, землякі У. Паўлава Н. Маеўская і І. Муравейка. Аздобіла вечарыну выступленне барда А. Атаманава.

У час урачыстасці быў і яшчэ адзін прыемны момант, які засведчыў, наколькі ў тутэйшых мясцінах невычэрпныя паэтычныя крыніцы: свае вершы прачытала зямлячка У. Паўлава пятнаццігадовая Жанна Ходзька.

## А "ЦЁМНАЕ ВІНО" НІЧОГА САБЕ...

– Гаворка, зразумела, ідзе не пра сам напой, які карыстаецца папулярнасцю ў многіх, а пра новую кнігу паэзіі Паўла Вераб'ёва "Цёмнае віно", выпушчаную нядаўна выдавецтвам "Мастацкая літаратура", прэзентацыя якой прайшла ў Доме літаратара. Вёў вечарыну сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Пісьмянкоў, выступалі — старшыня Саюза пісьменнікаў Васіль Зуёнак, Леанід Дранько-Майсюк, Анатоль Зэкаў, Уладзімір Ягоўдзік, паэтка і мастачка Антаніна Нявера...
А народны артыст Беларусі Павел Дубашынскі пазнаёміў прысутных з асобнымі творамі П. Вераб'ёва.

## ПАЦВЯРДЖЭННЕМ ДОБРАЙ ТРАДЫЦЫІ,

калі творы беларускіх пісьменнікаў часта з'яўляліся ў перакладах на іншыя мовы народаў былога Савецкага Саюза, стаў выхад у Татарскім кніжным выдавецтве асобнай кнігай аповесці Аляксандра Капусціна "Батальён першай перамогі". Гэты твор, у якім расказваецца пра Героя Савецкага Саюза капітана Аляксея Баталава, удастоенага гэтага звання за ўдзел у вызваленні ў 1941 годзе Жлобіншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, на татарскую мову пераклаў Лірон Хамідулін. Дарэчы, гэта другое выданне ў Казані згаданай аповесці А. Капусціна. Значна раней яна пабачыла свет па-руску ў перакладзе Максіма Валошкі.

## ДЗЕЛЯ ЎМАЦАВАННЯ ТВОРЧЫХ КАНТАКТАЎ

Старшыня бюро секцыі мастацкага перакладу і літаратурных сувязяў Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Чарота браў удзел у XXXII Бялградскай Міжнароднай сустрэчы літаратараў, якая праходзіла з 18 па 25 кастрычніка гэтага года. І выязджаў ён у сталіцу трэцяй Югаславіі з паўнамоцтвамі весці перамовы (распачатыя вясною ў Мінску) і падпісваць дакументы аб творчым супрацоўніцтве паміж беларускай і сербскай пісьменніцкімі суполкамі.

25 кастрычніка, адпаведна, быў складзены Рабочы Пратакол, які прадугледжвае ўмацаванне творчых і дзелавых кантактаў, а канкрэтна: удзел прадстаўнікоў дзвюх суполак у мерапрыемствах другога боку, узаемнае спрыянне публікацыям твораў пісьменнікаў у перакладзе, абмен інфармацыяй пра значныя падзеі аднаго і другога боку ў літаратурным працэсе і культурным жыцці.

Пратакол падпісалі ад імя СП Беларусі — Іван Чарота, ад імя Удружэння літаратараў Сербіі — яго старшыня Слобадан Ракіціч. Тэрмін дзеяння Пратакола ўключае 1995—1996 гады, але, як спецыяльна адзначана ў яго тэксце, ён будзе служыць грунтам для падпісання чарговых пагадненняў.

Дарэчы, у былыя часы такая справа мела б і шырокі рэзананс, і дзяржаўную падтрымку. А цяпер нават паездку ў Бялград не змаглі фінансаваць ні дзяржаўныя структуры, ні пісьменніцкая арганізацыя; грамадскія фонды таксама шчодрасці не праявілі. Дарожныя выдаткі І. Чароту пакрыла Беларускае праваслаўнае брацтва трох віленскіх мучанікаў.

Паэзія

Алесь БАДАК



# "РАСЦЕ Ў ЦІШЫ ТАЕМНЫ САД..."

## ТАЕМНЫ САД

Ж.

Дзе тонкай рысай далягляд
Злучае неба край з зямлёю,
Расце ў цішы таемны сад,
Вядомы толькі нам з табою.

Там сустракаюць нас заўжды
Анёлы ціхім песнапеннем.
З табой прыходжу я туды
Маліцца на твае калені,

На вусны і на голас твой
З нямою ўдзячнасцю за тое,
Што ўсё яшчэ яны са мной,
Як неба край — з зямлёю.

Ах, дзіўны сад, таемны сад!
Імчацца дачнікі на дачы,
Пасля вяртаюцца назад, —
Але ніхто яго не бачыць!

І нам бы толькі не забыць.
Ці перад крыўдай, ці абразай,
Што гэты сад для нас шуміць
Датуль, пакуль з табой мы разам.

●

Нашто ляціць твая душа
На хараство паўночных свечак
І не падумае спярша,
Чым гэта скончыцца сустрэча?!

Глядзі, як полымя дрыжыць
І на сцяну кідае цені.
Я пазнаю ў іх у цішы
Твае то рукі, то калені...

Глядзі, нібы ў нямым кіно,
Як мы з табой на шэрых здымках,
Нямыя цені п'юць віно
І заміраюць у абдымках.

Няўцям пакуль яшчэ ўсё ім,
Што свечкі хутка дагараюць,
І разам з полымем начным
Нямыя цені паміраюць.

Каб ведалі яны свой лёс!..
Каб ведала душа наперад,
Чым скончыцца яе палёт
На іншаю заняты бераг,

Яна б вярнулася назад.
А на патухлай свечкі цемя
Упала б цёплая сляза —
І плавілася б свечка ў цемры!

Але душа ляціць далей,
Агнём абпальваючы крылы.
І не ляцець за ёю ўслед
Не хоча Бог даваць мне сілы...

## СУСЕДКА

Як без канца машына
Сігналіць за спіной —
Штодня крычыць жанчына
Ў кватэры пада мной.

Муж не дае зарплату
І моцна п'е ўвесь час.
Увогуле, багата
Ў яе прычын крычаць.

Уткну ў падушку ўночы
Я моўчкі галаву,
І здасца, што ў замочнай
Шчыліне жыву.

Як у дзіравай лодцы
Збіраецца вада —
Праходзіць праз падлогу
Чужая мне бяда.

Затоплены даўно ёй,
Я ўжо даўно прывык,
Што тут жыве са мной
Суседкі грубы крык.

Крычы, гнявіся, лайся,
Даводзь яго віну.
Пад крык твой, як пад ласкі,
Я ціхенька засну.

Прыгожая суседка
З кватэры, як з 02,
Табе дарыць бы кветкі!
І ручкі цалаваць!

Сама нібыта кветка
Пад брудная нагой.
Я — твой маўклівы сведка —
Пакутую з табой.

Але калі падоўгу
Твой голас не чуваць,
Я слухаю падлогу —
І страшна засынаць.

## ШКОЛЬНЫЯ НАСТАЎНІКІ

Гады, як прыступкі, расстаўлены —
Угору, да самых нябёс.
Любімыя нашы настаўнікі,
Раскідаў па свеце нас лёс.

А стрэнемся — лета з восенню —
Не знаем, пра што гаварыць.
І вучымся новым адносінам,
Нібыта аслеплы — хадзіць.

## СКРЫТАЯ МІГРАЦЫЯ

З палеткаў, як з аэрадромаў,
Узносяцца хмары шэрыя.
У Мінску пасуцца каровы
На праспекце Машэрава.

Відаць, мы ім так надакучылі
З эксперыментамі рознымі —
Паціху збіраюцца ў кучы
Каровы
І мыкаюць грозна.

Маюць, напэўна ж, рацыю,
Што болей нам не давяраюць.
Скрытая міграцыя —
У горад
каровы
ўцякаюць!

Мазгоў і каровіных хопіць,
Ім толькі б раскінуць мазгамі —
Каровы горад захопяць.
Магчыма, што разам з намі.

Прыкідваюцца валацугамі
І да шашы падступаюць.
Хвастамі, нібыта пугамі,
Машыны на ёй падганяюць.

## ЧУЖАЯ ШКОЛА

Некалі, як аціхла ваенная калатэча, й бацька — працавіты, цягавіты й руплівы, як пчала, — вярнуўся з далёкага "Пітраграду" ды пачаў абжывацца гаспадаркай, пабудаваў ён на ўскраіне вёскі вялікі дом "на два канцы", з калідорам, які называлі сяньмі, пасярод. У адной палове хаты, падзеленай на тры пакоі, жыла нашая Качанова сям'я, а іншую польская гміна наймала для школы. І цяпер стаіць у вачах вялікая белая дошка на прыгожай, на зялёна памаляванай стрэшцы ганку, а на ёй напіс:

POLSKA SZKOLA POWSZECHNA

Зверху, у цэнтральным месцы, над напісам — вялізная дзярлівая птушка, намаляваная чырвоным колерам, з каронай і павернутай на захад разяўленай дзюбай.

Школу наведвалі дзеткі з нашай вёскі ды вакольных засценкаў, маёнткаў і фальваркаў. На дзве змены вучыліся аж чатыры класы — другі й чацверты перад абедам, а першы й трэці пасля паўдня.

Пад дзвярмі падслухоўваў, як бэкаюць і мэкаюць малыя ў нейкай няўцямнай мове. А матка, з суровым тварам, перасцерагае:

— Глядзі, сынок, пойдзеш і ты некалі ў школу дый цябе вучыцелька за вушы накруціць.

— А чаму яна за вушы, мама?

— Ды калі вучыцца добра не будзеш.

Нарэшце прыйшоў вялікі дзень, калі пачалося падарожжа ў той свет, дзе "бэкалі і мэкалі", за белыя, запэцканыя дзіцячымі карэлымі рукамі дзверы.

Маці вымыла-вышаравала вушы й шыю, загадала добра вымыць ногі, што аказалася найцяжэй, бо на іх даўно "пялі пеўні".

Настаўніцу Рамаяноўскую, векам гадоў каля пяцідзесяці, якая паходзіла недзе з-пад Лодзі, дзеткі даўно празвалі ведзьмай. Яна была вялізнай уладай, яе баяліся. Яе рудыя вочы свідравалі цябе наскрозь.

Прыгадваю сустрэчу з ёю.

— Лобузе едэн, вытры нос! — злосна бліснула рудымі вачмі "ведзьма".

Што такое "лобузе" — мая галава не цяміла. Нейкае брыдкое слова. Рамаяноўскую і ў пераказ[?]ваных казках дзеткі ведзьмай пазывалі. Ад яе ўцякаць трэба было, а тут родная мама вышаравала-вымыла, — вушы, ногі й шыя аж смыляць, — ды да гэтай крыклівай ведзьмы цягне. Жах!

На мяне глядзела якіх сорак пар вачэй і сяброў, і непрыяцеляў, якіх ці раз стараўся крапівой-жгучкай пекануць. Гэта не жарты. Усе змоўклі, мяне на воку трымаюць. А перад самым маім тварам колкія рудыя вочы, навокал іх — шырокія гусіныя лапкі зморшчын. Твар — камень. Ніколі, памятаю, не бачыў я на ім усмешкі. Лепш бы яе, гэтую ведзьму, вязняў паставілі вартаваць, а не дзетак ў ейныя рукі.

Калі гэтыя вочы свідравалі мяне, вузкія зморшчаныя вусны паварушыліся. Між парудзелых зубоў паказаліся два залатыя. Зубы парудзелі ад дыму, бо ўсе ведалі, што "ведзьма" курыла.

— Як се называш? — спытаў шорсткі голас.

Язык ацяжэў, як палена, паветра ў лёгкіх не хапала, сэрца замянілася ў малаток, і кроў біла ў скроні.

— Якся называш, — паўтарыў я, нічога не разумеючы.

— Лобузе, як твое іме? — дамагаўся грозны голас, а рудыя вочы пранізвалі мяне наскрозь. Я намагаўся схавацца за падол матчынай спадніцы, але маці наўмысна трымала мяне за руку на вачах усіх дзетак і гэтай непрыязнай жанчыны.

— Вучыцелька пытаецца, як завешся, —ператлумачыла маці.

— Ага.., — ачуняў я з страху.

— Скажы, сынок, вучыцельцы, — ласкава падахвоціла маці.

— Аляксандр, — галосна сказаў я.

Седзячы пры стале, настаўніца яшчэ раз зірнула мне ў вочы, паволі намачыла ў чарніла пяро ды на чыстай бліскучай паперы радочкам вывела нейкія крывулі.

—Назьвіско? — дамагаўся шурпаты голас.

Я зноў пазіраю на матку.

— Кажы — Качан.

Неўзабаве "ведзьма" дала мне аловак і паперу ды пасадзіла на пярэдняй лаўцы, побач дзяўчынкі й загадала рысаваць сабачую будку.

## МАТКА

Гэты першы дзень у школе прыгадваецца ў сувязі з аблічам мне надта дарагой і заўсёды энергічнай маткі. Непісьменная была. Калі дзе патрэбна было падпісацца, дык яна, спрацаваная гаротніца, ставіла на якой "ужэндовай" паперцы крыжыкі. Пальцы, што іншым разам па-майстэрску вілі тонкую пражу кудзелі лёну, ці ўмела ладзілі аснову для тканіны ў восем ці колькі там нітоў, тут, на паперы, не слухаліся яе, дрыжэлі, калі трэба было тыя нямудрыя крыжыкі паставіць. Лічыць

***За дзень да выхаду гэтага нумара “ЛіМа” ў сваім доме на канадыйскім беразе возера Антарыё ў Таронта прымаў віншаванні з нагоды 70-годдзя вядомы пісьменнік нашага замежжа, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра Кастусь Акула. У такія дні звычайна любяць застацца сам-насам з памяццю — адзінай неадлучнай сведкаю жыццёвага шляху. Сярод таго, што павінна было абавязкова ўспомніцца спадару Кастусю, — дзяцінства ў заходнебеларускай вёсцы, пахаваная на Росах у Вільні маці Паўліна і закатаваны ў ГУЛАГу бацька Ігнат, Віленская беларуская гімназія і чатыры месяцы нямецкай няволі ў вязніцы і канцлагеры, уступленне ў Восьмую брытанскую армію і баі з фашыстамі на Апенінах, аб чым нагадваюць сёння ўзнагароды — ангельскі “Медаль за вайну” і “Зорка Італіі”... Потым была вайсковая школа Вялікабрытаніі і пераезд у Амерыку, кіраўніцтва Згуртаваннем беларусаў Канады, рэдагаванне газеты “Беларускі эмігрант” і супрацоўніцтва з парыжскім “Континентом”...***

***Наймацнейшую ж духоўную падтрымку давала літаратурная праца, чые сілавыя лініі назаўсёды пяднаралі яго з трагічным лёсам Бацькаўшчыны.***

***Кастусь Акула — аўтар сямі кніг. З адной з іх, выдадзенага ў 1984 годзе ў Таронта зборніка “Усякая ўсячына”, і ўзятыя прапанаваныя чытачам “ЛіМа” аўтабіяграфічныя абразкі.***

**У. АРЛОЎ**



Кастусь АКУЛА

# ЗГАДКІ МАЛЕНСТВА

...матка ўмела добра, і ў грашовых гаспадарскіх справах мела набітую руку.

Нягледзячы на нястачу фармальнай адукацыі, мая маці Паўліна была рухавіком гаспадаркі й сям'і, у якой было васьмёра дзяцей. З вялікай пашанаю прыгадваю матчыны шорсткія рукі, вымыты выпаласканы й асмужаны сонцам і вятрамі яе прыгожы й заўсёды спагадлівы твар, вялікія блакітныя й лагодныя вочы й ці адну празрыстую, быццам раса, слязу, калі ў сям'і якое ліха здарылася.

Ледзь да саракпяткі дажыла. Лячылі ды злячылі яе, у магілу перадчасна загналі розныя вясковыя шаптуны й знахары. Калі ж агледзеліся, гаротніца апынулася ў шпіталі аж за 200 кіламетраў ад дому у Вільні. Адзінокая, у далёкім чужым горадзе, яна адышла ў лепшы свет, калі мне не было яшчэ чатырнаццаці... Матку пахавалі на Росах. Тры гады пасля, калі я вучыўся ў Беларускай гімназіі, адшукаў яе магілу. Збуцвеў на ёй ужо драўляны крыж, на якім надвор'е сцёрла надпіс. Сёння, пэўна, няма й магілы, бо не было каму й за што якога помніка на ёй паставіць.

У поўнай сваёй ваяўнічай, калі так можна сказаць, велічы бачыў я сваю матку Паўліну тады, калі ўжо пачынаў разумець не толькі, што навокал адбываецца, але ўжо спанатрыў і розніцу між сваімі й чужымі.

За найму паловы нашага дому пад школу польская гміна плаціла дваццаць пяць злотых на месяц. Не ведаю, калі тая “школа паўшэхная” пачала нам, як казала маці, бокам вылазіць. Для дзетак патрэбныя былі прастор і чысціня. Дагледзь і пачысці памяшканне, двор ззаду, адходкі для хлопцаў і дзяўчат. На двор нельга пусціць ніякае хатняе птушкі, ні жывёлы. Зімою ненажора круглая печ, грубка, ніяк не магла задаволіць свайго апетыту на бярозавыя дровы. Засунь крыху зарана юшку, дык учадзее панская настаўнічына галава. Ого!

Якую вартасць мелі ў той час дваццаць пяць злотых? Жняя працавала доўгі летні дзень за паўтара злотага й абед, а касец ішачыў касою дзень за два злотыя. Кілаграм цукру каштаваў два злотыя, дзесятак яец — трыццаць пяць грошаў. За паўтара злотых можна было купіць таннага паркалю на сукенку, а за пятнаццаць — справіць простыя боты з халявамі.

Калі бацькі пераканаліся, што “аўчынка вырабкі не стоіць” і пастанавілі пазбыцца школы, мне няведама. Але становішча пагоршала, калі аказалася, што школа не толькі прыбытку нам не давала, але яшчэ й грошы каштавала. Справа ў тым, што варшаўскія акупанты ўзяліся ўводзіць “на крэсах культуру”. Панскія й шляхецкія вочы й насы звярнулі ўвагу на непабеленыя вясковыя платы, адходкі, коміны... Ці адзін селянін зубы на полцы трымаў, дык дзе яму да якой “культуры” было...

Як-ніяк, школа “паўшэхная” з'яўлялася маяком асветы й паланізацыі нашага насельніцтва. Вось чаму і пры ўвядзенні той нагляднай ці, сказаць бы, выглядавай “культуры” яна мела для іншых прыкладам быць. Мае бацькі, пэўне ж, не адразу спанатрылі, што адзін канец іхняй хаты, дзякуючы нейкаму прагрэсіўнаму загаду міністра “рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы”, у адзін дзень здабыў новы “статус кво”, ды ім неўзабаве пачала пра гэта прыгадваць паліцыя з суседняга мястэчка.

Вось загляне да “пана” Качана паліцыянт. Абходзіць, абгледзіць, усё абнюхае. Пакруціць свой панскі нос, галавой паківае. Там знойдзе адходак нячысты, тут плот ці комін непабелены, а ў іншым месцы, — не дай ты, Божа, — каровін блін. Паліцыянт наліша карны пратакол на пяць злотых. Бывалі выпадкі, што тыя паліцыянты, як заядзь якая, адзін за адным да “пана” Качана дарогу аблюбуюць. Як паладзяць гэту “культуру” ўводзіць, дык і гміннай аплаты за школу на пакрыццё штрафаў не хопіць. Бацька хадзіў да войта скардзіцца, прасіў, крычаў: “Забірайце к чорту вашу школу! Бокам яна мне вылазіць!”

Нічога не змянілася. У вёсцы не было іншага адпаведнага дома, а панам не рупіла будаваць асобную школу для дзетак нейкіх “крэсовых хамаў”.

Памятаю, як адбываўся рабунак “пана” Качана. Бальшак прабягаў ля вёскі, амаль пад простым кутом да яе вуліцы, а бацькава хата, значыцца й школа, стаяла на супрацьлеглым канцы. Зіма ратавала ад тых карных налётаў, але калі ўжо настане вясна, — трымайся, “пан” Качан!

Паліцыянт прыязджаў у вёску на бліскучым самакаце і заўсёды з доўгай стрэльбай, ці, як мы яе называлі, качаргой за плячмі. У кожнай гаспадарцы трымалі сабаку, а ў некаторых і па два. Сабак трымалі на прывязі, але было й шмат, што мелі волю на вуліцы. Сабакі сваіх пераважна зналі й не чапалі, а ўжо калі з'явіцца які чужы пах, ну дык і налягуць. У паліцыянта ж, ведама, ёсць свой асаблівы пах. Тут жа яшчэ й пах “качаргі”, дык, яй-Богу, гэта трэба было пачуць — як у вёсцы сабакі сустракалі “стружа пожондку” акупацыйнай ўлады. Пачынаючы ад бальшака, за панам паліцыянтам улягаў, аж заходзіўся, нейкі Жэўжык, тут жа на помач бег яму Мурзік, далей Воўк і іншыя. За сабакамі наляталі дзеці, а за імі спяшылі вясковыя жанчыны.

Уявіце сабе такую какафонію: сабакі брэшуць, паліцыянт лаецца на тую “хамскую псякрэў”, дзеці рагочуць, а маткі пагражаюць сваім нямыцькам, ды розгамі стараюцца й сабак і дзяцей дамоў загнаць. Гэта ніколі не ўдавалася. Трэба было паспачуваць і паліцыянту: на ўсіх непрывязаных сабак карных пратаколаў не напішаш, а абавязак пашырэння “культуры” трэба было выконваць.

Какафонія паўзе праз вёску да самай “школы паўшэхнай”. Тут паліцыянт злазіць з самаката, крычыць на кабет, пагражае ім, гоніць дахаты. Жанчыны ўсцішваюць сабак і дзяцей, крыху адыдуцца, але ведаюць, што галоўная дзея гэтай камедыі — бяда для Качаноў — яшчэ наперадзе. Трэба ж абавязкова пабачыць, што зробіць Качанова Паўліна, як гэтага пана ў чорнай вопратцы, з вялікай “качаргой” за плячмі і зззяючай сярэбранай “дзярлівай птушкай” на круглай шапцы пры́ме.

Калі бацька ў такі час і быў дома, дык звычайна ўладзе на вочы не паказваўся, бо ведаў, што Паўліна ягоная слова ці розуму пазычаць не пойдзе. Гэткім чынам, калі вясковыя выглядаюць уважна з-за тыну, сочачы, што робіцца, паліцыянт абходзіць і абнюхвае цэлы Качаноў бастыён “культуры”, моршчачы нос, праверыць адходкі, а пасля выцягвае прылады ды пачынае пісаць.

У гэты час, прыгадваю, даводзілася мне бачыць сваю дарагую матку вельмі агрэсіўнай. Калі паліцыянт піша, яна сваім “простым языком” — па-польску ніколі не гаварыла, — пачынала скардзіцца й прасіць, каб той ніякай кары не накладваў. Калі ж “струж пожондку”, зусім не звяртаючы на яе ўвагі, рабіў сваё ды пасля намагаўся даць ёй копію карнага пратакола, матка зрывалася да гвалтоўнай акцыі. Трэба было чуць яе сакавіты паток кленічаў.

— Паночку! Ты пратакол мне? Каб ты жыцця не ведаў, як я не маю спакою за працай каля гэтай вашай праклятай школы! Каб цябе зямля не насіла, каб ты аслеп, сюды едучы! Каб табе й тваім паночкам было так лёгка, як мне лёгка ад вашай школы й зладзейства, што вы болей забіраеце, чым плаціце!

Паліцыянт насупіцца, касурыцца на жанчыну, што як пчала, здаецца, джалам зараз пекане цябе ў мякаць.

— Кабета! Я ж свае абавязкі маю. Што ты ад мяне хочаш!

У гэты час маці адбяжыцца й хапае дзе бліжэй што пад рукой, найчасцей дзяркач ля сенцаў, ды гэтак з дзеркачом у руках кідаецца на паліцыянта. У гэты час з вуліцы чуваць:

— Дай яму, Паўліна!

— Так яго, Паўліна! Дзеркачом яму па галаве!

Падахвочаная матка яшчэ бліжэй насядае на паліцыянта. Праўда, раз'ятраная, яна не траціла розуму й высцерагалася, каб паліцыянта не стукнуць дзеркачом, хоць махала ім пагрозліва. Чаго добрага, паліцыянт мог качаргу з плячэй на помач схапіць. Матка ў той час паказвалася мне раз'юшанай тыгрыцай, а ейныя кленічы рэхам паўтарала лагчына, у якой ляжала вёска. Пры такім матчыным наступе яшчэ ўзмагалася какафонія галасоў сабак, дзяцей і жанчын.

Гэткая сутычка звычайна, пад ухвальныя галасы вяскоўцаў, канчалася перамогай маёй маткі Паўліны. Паліцыянт уцякаў ад крыклівай, раз'юшанай і небяспечнай жанчыны. А я прыгадваю матку з вялікай любоўю і ўдзячнасцю, бо й гэткім вобразам простага змагання з чужой уладай рана адкрыла мне вочы.

## НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ

У закутаныя-загуканыя галовы паняволеных чужнікі ўбілі думку, што ёсць дзве веры: польская (рыма-каталіцкая) і руская (праваслаўная). Мова наша, згодна іх, не была мовай, а нейкім зноў жа “хамскім” дыялектам... Калі ж ужо гутарка йшла пра нацыянальнасць, дык тут, згодна тых жа чужнікоў, залежала ад рэлігіі, ці, як у вёсцы казалі, “ці цябе поп, ці ксёндз хрысціў”...

Вось і разбірайся. Бедныя й малапісьменныя, культурай каторых квітнеў мясцовы фальклор, адгарадзіліся ад чужнікоў словам “тутэйшы”. “Тутэйшы”, значыцца асобны, не “рускі” й не “польскі”, а апрычоны... Як-ніяк, першы крок да самастойнасці. Першы раз давялося пачуць, што мы — Беларусы й што мова наша беларуская, падчас перапісу насельніцтва ў 1931 годзе. Два паважаныя паны заселі за стол у нашай хаце, сабраўшы ўсю Качанову сям'ю, ды кожнага па чарзе пыталі імя. І памятаю, што сарамавата было перад такімі важнымі ўраднікамі замурзаны твар паказваць, але на іхняе пытанне бойка адказаў: “Аляксандр”. Ды найбольш здзівіла, што бацька на пытанне “нацыянальнасць?” адказаў: “Беларус”. Было мне тады шэсць гадоў.

## ГАСПАДАРКА

Вёска наша перабралася з вузкапалосак на хутары дзесьці ў пачатку трыццатых гадоў, і бацькі мелі дванаццаць гектараў ворнае зямлі, уключна з агародамі, на якой добра радзіла бульба, лён, пшаніца, жыта і іншае збожжа. Свой мёд, — адборны, ліповы, — давала пасека, якіх дзесяць вулляў пчол. З хатняй жывёлы трымалі пару каней, дзве ці тры каровы, некалькі свінней і авечак. Апошніх аддавалі на пашу да іншага гаспадара, што меў больш сенажацяў. З хатніх птушак гадавалі індыкоў, якіх пасля прадавалі. Каму як каму, а мне абрыдла для малых індыкоў збіраць крапіву, якую яны вельмі ахвотна елі з кіслым малаком. Малыя індыкі — ненасытныя абжоры. Але даглядаць іх нялёгка й мусіш пільнаваць, каб, апроч еміны, і цяпла мелі даволі.

Мелі бацькі й гектараў дзесяць так званага балота. Там рос дробны сасоннік, хвойнік, месцамі бярэзнік, а на дрыгве касілі балотную траву. Стагавалі яе там жа й зімою, калі балота замярзала, прывозілі сена на санях дамоў. Усю зямлю апрацоўвалі сіламі свае сям'і, рэдка калі наймалі адну ці другую пару рук на жніво. З воўны авечай мелі сукно й паўсуконнік, з аўчынак — кажухі, з лёну — кужаль і зрэб'е. Маці й старэйшая сястра за зіму вытыкалі кросны разы чатыры, калі не больш, бо сям'я ў бальшыні апраналася ў саматканае. Крамнае каштавала дорага.

## ПАЛОМАНЫЯ РЭБРЫ

...Першай зімой, як вызваліла нас ад усялякага дабра бальшавіцкая бязбожная навала, аўдавелы бацька ледзь даваў сабе раду з дзецьмі й гаспадаркай. Акупант вычысціў у свірне аруды. Бацька будзіў мяне зімой дзесьці а гадзіне чацвёртай раніцай і пасылаў у хлебную краму ў адлеглае за тры кіламетры мястэчка. Ад другое гадзіны па абедзе да восьмае вечарам наведваў я ў тым жа мястэчку савецкую школу, а раніцай бегаў за хлебам. Малыя, такія як я, прыходзілі ў хлебную чаргу раней, зяблі гадзінамі, каб папярэдзіць “быкоў”... Быкамі называлі мы старэйшых дзецюкоў, што з'яўляліся перад крамай незадоўга перад яе адкрыццём, нас, малых, крыўдзілі, з чаргі выціскалі...

У адзін марозны й ветраны дзень я быў на самым перадзе чаргі. Калі мяне прыперлі да клямкі, нешта кальнула ў грудзі. Вялікі боль. Я самлеў. Калі ачуняў, не мог адразу сцяміць, дзе знаходжуся. Чаму я ляжаў на снезе, чаму так балела ў левай грудзіне? Вецер неміласэрна сцёбаў дзве “чырвоныя анучы” — сцягі над дзвярмі крамы, а вышэй іх, на вялікім і доўгім чырвоным палатне, белыя літары крычалі:

СПАСИБО ТОВАРИЩУ СТАЛИНУ
ЗА СЧАСТЛИВОЕ ДЕТСТВО!

Я спрабаваў устаць, разглядаўся. Людзі, няйнакш, звярамі парабіліся. Пакінулі мяне, скалечанага, самлелага на снезе. Я неяк даклыпаў дамоў са слязьмі ў вачах і памятаю, што доўга балела ў грудзях. Лекара не было. Але прырода ўзяла верх. Гады чатыры пасля пачуў я ад медычнага афіцэра восьмай брытанскай арміі ў Італіі: “А дзе й калі ты рэбры паламаў?”

Гэта яны зрабілі прасвятленне грудзей для праверкі здароўя пры ўступе ў армію.

— Як кажаце? Рэбры паламаў? Ніколі, здаецца...

— Глядзіце сюды, — казаў мне медык, паказваючы клішу маіх грудзей. — Гэтыя белыя палоскі паказваюць, дзе косці зрасліся.

Запраўды, уважней прыгледзеўшыся, я пераканаўся, што медык гаварыў праўду. І памяць адшукала той далёкі зімовы дзень, чаргу за хлебам, васпаваты грузінскі твар і “счастливое детство”, калі мне было чатырнаццаць.

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ НЕ РАЗУМЕЕ, ХТО ЁН



Новы тэатральны сезон радуе прыемнымі нечаканасцямі. Ягонае адкрыццё ў абласным драматычным тэатры ў Маладзечне 14 кастрычніка супала з прэм'ерай спектакля Венедыкта Растрыжэнкава паводле п'есы Ф. Аляхновіча "Пан міністр". П'еса малавядомая і, па праўдзе сказаць, не вельмі ўдзячны матэрыял для пастаноўшчыкаў, бо драматургічна прасталінейная, нават плакатная, вымагае дэталёвай дапрацоўкі і... уласнай пазіцыі рэжысёра. Перад аўтарамі спектакля паўставала задача ўзбуйніць ідэю, надаць ёй пэўнасці. Гэта атрымалася: трагіфарсавая сітуацыя ў п'есе не ўспрымаецца адназначна.

Цікава, што некаторыя сцэны, і нават персанажы, перагукаюцца з купалаўскімі ў "Паўлінцы". Філімон Пупкін у Аляхновіча, аднак, трагічны персанаж. Яго трагедыя ў тым, што ён не разумее, хто ён такі ёсць. І таму ён — ахвяра сваёй даверлівасці... Пупкін — маленькі чалавек, які марыць зрабіцца міністрам, выкарыстоўваючы дзеля гэтага адраджэнскую ідэю. Яго жорстка падманваюць і замест міністэрскага партфеля ўручаюць... свінню на падносе. "Шчыры беларус", які так рупліва вывучаў "мову", раптам пераўтвараецца ў антынацыянальнага героя: "Хто беларус? Што Беларусь? Все ручьи сольются с "рускай мовай!"

Выканаўца галоўнай ролі Віктар Багушэвіч быў вельмі арганічны ў сваёй разгубленасці, у выяўленні свайго душэўнага хаосу. Паспачуваць Філімону, а не прынізіць яго — вось мэта аўтара пастаноўкі. В. Растрыжэнкава цікавіць перш за ўсё ўнутраны стан яго героя, і гэтаму падначалены іншыя кампаненты спектакля. Кампазітар Алег Залётнеў трактуе вобраз Філімона Пупкіна шматпланава: вось палымяная тэма танга характарызуе яго як тэмпераментнага, здольнага на рызыковыя ўчынкі чалавека; вось сумная адзінокая мелодыя, якая стварае ў п'есе атмасферу і надае ёй драматычнай дакладнасці. Трагіфарсавасць любоўных адносін Філімона і Любачкі падкрэслівае дасціпная знаходка кампазітара ў тэме канкана, дзе музыка Афенбаха суседзіцца з песенькай "чыжык-пыжык". Альбо ў сцэне, дзе падмануты ў сваіх лепшых надзеях Пупкін паказвае сваё сапраўднае аблічча і крычыць: "Не трэба мне больш вашага святла!", гучыць адначасова тэма Інтэрнацыянала і той самы пікантны "чыжык-пыжык" з агульнай басовай партый. Такім чынам, вобраз галоўнага героя вырашаны творча.

Трэба адзначыць мастацкае афармленне спектакля — яно зроблена з добрым густам і без залішняй бутафорыі ў выкананні Яўгена Волкава. Балетмайстар Анатоль Кудраўцаў надаў пастаноўцы фарсавасці і прыдаў да яе элементы мюзікла. У дачыненні да акцёрскіх работ нельга не адзначыць сыгранасць акцёрскага ансамбля і разуменне рэжысуры. У ролях заняты акцёры тэатра Алена Рахмангулава, Таццяна Грасевіч, Яўген Іўковіч, Вячаслаў Шэндрыкаў, Аляксандр Пашкевіч.

Спектаклю хацелася б пажадаць доўгага сцэнічнага жыцця і самых розных меркаванняў, што з'яўляецца паказчыкам яго значнасці і глядацкай цікавасці.

**Наталля ЕЎДАКІМАВА**
*г. Маладзечна*

*На здымку: мастацкі кіраўнік тэатра М. Мацкевіч і рэжысёр В. Растрыжэнкаў.*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

***Любіце статыстыку? Дык вось: з часу першага выпуску ліцэя з яго сцен выйшла больш як 1300 адмыслова дыпламаваных музыкантаў. У іх ліку на сённяшні дзень каля 300 лаўрэатаў міжнародных конкурсаў. Колішнія ліцэісты працуюць у Нарвегіі, Германіі, ЗША, Манака, Грэцыі, Італіі, Францыі, Ізраілі, Чэхіі, Польшчы, у іншых краінах, прынамсі, у "бліжніх замежных".***

***Музыкантаў увогуле менш, чым, напрыклад, інжынераў — такі няпісаны закон. Яшчэ менш — спакроўленых з ліцэйскім брацтвам. І ўжо зусім не многа тых, каму пашчасціла вучыцца ў старасвецкай атмасферы колішняга губернатарскага дома на плошчы Свабоды — двухпавярховай шэрай камяніцы з ажурным балкончыкам, з масіўнымі дзвярамі, з таўшчэзнымі сценамі, з магутнымі (чыгуннымі?) лесвіцамі, з прахаднымі пакоямі-класамі, высцеленымі шырокімі шчарбатымі, бурачковага колеру, паркецінамі. Нас, хто прайшоў гэтыя класы з першага па выпускны, пераЖыўшы неўразумелую для дзіцячай свядомасці ломку-"рэканструкцыю" гістарычнага будынка, ад якога засталася хіба што "каробка", — нас мала.***

***І мо таму, што воляю лёсу апынулася ў гэтай меншасці сама, — цяжка зараз вадзіць пяром, успамінаючы свой адзіны ў школе першы клас, у які набралі спачатку толькі 17 чалавек...***

***На старэйшых вучняў мы глядзелі як на ўжо дарослых, не заўсёды ведалі іхнія імёны, але міжволі запаміналі твары. Міналі гады. І...***

***І вось адзін з тых колішніх салідных старшакласнікаў, які вучыўся пры знаным і незабыўным дырэктары — І. Р. Германе, вярнуўся ў родную школу настаўнікам і адміністратарам. З ім, вядомым піяністам, педагогам, дырэктарам Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Уладзімірам Кузьменкам, адбываецца наша размова.***

# "УСЁ ЛЕПШАЕ, ШТО ЁСЦЬ!.."

## РЭСПУБЛІКАНСКАМУ ЛІЦЭЮ ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ МУЗЫКІ — 60

**— Уладзімір Міхайлавіч, нават калі мы прапануем чытачам гутарку з працягам, яны ўсё роўна не атрымаюць поўнага ўяўлення пра гісторыю ліцэя, пра спецыфіку нават не навучання — жыцця ліцэйскага, пра яго глыбінныя праблемы. Таму давайце пагаворым больш пра сённяшні дзень унікальнай навучальнай установы, якая вядзе свой радавод ад школкі для асабліва таленавітых дзяцей, што была створана пры Беларускай кансерваторыі. Пра той урадавы загад ад 15 кастрычніка 1935 года пісаў, дарэчы, і тагачасны "ЛіМ"...**

— А 14 кастрычніка мінулага года, як вы ведаеце, мы правялі прэс-канферэнцыю і абвясцілі год падрыхтоўкі да юбілею. Правялі справаздачныя канцэрты ўсіх аддзяленняў ліцэя ў філармоніі. Выступілі піяністы, скрыпачы, віяланчэлісты, музыканты-народнікі, духавікі, харавы калектыў, аркестры. Быў і вялікі заключны канцэрт. Дзеці ў нас вучацца таленавітыя, так што мы прадэманстравалі музычнай грамадскасці менавіта тое, чым сёння можа ганарыцца Беларусь, — тыя цудоўныя парасткі, на якія можна ўскладаць лепшыя надзеі. Ну, і вось жывём новымі хваляваннямі. Сёлетні Міжнародны фестываль "Беларуская музычная восень" цалкам прысвячаецца 60-годдзю ліцэя. Гэта вялікі гонар і вялікая адказнасць. У свяце возьмуць удзел былыя нашы выхаванцы, каго ўдалося запрасіць: з Грэцыі, ЗША, Нарвегіі, Расіі, а таксама сённяшнія таленавітыя дзеткі. Запланавана каля двух дзесяткаў канцэртаў — у абедзвюх залах сталічнай філармоніі, у самім ліцэі і па гарадах рэспублікі. Але наш клопат — не толькі канцэрты: займаемся і падрыхтоўкай нашай хаты да прыёму гасцей, каб яна мела выгляд больш-менш святочнай гасцёўні і каб настальгічна нагадвала, што тут дзе было...

**— І прыйдуць выпускнікі 50-ых, 60-ых, 70-ых, будуць уздыхаць, спрачацца-ўспамінаць, што тут як выглядала. Будуць гаварыць пра свае ліцэйскія гады — праўда, тады яны не называліся ліцэйскімі, бо называлася наша alma mater "Сярэдняя спецыяльная музычная школа пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі". Цяпер ужо афіцыйна, па дакументах, і кансерваторыі няма — ёсць Акадэмія музыкі, і няма той школы-адзінаццацігодкі — ёсць ліцэй. Але людзі застаюцца, імёны свае не мяняюць, і многімі з гэтых імёнаў не сорамна пахваліцца...**

— Я магу нават з гонарам сказаць: усё лепшае, ці амаль усё, што ёсць у музычным мастацтве, у музычнай культуры Беларусі, — гэта выхаванцы ліцэя. Напрыклад, прафесура Акадэміі музыкі на ўсіх кафедрах, загадчыкі кафедраў, — усё нашы былыя вучні. Гэта і загадчыца кафедры спецыяльнага фартэпіяна З. Качарская, і прафесары кафедры Л. Юшкевіч, В. Рахленка, Л. Шаламенцава, дацэнты В.Лагвіненка, У. Няхаенка, Л. Матукоўская. Прафесары-скрыпачы А. Янпольскі, В. Чарныш; вялікая група выкладчыкаў музычна-тэарэтычных дысцыплін — таксама нашы выхаванцы. Перапрашаю, але пералічыць усіх нашых былых вучняў, а цяпер адметных педагогаў, артыстаў, дзеячаў музычнай культуры, — немагчыма проста фізічна! Калі "прагуляцца" па філармоніі — тут таксама многіх колішніх ліцэістаў сустрэнеш: гэта і мастацкі кіраўнік БДФ, заслужаны артыст Ю. Гільдзюк, і салістка І. Шуміліна, і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі І. Алоўнікаў, і арганіст К. Шараў. І вялікая група артыстаў сімфанічнага, камернага аркестраў... А калі зазірнуць у Саюз кампазітараў: І. Лучанок, яго старшыня; С. Картэс (дарэчы, дырэктар опернага тэатра), Д. Смольскі, У. Дарохін, В. Капыцька, — нашы выпускнікі. Іх вялікае мноства! Ну, а калі ўспомніць "замежную" сёння для нас Маскву: саліст тамтэйшай філармоніі Э. Міянсараў, дырэктар вядучай спецыяльнай музычнай школы Расіі В. Бельчанка — таксама нашы ліцэісты... А "зоркі" беларускай эстрады Я. Паплаўская, В. Раінчык, В. Дайнека, І. Палівода!

І я не толькі настальгічна ўспрымаў бы юбілей "роднай хаты". Сённяшні дзень ліцэя таксама лічу цудоўным, бо традыцыі, якія нам перадавалі нашы бацькі — бацькамі я лічу выкладчыкаў і колішніх адміністратараў таксама, — мы гэтыя традыцыі імкнёмся падтрымліваць і ўдасканальваць: ва ўзаемаадносінах з дзецьмі, у адносінах да самой справы. Ліцэю ёсць чым ганарыцца: на сённяшні дзень у ліку нашых вучняў — каля паўсотні лаўрэатаў розных конкурсаў. Прычым, некаторыя атрымалі ўзнагароды ўжо не на адным конкурсе: ёсць такія, што й на чатырох! Дзякуй Богу, амаль штомесяц нашы выхаванцы атрымліваюць на сур'ёзных конкурсах званні лаўрэатаў або дыпламантаў.

**— А яшчэ ў ліцэі ёсць свае калектывы, якія вядуць канцэртную і асветніцкую дзейнасць і ў сваёй творчай апантанасці могуць даць фору многім дарослым артыстам...**

— Мы, зразумела, не можам параўнацца з дзяржаўнымі калектывамі, якія стала працуюць як "адзінкі для выканання спецзаказу" — падрыхтоўкі канцэртных праграм. Але ж і нашы калектывы актыўна працуюць, і выступаюць цудоўна. Хор хлопчыкаў пад кіраўніцтвам У. Глушакова, таксама нашага выхаванца, быў нядаўна ў Францыі на фестывалі, цяпер рыхтуецца да паездкі ў Італію — амаль на месяц. У нас ёсць выдатны камерны аркестр духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Э.Фарберава: летам хлопцы выехалі на фестываль-конкурс у Польшчу і атрымалі там Гран-пры. Славуты камерны аркестр ліцэя пад кіраўніцтвам У. Перліна, зноў жа, нашага выхаванца, перажывае сёння не самыя лёгкія гадзіны. Чаму? За апошнія два гады каля 20 яго ўдзельнікаў пакінулі калектыў, паступіўшы ў Акадэмію музыкі. Ідзе аднаўленне складу, кіраўніку даводзіцца працаваць з малымі неспрактыкаванымі дзеткамі. Але, наведаўшы нядаўна праслухоўванне аркестра, павінен з радасцю адзначыць, што калектыў набывае сваю ранейшую сілу. Новыя дзеці, новыя вочкі — але ж колькі ў іх знаёмага імкнення сур'ёзна авалодаць сваёй прафесіяй!

**— Камерны аркестр і сапраўды — славуты. За мяжой мо нават больш, чым "дома". У Германіі гастраляваў, у Галандыі, у Бельгіі, у Англіі, у Францыі. І замежныя сябры, я ведаю, зноў чакаюць прыезду юных артыстаў з Беларусі. Прыемна, канечне! Але ці не трывожна вам, Уладзімір Міхайлавіч? Думаю, разумееце, што я маю на ўвазе. Ужо з такога юнага ўзросту нашы музыканты атрымліваюць сапраўднае прызнанне за мяжой, а значыць — і магчымасць параўноўваць яго са стаўленнем да музыкі ў сябе на радзіме. А на радзіме мастацкі талент, культура, гуманітарная адукацыя — гэта,**



**скажам так, на сённяшні дзень катэгорыі непапулярныя, незапатрабаваныя. Разумею, "пад юбілей" пра трывогі ды болькі звычайна не гавораць. І ўсё ж: ці задумваецеся вы пра тое, што чакае вашых выхаванцаў гадоў праз пяць, а то і раней?**

— Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне, вельмі! Безмоўна, мы ўсе пра гэта думаем: і тут, у ліцэі, і разам з супрацоўнікамі Міністэрства культуры. Важна не проста даць чалавеку веды, прафесію: трэба, каб дзяржава паклапацілася пра ягоную магчымасць працаваць у будучым з карысцю для людзей, для мастацтва. Важна, каб чалавек мастацтва адчуваў, што ён патрэбны сваёй дзяржаве. Дзяржава павінна крута і сур'ёзна павярнуцца тварам да мастацтва, бо гэта — тое святое, тое светлае, што можа і ўзбагаціць нацыю, і захаваць яе. Нават паўплываць на выхаванне канкрэтных людзей, у чым мы пераканаліся на Захадзе, калі нашым дзеткам давялося аднойчы выступаць у "цяжкіх" школах і выклікаць увагу і захапленне сярод тамтэйшых падлеткаў.

Я не думаю, што самае страшнае, калі нехта з нашых гадаванцаў, як гэта сяды-тады бывае, застанецца папрацаваць у іншай краіне: няхай, няхай там ведаюць, што беларуская зямля можа ўзгадаваць выдатныя, сапраўды прафесійныя, кадры. Але ж тут, "дома", трэба стварыць такія ўмовы, каб людзі не хацелі ад'язджаць! Між іншым, я ведаю вялікую колькасць музыкантаў — сапраўдных, таленавітых, высокага ўзроўню, якія не імкнуцца з'ехаць. Яны кажуць, што могуць працаваць толькі на сваёй зямлі, толькі ў гэтых сценах. І ў ліцэі ёсць выкладчыкі, якіх запрашалі за мяжу папрацаваць па кантрактах. Яны адмовіліся: маўляў, мы можам працаваць толькі тут. Выехаць на месяц — не дольш, а потым вярнуцца дахаты. "Хата" — такое цудоўнае слова, якое павінна, як магніт, прыцягваць сваіх людзей. І каб гэты "магніт" спрацоўваў, дзяржава, паўтараю, павінна павярнуцца тварам да мастацтва, да таленавітых дзяцей.

Нейкі час таму быў канцэрт-адкрыццё Клуба творчай інтэлігенцыі Мінска. Там выступаў наш 9-гадовы скрыпач Алег Яцына, лаўрэат



другой прэміі конкурсу ў Чэхіі. Калі ён скончыў выступленне, узрушылася ўся зала, выходзілі тэатральныя акцёры, рэжысёры, і ў адзін голас гучала такая думка: ладна, маўляў, мы — мы ўжо старыя, нас бы трошкі падтрымалі, мы нейк і дажывём, нікуды не дзенемся, будзем працаваць на родную Беларусь. Але ж давайце зробім усё для росквіту гэтых юных талентаў!

**— Відаць, не варта адводзіць вачэй ад таго, што робіцца далёка не ўсё і праблемы ёсць у самым, здавалася б, элементарным. Памятаю, падчас леташняй прэс-канферэнцыі вы расказвалі пра жахлівыя выпадкі: таленавітыя дзеці страчвалі прытомнасць з-за недахвату харчавання...**

— Так, так яно і ёсць... Большасць сем'яў жыве сёння ў няпростых умовах, а навучанне дзіцяці ў ліцэі вымагае вялікай аддачы. Трэба набыць музычны інструмент, трэба падтрымліваць яго ў адпаведным стане. Ну, а сама праца ліцэіста вымагае пастаяннага падсілкоўвання маладога арганізму, праца ж каласальная! Вы ж цудоўна памятаеце, што гэта такое: вучыцца ў нас! Балюча глядзець, калі дзіця, растраціўшы разумовую, нервовую, фізічную энергію, прыбягае ў сталоўку і выбірае, што купіць, і ў выніку бярэ кашку, бо на большае не хапае грошай. Мы паспрабавалі пашукаць выйсце: змянілі штат сталовай, заключылі дамову са спецыялізаваным прадпрыемствам. Здаецца, карміць пачалі больш каларыйна, больш смачна і... сумленна. Канечне, хацелася б зрабіць харчаванне больш танным, а яшчэ лепей — бясплатным. Але ў дзяржавы на гэта сродкаў няма, а спонсарскай дапамогі на ўсё на хапае...

**— Дарэчы, Уладзімір Міхайлавіч: хто дапамагае ліцэю?**

— Пачну з вялікай удзячнасці беларускім музыкантам, якія ў межах сваіх сціплых магчымасцей знаходзяць спосабы дапамагчы, бо разумеюць, наколькі гэта важна — падтрымаць талент. Прафесар Акадэміі Я. Ксавер'еў сваю заработную плату за выкладанне ў ліцэі пачаў аддаваць у фонд дапамогі тым дзеткам, якія маюць у гэтым асаблівую патрэбу. Тое самае з гэтага года зрабіў і прафесар В. Шацкі. Дзякуй вялікі і маэстра М. Фінбергу, які даў высакакласны інструмент у шматгадовае карыстанне нашаму трубачу-лаўрэату Андрэю Кавалінскаму. Вядома ж, без добрага інструмента музыкант не адбудзецца...

Вельмі ўдзячныя мы і за сталую падтрымку Г. Грушавому ды І. Грушавой — фонд "Дзецям Чарнобыля". Імі ўстаноўлены тры стыпендыі для нашых выхаванцаў. Апроч таго, фонд Грушавога заўсёды дапамагае транспартам, сродкамі на пашыў канцэртных касцюмаў і да т. п. Без гэтага ўдзел беларускіх ліцэістаў у шэрагу конкурсаў быў бы немажлівы. Напрыклад, калі Ваня Сцепанцоў рыхтаваўся да конкурсу ў Германіі і захварэў, руплiўцы фонду забяспечылі для паездкі яго і яго нага педагога мікрааўтобус, дамовіліся наконт пражывання ў добрай сям'і, дзе хлопца хуценька "паставілі на ногі" — і ён прывёз з Германіі дыплом, вызначыўшыся на тым фартэпіянным конкурсе... Нядаўна яму ж дапамаглі выехаць у Вільнюс на прэстыжны Міжнародны конкурс імя Чурлёніса — і там І. Сцепанцоў стаў першым сярод лепшых! Лідзе Дабржынец з за нагоды яе паездкі на конкурс скрыпачоў у Японію была аказана матэрыяльна падтрымка. Ёсць у нас і стыпендыяты фонду, створанага заслужаным артыстам Беларусі, колішнім удзельнікам "Песняроў", — У. Місевічам. Досыць сціплы беларускі бізнесмен, ён палічыў неабходным падтрымліваць музычныя таленты і вылучыў сродкі на дапамогу дзевяці лепшым ліцэістам і дзевяці лепшым педагогам. А яшчэ нам дапамагае колішні выпускнік ліцэя скрыпач І. Шульдман; цяпер ён прафесар кансерваторыі ў Нарвегіі, але ўжо неаднойчы прыязджаў у Мінск, выступаў у канцэртах і ўстанавіў стыпендыю для лепшага на сённяшні дзень скрыпача-навучэнца і ягонага педагога. Вялікі дзякуй музыкантам за падтрымку!

**— А нашы па-сапраўднаму багатыя суайчыннікі — ці адчуваеце вы іхнюю дабрачыннасць? Ці навучаюцца ў вас дзеці бізнесменаў?**

— Як вы ведаеце, да нас трапляюць толькі музычна даравітыя дзеці, якія вытрымліваюць уступныя экзамены. Так што "ўладкаваць" да нас дзіця немагчыма. А вось таленавітыя дзеці бізнесменаў паступаюць. Цікава, што некаторыя з не вельмі грашавітых бацькоў звяртаюцца да нас з пытаннем: чым трэба дапамагчы? Але ж часцей бывае так, што бацькі-бізнесмены лічаць, быццам бы яны ашчаслівілі ліцэй прысутнасцю свайго дзіцяці — а ўсё астатняе іх не датычыць. Такая вось, неапраўданая ў цяперашніх нялёгкіх умовах, спажывецкая пазіцыя: усё, маўляў, мусіць рабіць ліцэй — не толькі даваць адукацыю, а і забяспечваць інструментамі, камфортным побытам і да т. п. А ведаеце ж: дзеці ёсць дзеці, таленавітыя яны ці не, яны ўсё роўна шкадлівыя, ім цікава штосьці скруціць, адламаць, папсаваць, і гэта робіцца — ну, а як цяжка паправіць, ведаюць, бадай, толькі гаспадарнікі ды адміністрацыя.

**— Ну, вядома, і мы былі дзецьмі! І не скажу, што мы ўвесь час хадзілі па струначцы, але дысцыпліна ў школе была асаблівая. Калі, напрыклад, у нас у класе на перапынку збіраліся ля інструмента і пачыналі найграваць музыку зусім не акадэмічнага кшталту, з'яўляўся па меншай меры завуч, апускаў вечка піяніна, прамаўляў суровы прысуд "заходняй модзе"... Мы нават на канцэрт класіка джаза — Дзюка Элінгтана з ягоным аркестрам — ішлі, азіраючыся: ці не заўважаць педагогі і якія ад гэтага будуць наступствы? І толькі пабачыўшы ў амфітэатры Палаца спорту сваіх музычных выкладчыкаў, уздыхнулі з палёгкай... У вас, Уладзімір Міхайлавіч, мне здаецца, дзеці пачуваюцца вальней.**

— Што тут сказаць? Безумоўна, многае змянілася з тых часоў, калі вучыліся і мы, і вы. Змяніўся сам час. Змянілася мысленне. Дый я ўвогуле не прыхільнік таго, каб усе хадзілі "па струначцы". Памятаеце, колькі абмежаванняў было ў сувязі са школьнай формай? Мы з педагогамі параіліся і вырашылі адмяніць яе зусім. Нельга пазбаўляць чалавека права на выяўленне ўласнага густу. Адзіная ўмова — каб вопратка была ў межах нейкага "школьнага" выгляду. Ну, а з таго, што было ў нашы часы, мне хацелася б вярнуць... Карыстанне зменным абуткам!

**— Як жа такое забыць: у партфелях, побач з нотамі, кніжкамі, сшыткамі, і то і грампласцінкамі, — мяшэчкі з тапачкамі; у калідорах — лакаваны паркет, дывановыя ходнікі...**

— Няма гэтага ўжо. З гардэробшчыкамі праблема: хто пойдзе працаваць — на 7 гадзін за 115 тысяч рублёў? Час і сапраўды памяняўся... Што ж датычыць традыцый чыста музыканцкага выхавання — тут бы я нічога не рэгламентаваў. Чым больш чалавек слухае, тым больш ён адбірае для сябе. Забараняць? Падлетка будзе яшчэ больш прыцягваць "салодкі плод". На праміллы Бог, хай слухае, напакоўвае свой "чарапок" і хай як мага раней выбірае, што яму ў жыцці цікавей — акадэмічная музыка, джаз, авангард, папулярная эстрада... Мы нават стараемся дзецям дапамагчы ў іхніх захапленнях, але нашы матэрыяльна-тэхнічныя магчымасці бедныя. Я заўсёды з уздыхам аглядаў вучэбныя класы, якія ёсць на Захадзе: нашпігаваныя літаральна ўсёй тэхнікай, якая толькі ёсць сёння, і можна спакойна падысці, набраць якое заўгодна інструментальнае спалучэнне, слухаць усялякія гучанні, у тым ліку і сімфанічны аркестр!

**— Затое ў нас прафесійныя кампазітары ў адчаі, што не маюць магчымасці сур'ёзна займацца электроннай музыкай...**

— Спадзяюся, дажывём да "электронных" класаў і мы... Ну, а пакуль хацелася б дасягнуць таго ўзроўню культуры, духоўнасці, што быў калісьці ў гэтых сценах. Нашы выхаванцы павінны зберагаць усё, што ёсць у ліцэі, яны павінны ўмець прыгожа вітацца, ладзіць стасункі з дарослымі і равеснікамі, павінны, урэшце, прыгожа паводзіць сябе за сталом і да т. п. Па просьбах саміх дзяцей мы наладзілі цыкл заняткаў паводле асноў рэлігіі. Ды зноў жа — дзеці ёсць дзеці: спачатку была жывая цікавасць да Бібліі, бо доўгі ж час гэта забаранялася, але ж аказалася, што гэта — вельмі сур'ёзна, трэба ўдумвацца, услухоўвацца ў новыя словы, новыя найменні... Складана ўвесці і курсы па сучасным этыкеце. Пагадзіцеся, выхаванне дзіцяці пачынаецца не ў школе, яно вельмі залежыць ад таго, як выхавана маці гэтага дзіцёнка.

**— Вы атрымліваеце ў пэўным сэнсе "гатовы прадукт"...**

— І неўзабаве высвятляецца, што не ўмеюць сябе паводзіць многія бацькі, бабулі, дзяды. Стараемся выхоўваць дзіця, ды, на жаль, не ўсё атрымліваецца. Дарэчы сказаць, дадатковыя цяжкасці ў вучэбна-выхаваўчым працэсе звязаны ў нас з праблемай інтэрната для іншагародніх навучэнцаў. Іх больш як 60, а ўсяго ў ліцэі сёння 440 навучэнцаў. Дык вось, мы стараемся карэкціраваць колькасць ліцэістаў, улічваючы праблемы працаўладкавання музыкантаў. І пашыраючы колькасць іншагародніх навучэнцаў, зважаем не на "геаграфію", а на талент і стараемся гэты талент рыхтаваць, забяспечваючы з дапамогай Міністэрства культуры своеасаблівую форму завочнага навучання. Калі мы пераканаемся, што гэта "наш матэрыял" і калі маці пагаджаецца выправіць дзіця ў сталіцу, у нас з'яўляецца папаўненне.

Цяпер у інтэрнат прыемна заходзіць: там шмат малых, абстаноўка цёплая, туды наведваюцца педагогі. Аднак усё гэта — у іншым квартале горада! Я даўно мару мець інтэрнат побач з ліцэем. І гэта не капрыз: дзеці павінны быць побач, тады мы зможам на іх уплываць. А пакуль іх "дом" у будынку інтэрната Акадэміі музыкі.

**— Гэта ж не адзін ужо год вы дамагаецеся, каб ліцэю аддалі пад інтэрнат невялічкі будынак акурат у вашым двары! Былі публікацыі ў друку, калектыўныя лісты. Але ў гэтай барацьбе за памяшканне перамаглі пакуль не інтарэсы дзяцей, а, здаецца, магчымасці камерсантаў...**

— Вельмі шкада, што дагэтуль праблема не вырашана. Я мару сустрэцца з мэрам У. Ярмошыным і яшчэ раз паспрабаваць яго пераканаць у неабходнасці задавальнення нашай просьбы. Ва ўсіх краінах, ва ўсіх навучальных установах, кшталту сярэдняй спецыяльнай школы, інтэрнат — у комплексе з вучэбнымі класамі. У найцяжэйшых умовах існуе сёння такая школа ў Маскве: у нас проста палац! І ўсё ж — інтэрнат і сама Цэнтральная школа пры Маскоўскай кансерваторыі знаходзяцца побач. Ioe ж можна сказаць пра родныя школы Пецярбурга, Кіева, Рыгі, — інтэрнацкія дзеці, што называецца, пад рукой.

**— Дый у нашым ліцэі мастацтваў імя Ахрэмчыка, і ў харэаграфічным вучылішчы...**

— Відаць, былі сродкі, пабудавалі ўсё разам. Я ж таксама, калі пачынаў змагацца за інтэрнат у двары, пачуў у "вярхах": маўляў, чаго мы будзем чапляцца за гэты стары будынак, давайце пабудуем у ліквідацыйнай зоне Мінска спецыяльна для вас новы комплекс, сучасны, з інтэрнатам! Гэта было б здорава, але ж дзе тая зона, дзе тыя грошы? А дзяцей мы павінны вучыць і выхоўваць сёння!

**— І не шкада было б гэтага месца? Плошча Свабоды — такі "лапік" музычны...**

— Вельмі шкада! Я ўявіў сабе, што адразу пазбавіўся б многіх педагогаў, якія працуюць у Акадэміі, у аркестрах... Проста, мне здаецца, не трэба ніякіх новых праектаў, трэба зыходзіць з рэальнай сітуацыі і дапамагчы нам атрымаць тое, што зусім побач. А для гэтага гаспадарам гарадской нерухомасці трэба зразумець дзяржаўную значнасць, каштоўнасць дасягненняў ліцэя. А дасягненні настолькі адчувальныя, што не заўважаць іх або спрабаваць адмахнуцца можа толькі чалавек неінфармаваны. Ліцэй — тая ўстанова, якую трэба песціць і падтрымліваць на самым высокім узроўні! Імёны выхаванцаў розных пакаленняў гавораць самі пра сябе. Я ўжо называў лічбы, і зразумела, што пералік імёнаў быў бы надта доўгі. Перапрашаю, што ўспамінаю сёння далёка не ўсіх. Ну, вось зусім нядаўна пакінулі нас і перайшлі ў Акадэмію музыкі такія таленавітыя выпускнікі — міжнародныя лаўрэаты, як віяланчэліст Мікаэл Самсонаў, трубач Андрэй Кавалінскі, піяністы Юры Бліноў, Дзмітрый Марозаў, Юзаф Сяргей, Андрэй Паначэўны. Дарэчы, А. Паначэўны надзвычай паспяхова выступіў нядаўна на Міжнародным конкурсе імя Ф. Шапэна ў Варшаве: "ЛіМ" паведамляў пра тое, які гэта быў прэстыжны і прадстаўнічы турнір. Дык вось, наш малады піяніст стаў яго дыпламантам!

Я ўжо гаварыў пра тыя крыніцы дапамогі, якія дазваляюць нам нават у літаральным сэнсе падсілкоўваць сваіх гадаванцаў (некаторым стараемся аплачваць харчаванне). Выкажу таксама ўдзячнасць за падтрымку Беларускаму фонду Сораса. І — Міністэрству культуры і друку. Там працуе нямала музыкантаў, якія разумеюць нашы праблемы і ў гэты няпросты нават для самога міністэрства час шукаюць магчымасці, каб дапамагчы, падтрымаць таленты. Але многія нашы патрэбы застаюцца незадаволенымі. Напрыклад, прыстойны канцэртны раяль каштуе 300-400 мільёнаў рублёў. Звычайная скрыпка, з якой можна ехаць на конкурс,— 1,5—2 тыс. долараў. Міністэрства такія сумы нам прапанаваць не можа. Спадзявацца ж на спонсараў усё цяжэй. Я не эканаміст, я не разбіраюся ў праблемах падаткаабкладання, але думаю, што менавіта з-за гэтых праблем спонсары дапамагаюць нам усё менш і менш.

Мне давялося бываць у некаторых музычных навучальных установах на Захадзе: яны там жывуць вельмі багата! Велізарныя дзяржаўныя датацыі, або спонсарская падтрымка, або каласальныя ахвяраванні на культуру, якія не абкладаюцца падаткам... Установы існуюць у розных формах, на рознай аснове, ёсць шмат прыватных. Але, але... Усе яны зайздросцяць нам. Таму што такой цэласнай сістэмы музычнай адукацыі — з маленства да акадэміі — няма на Захадзе. Заняткі з педагогам там строга рэгламентаваныя, нават бясплатна ты не маеш права пасядзець з вучнем за інструментам лішніх 10 хвілін. І калі хтосьці з нашых суайчыннікаў спрабаваў, працуючы там па кантракце, пазаймацца з вучнем "па-савецку", з добрасумленнай прыдзірлівасцю і без аглядкі на гадзіннік, яго папярэджвалі: "У нас дзеці займаюцца музыкай, каб атрымліваць задавальненне. Калі падобнае паўторыцца, будзеце звольнены". Праўда, калі ўжо "там" вылучаецца талент, для яго будуць створаны ўсе ўмовы, пачынаючы з бясплатнага навучання.

**— І ўсё ж, Уладзімір Міхайлавіч, пачуццё роднага дома кліча зараз у Мінск, у ліцэй, нават тых, хто ўжо даўно і далёка ад гэтага дома ад'ехаў. Фестываль "Беларуская музычная восень" будзе па-сапраўднаму беларускі і міжнародны: ён збярэ гадаванцаў ліцэя, музыкантаў беларускіх па месцы выхавання і каманду інтэрнацыянальную па месцы цяперашняй працы.**

— Афіша фестывалю (дарэчы, ініцыятар яго канцэпцыі ўжо згаданы Ю. Гільдзюк) — вельмі насычаная і яркая. Прыедзе піяніст Леанід Кузьмін з ЗША, які вырас у віртуознага музыканта. З Грэцыі чакаем Ангеліну Ткачову, цымбалістку, якая апроч сольнага канцэрта рыхтуе выступленне з аркестрам імя Жыновіча. Будзе іграць скрыпач з Нарвегіі Ісак Шульдман. З Казані завітае прафесар Наталля Фаміна, адна з першых выпускніц ліцэя, а з Масквы — Эдуард Міянсараў. Абодва гэтыя піяністы прадставяць сольныя праграмы. Выступяць і нашы педагогі, і цяперашнія навучэнцы...

Ведаеце, што я заўважыў? Усё менш нашых выхаванцаў працягвае навучанне ў Маскве ці ў Пецярбурзе. Не толькі таму, што "дома сцены дапамагаюць". І не толькі таму, што колішнія музычныя сталіцы пабяднелі на выкладчыцкія кадры — лепшыя сілы зусім ці часова з'ехалі працаваць за мяжу. Проста цяпер няма вялікай патрэбы "мяняць школу": выраслі колішнія ліцэісты, набылі майстэрства, вопыт, пераймалі і развілі традыцыі колішніх сваіх выкладчыкаў і прафесароў: А. Амітона, А. Бяссмертнага, М. Бергера, Г. Пятрова, Р. Шаршэўскага, І. Цвятаевай, М. Мінянковай, І. Германа, М. Браценнікава ды іншых. Канечне, людзі мастацтва, людзі творчыя проста не могуць замыкацца ў сваіх сценах: ездзіць трэба! Трэба сустракацца, браць кансультацыі, абменьвацца ведамі, узбагачацца ўражаннямі — трэба ездзіць у Расію ды ў іншыя краіны. Але ад'язджаць — зусім неабавязкова. Жыццё паказала, што сёння і на сваёй зямлі можна дасягнуць выдатнага педагагічнага плёну.

**— Канцэрты "Беларускай музычнай восені" з удзелам ліцэістаў розных пакаленняў будуць, напэўна, лепшым сведчаннем гэтага плёну. Дзякуй, Уладзімір Міхайлавіч, за размову.**



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках — музычныя "зорачкі" Беларусі.*

*Фота Васіля МАЙСЯЁНКА*

## СВОЙ СЛЕД У ЛІТАРАТУРЫ

**11 лістапада 1875 года, нарадзіўся беларускі паэт-гумарыст, драматург Альберт Паўловіч (памёр 17 сакавіка 1951 года).**

**Літаратурную дзейнасць А. Паўловіч пачаў у канцы XIX стагоддзя, але спатрэбіўся пэўны час, каб ён зразумеў, што павінен пісаць на сваёй роднай мове. З 1907 года А. Паўловіч і пачаў выступаць у беларускім друку. Друкаваўся ў знакамітай "Нашай Ніве", альманаху "Маладая Беларусь", часопісе "Лучынка" і іншых тагачасных выданнях.**

**Пашчасціла выдаць і дзве кнігі — зборнік "Снапок" пабачыў свет у 1910 годзе, драма "Васількі" прыйшла да чытача ў 1919. Творчасць А. Паўловіча звязана з фальклорам. Што да матываў яго паэзіі, дык яны традыцыйныя для свайго часу. У лірычных вершах відавочныя патрыятычныя матывы, аўтар выступаў супраць прыгнёту простага народа.**

**Найбольшай жа папулярнасцю карысталіся вершаваныя гумарыстычныя апавяданні А. Паўловіча, а таксама жартоўныя сцэнкі. Не цураўся А. Паўловіч і літаратурнай апрацоўкі народных анекдотаў. На беларускую мову А. Паўловіч пераклаў асобныя творы А. Пушкіна, Т. Шаўчэнкі, У. Сыракомлі, М. Канапніцкай. Даследчыкам літаратуры вядомы і артыкулы А. Паўловіча "Забытае" (да гісторыі тэксту "Гутаркі Данілы са Сцяпанам") і "Сялянка" В. Дуніна-Марцінкевіча на мінскай сцэне".**

## І Ў КОЖНАГА СВОЙ СЮРПРЫЗ...



**"Каралеўскі двор" Таццяны Шылавай злучыўся з акадэмічным дваром Лідзіі Манаковай. Прынцэса і Першы міністр з 76-й школы перайшлі ў Беларускую акадэмію мастацтваў на курс да памянёнага другім педагога. Педагог, памянёны першым, Таццяна Шылава пасля спектакля "Голы кароль" Я. Шварца, дзе Каця Агароднікава сыграла Прынцэсу, а Сяргей Савянкоў — Першага міністра, рыхтуецца да пастаноўкі "Маленькага прынца" паводле Антуана дэ Сент-Экзюперы, — таксама і на мове арыгінала, балазе, школа — спецыялізаваная, з выкладаннем французскай мовы. А ў ролі Лётчыка, або, як часам падаюць у праграмках, Антуана, гледачоў усіх узростаў прычакае сюрпрыз... з прыродным французскім вымаўленнем, — гэта пакуль усё, што нам выпадае паведаміць зацікаўленай публіцы. А найбольш зацікаўленая яе частка віншуе з пачаткам студэнцкага жыцця Прынцэсу Агароднікаву, якая рыхтуецца зрабіцца рэжысёрам, а таксама Першага міністра Савянкова, які абраў сабе акцёрскую прафесію. Прынцэса і Першы міністр — апошнія ролі, сыграныя імі ў школьным тэатры; пра ролі, якія чакаюць у бліжэйшым студэнцкім будучым, можна даведацца хіба ў Лідзіі Манаковай, але і яна любіць рыхтаваць сюрпрызы.**

*На здымку: Кацярына Агароднікава (Прынцэса) у школьным спектаклі "Голы кароль".*

*Фота Віт. АМІНАВА*

# "ДАРАГІ МОЙ..."

## ДА 90-ГОДДЗЯ ЯНА СКРЫГАНА

Пра тое, што ёсць такі пісьменнік Ян Скрыган, даведаўся яшчэ школьнікам ад суседкі настаўніцы. Запомнілася і кніжка ў плямістых вокладках: "Иду по следам твоим". Нават патрымаў яе ў руках і паспрабаваў чытаць. Здаліся сумнымі і доўгімі апісанні, тое, пра што піша пісьменнік, на дзіцячы розум падалося нудным і нецікавым. Але прозвішча пісьменніка запомніў, бо быў ён родам з недалёкіх Труханавіч...

Адкрыццё Яна Скрыгана прыйшло са старонак невялікага фармату кніжачкі ў цвёрдых вокладках з нейтральнай назвай "Апавяданні", выдадзенай неўзабаве пасля паўторнага вяртання пісьменніка з сібірскай ссылкі. І найперш на той юначы ўзрост паланіла "Таіса", і не толькі шчымлівай рамантычнасцю, але пластычнасцю пісьма, настраёвасцю, мілагучнасцю мовы...

Прайшлі дзесяткі гадоў, а тое салодка-трывожнае ўражанне адкрыццём засталося, не патухла ў душы і дасюль. Пасля чыталася ўсё, што было напісана пісьменнікам. Кнігі Яна Скрыгана я памятаю "ў твар" — фармат, вокладкі, паперу... Чытанне было не толькі асаладаю і вучэннем, але і спасціжэннем, няхай недалёкай, гісторыі Случчыны, Слуцка, найперш літаратурнай, "маладнякоўскай"...

І яшчэ мне, ужо студэнту, імпанаваў клопат Яна Аляксеевіча пра мову, пра культуру творчасці. Кніга "Ранішнія росы" закранула многіх тады маладых пісьменнікаў. Закранула найперш строгасцю, нават суровасцю ацэнак і непрыняццем не тое што халтурнасці, але і проста недысцыплінаванасці, расхлябанасці ў адносінах да мовы, непатрабавальнасці да напісанага. Магчыма, у тых маладых, а сёння ўжо сівых і прызнаных, засталася крыўда на Яна Скрыгана, але, хочуць яны ці не хочуць прызнавацца, ад той крытыкі была не шкода ім, а карысць.

Дзе і як адбылося знаёмства з Янам Аляксеевічам, не памятаю: ці то ў Саюзе пісьменнікаў, ці на семінары маладых на Свіцязі... Наогул, з ім мы бачыліся рэдка, бо к таму часу, калі я пачаў "хадзіць па рэдакцыях". Скрыган працаваў ужо ў энцыклапедычным выдавецтве, а гэта крыху наводшыбе ад цэнтра, ды і праца яго вымагала ўседлівасці. Але ведаю, што напісанае мною ён чытаў, адносіўся прыязна. Таму сведчаннем — падпісаныя і падораныя мне Янам Аляксеевічам яго кнігі.

Цяпер толькі прыгадаў: ён быў амаль удвая старэйшы па ўзросце. Ужо ў той час, калі мы маглі пазнаёміцца — а гэта канец 60-ых гадоў — за ім стаяла, лічы, амаль пражытае жыццё. Яно пачыналася "маладнякоўскай" узнёсласцю, радасцю, шчасцем і спадзяваннем. У 1936 годзе растаптана сталінскім рэжымам, скалечана раз, потым другім заходам... Рэабілітацыя толькі ў 1954 годзе. Амаль у 50 гадоў трэба было пачынаць жыць нанава. Урэзаліся ў памяць радкі з успамінаў пісьменніка, як пасля рэабілітацыі, вяртаючыся дадому, пачуў ад праваднiцы беларускую гаворку і жахнуўся ад думкі — а ці не забыўся, ці зможа гаварыць на роднай мове?..

Людзям Скрыганавага лёсу наканавана было не толькі перажыць хмель нацыянальнага адраджэння 20-ых гадоў, стаць ахвярамі нацыянальнага генацыду, вярнуцца да жыцця ў часы хрушчоўскай "адлігі", але і прыціхнуць, насцярожыцца і нават замоўкнуць пад брэжнеўскімі "халадамі"... Падумалася, што наша пакаленне ў быццам скарочаным, аблегчаным і нейкім бляклым варыянце ці не паўтарае гэткі ж жыццёвы круг? Мы заціхаем, як той, каго ўціхара душаць, накрыўшы падушкаю. І ці хопіць нам мужнасці, каб не раскаяцца, выстаяць і, калі трэба, пачаць спачатку?...

Ян Скрыган не раскаяўся, не спалохаўся, не кінуўся ў крайнасці — ён чэсна і мужна як майстар дапісаў сваю кнігу да канца і гэтак жа мужна дажыў сваё шматпакутнае, але светлае жыццё.

Цяпер пайшла пошасць пісаць гэтак званыя ўспаміны, у якіх гаворка ідзе пра тое, які аўтар іх харошы і якія дрэнныя тыя, што нават нядаўна ў сябрах хадзілі і каго няма ўжо на свеце, а таму слова ў сваю абарону сказаць не могуць. Модна таксама запісвацца ў сябры ці ў вучні тых, таксама адышоўшых, якія ні да таго сяброўства ці настаўніцтва дачынення не мелі і мець не хацелі...

Мне шкода сёння, што ў сябрах з Янам Аляксеевічам не хадзіў, шкода, што сустракаліся сам-насам рэдка, а чарку пілі без гурту адзін толькі раз. Ці не перад апошнім вялікім змаганнем з "зялёным" абедалі ў Доме літаратара. У зале было пуста і ўтульна, і Ян Аляксеевіч пагадзіўся, што без чаркі грэх было б спажыць пададзеную страву. Выпіваў ён з лёгкага звонкага кілішка прыгожа, са смакам, і мне здавалася, не ўтрымаецца ад свайго толькі ім гэтак сказанага: "Смаката-а!"

Гаварылі пра рознае і вярнуліся ў гаворцы дадому, на Случчыну, у свае палі. І нечакана горка прагучалі словы: "А я не люблю туды ездзіць..." Туды, гэта значыць на Случчыну, у Слуцак па-нашаму, — таму што там усё зчужэла, беларушчына зруйнавана і сваім чыноўніцтвам, і гэтак званымі "ваеннымі гарадкамі"...

Гаварыў гэта Ян Аляксеевіч з болем, лічыў, што ў Капыль яшчэ зазірнуць можна, там цяплей душы. Я разумеў яго, падчас гаворкі чамусьці ўспамінаў яго заасфальтаваныя Труханавічы, вузкія і доўгія, дзе не засталося следу ад былое царквы, ад школы — ад усяго таго, з чаго пачыналася жыццё пісьменніка.

Гаварыў Ян Аляксеевіч нядоўга, засяроджана замоўк. Не вытрываў маўчання я:

— А ўсё ж, дзядзька Ян, калі сесці ў машыну з сябрамі, без лішніх людзей і без усякіх сустрэч?..

— Знаеш, хацелася б паглядзець. Там ужо многа чаго не пазнаю. Там і дарогі другія...

Сышліся на тым, што паехаць варта. Але так і не выбраліся. Потым яго хвароба. Апошні раз угледзеў Яна Скрыгана ля кіёска "Саюздруку" на плошчы Перамогі з нязменнаю палявою сумачкаю, з кіёчкам, зусім лёгкага і светлага. Угледзеў з акна аўтобуса. Гэтакім ён і жыве ў маёй памяці.

Кожны раз, калі, едучы дадому, праязджаю паваротку на Праснакі, за якімі Стараселле, а потым і Труханавічы, шкадую тае нязздзейсненае паездкі, бо ўжо ніколі не даведаюся, дзе там пад Слуцкам тыя Хваевіцы і Саладухі, куды на няўдобіцу перабраўся жыць і рваць жылы бацька Яна Скрыгана са спрадвечнаю мараю селяніна абжыцца. Пра многа чаго не даведаюся, пра што трэба было б ведаць і пра што мог сказаць чалавек, які ў пачатку аплачанае ўласным жыццём кнігі "Кругі" напісаў вось гэтыя радкі:

"І я люблю цябе, маці мая. І схіляю галаву перад усімі тваімі папялішчамі. Перад усімі курганамі. Перад магіламі. І тымі, старадаўнімі, і ўчарашнімі, што асталіся, як памяць найлюцейшага змагання з самай страшнай пачварай — чорнай свастыкай. Гэтыя ахвяры — святыя. Лепшыя людзі тваё прынялі смерць, каб жыць нам далей.

Бацькаўшчына!"

Сталася так, што да першага двухтомніка Яна Скрыгана прадмову выпала пісаць мне. Хочацца верыць, што гэта ён пажадаў, каб прадмова засталася і пры наступным выданні выбранага праз дзесяць гадоў, выдадзенага на цудоўнай паперы, у супервокладцы, з фоталетапісам жыцця пісьменніка ад маладосці да сталае пары.



У падараваным мне экзempляры аўтограф: "Алесю Жуку. Дарагі мой! Усё даўняе ў гэтым надпісе: і павага, і падзякі, і любоў. Ян Скрыган. 12.11.85".

З гэтакімі ж пачуццямі сёння кланяюся Яну Скрыгану — вялікаму майстру слова і годнаму сыну сваёй зямлі — з ускрайку роднага нам абодвум слуцкага поля.

**Алесь ЖУК**

*12.11.95 г.*

# КЕНГУРУ

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

кантроль за зменай прамоўцаў, пакуль раптам не высветлілася, што сам стаю за трыбунай і прамаўляю — без паперкі.

— Узняўшыся на вышыню, дзе ніколі не ступала нага чалавека, а цяпер развіваецца навукова-тэхнічны прагрэс і супрацоўніцтва дзеля міру ў цэлым свеце, у імя і на карысць свабодалюбівых сіл і народаў, якія цвёрда сталі на шлях карэнных духоўных і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці, скіраванай на далейшае ўмацаванне, паглыбленне і пашырэнне...

Фраза набухала, як цеста, у якое пераклалі дрожжаў, перавальвалася цераз край і валачылася сырымі бясформеннымі камякамі. Безнадзейна згубіўшы назоўнік і ўсё больш вязнучы ў багне дадатковых сказаў, я вывернуў на свабодную яшчэ прастору азначэнняў і пусціў серыю прыметнікаў:

— ... праверaных гісторыяй і вытрымаўшых выпрабаванні часу непарушных братэрскіх повязяў трывалай усебаковай савецка-кубінскай і кубінска-савецкай дружбы, прысвечанай...

Мяне цягнула ў пастку, як труса ўцягвае ўдаў. Абраны сінтаксіс бязлітасна патрабаваў новага пад"ёму, а падымацца ўжо не было куды. Амаль не было. Грудзі напоўніліся паветрам:

... Генеральнаму сакратару Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР асабіста Леаніду Ільічу Брэжневу!

Яшчэ на пачатку шматступеннага тытула генсека я адчуў лёгкае, як калыханне малекул, падвышэнне напружання ў прэзідыуме і імклівае падзенне тонусу ў зале — аўдыторыя мярцвела на вачах. Кожнае вымаўленае слова, быццам адстраляная ступень ракеты-носьбіта, выводзіла інтанацыю на ўсё большую вышыню. Адпрацаваныя часткі з медна-ўрачыстым гудам праносіліся па шматжыльным мікрафонным дроце і з дынамікаў абрыналіся на галовы слухачоў. На канцы трынаццацічленнага дапаўнення паўза ў долю секунды для пераводу дыхання дала такі акцэнт акалічнасці спосабу дзеяння "АСАБІСТА", што я ледзь утрымаўся на нагах.

У грозна-львіным лянівым выплеску мой раптоўна левітанаўскі голас, як расплаўлены метал, стаў заліваць любоўна вылепленыя языком, паднябеннем і губамі формы імені ў родным склоне: чырвоным золатам налілося і зазвінела "ЛЕАНІДУ...", напоўнілася і ўрачыста ўзялося застываць "ІЛЛІЧУ..."

Нечакана сутаргава пачала скарачацца дыяфрагма. Рэшткі пазбаўленага кіслароду паветра рвануліся ў трахею, страсянулі правіслыя галасавыя звязкі і сухім парахавым выбухам ударылі па мікрафоне:

"БРЭ..."

Наступнае

"Ж"

без галоснага за сабою, страціўшы звонкую жорсткасць, бясшумным вожыкам падкацілася да нейтральна-невыразнага

"НЕ..."

і, як шматтонную глыбінную бомбу, напружаннем усіх унутраных органаў я выштурхнуў у дынамікі гулка-воўчае

"ВУ — ууу!.."

Дзве тонкія стальныя іголкі пранізалі абедзве лапаткі ў тым месцы, дзе ў анёлаў растуць крылы. Далоні разышліся і сышліся ў бязгучным хлапку, потым другім. Святло з лямпаў слаілася і лускамі ападала ў залу. Я апладзіраваў імені, якое толькі што выверглa сябе з мяне. Я апладзіраваў адзін.

Адчай, роспач і сум панавалі навокал. Незямная горыч якойсьці канчальнай страты напоўніла сэрца. Нешта бязмежна дарагое і безабароннае пакідала мяне назаўсёды, непапраўна і беззваротна.

Я не чуў успыхнуўшых апладысментаў, не бачыў, як устаў прэзідыум і падымалася зала, не помню, як развіталіся і выехалі з горада. Гэта было ў іншай прасторы, у іншую эпоху, у іншым жыцці.

У тым жыцці мы вярталіся ў Мінск далёка за поўнач. На пярэднім сядзенні час ад часу ванітаваў аташэ. Вадзіцель круціў настройку прыёмніка. "I said something wrong..." ціха спявалі "Бітлз". У гэтым новым жыцці я баяўся толькі аднаго: што мяне болей ніколі не апячэ невыносна цяпкі незямны боль там, дзе ў анёлаў растуць крылы — боль, без якога, як я ўведаў пазней, няма розніцы паміж жыццём і смерцю.

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

Іван ЧЫГРЫНАЎ

*Працяг. Пачатак у N 45.*

## СУМЛЕННЕ ТАКСАМА ВЫМАГАЕ ВЫДАТКАЎ

Аказваецца, на гэтым свеце ўсё так зладжана, што адно з аднаго патрабуе вяртання свядомага ці не свядомага доўгу, пра які часам і не здагадваешся. Асабліва калі чалавек увачавідкі старэе, а яшчэ больш, калі пачынае хварэць. Мяне, напрыклад, даволі часта даймаюць пытанні: чаму ты некалі гэтак зрабіў, а не так; і ці сорамна табе за твой колішні ўчынак, з якім звязана?.. Урэшце, ці мала што звязана?

Ды і самога ў такія гады падмывае растлумачыць сёе-тое. Усё ж думаецца, што нашчадкі некалі пакладуць на шалі вагаў і нашы справы, і нашы ўчынкі, і нашы кнігі, якія ў нашы дні раптам сталі нікому непатрэбнымі. Іншы раз сядзіш за сталом, робіш неверагодныя намаганні, каб дамагчыся выразнасці ў стылі і ў развагах, потым падумаеш — дзеля чаго падобныя высілкі?

Невясёлыя часы насталі, невясёлыя справы суправаджаюць іх.

А растлумачыць сёе-тое сапраўды хочацца, быццам і праўда перад часам вінаваты.

У ранейшых сваіх допісах мне штокольвеч ужо ўдалося зрабіць у гэтым сэнсе. Праўда, не ўсё прынялі рэдактары. Нават Мікола Гіль і той аднаго разу папрасіў зняць кароткае апавяданне пра тое, як дамагаліся некаторыя нашы пісьменнікі саступіць месца ў зацверджаным выдавецкім плане на карысць Клаўдзіі Каліны, муж якой у той час збіраўся ехаць у Ізраіль. Сёе-тое адмовіўся друкаваць часопіс “Работніца і сялянка”. Ледзь не бралі мяне за грудзі таксама героі апавяданняў...

Словам, нялёгка мець справу з жывымі людзьмі. Але ж не лягчэй, відаць, жыць пісьменніку і з так званай віной на душы. Добра, што я не ведаю яе. Хоць час, у які давялося жыць, вельмі спрыяльны быў і для здрады, і для падману... Хочаш — ідзі ў сексоты па лініі засакрэчанага ведамства, хочаш — у аналізатары, каб рабіць для цэкоўскіх работнікаў агляды надрукаваных і ненадрукаваных твораў.

Дзіўна, але мы тады прыкладна здагадваліся, хто ёсць хто. Пазней, ужо ў часы перабудовы, а затым і пасля яны самі іншы раз прагаворваліся аб гэтым, можа, таксама, каб віну такім чынам скінуць з сябе.

Але ж што мне кінулася ў галаву растлумачыць чытачу? Толькі загадзя скажу, што не з-за адчування віны. Адстаяць ці не адстаяць што-небудзь па тым часе, здаецца, не лічылася ні віной, ні адвагай. Калі мае чалавек адносную недатыкальнасць, паможа другому чалавеку, калі ж не — пішы ў графу накладных выдаткаў.

Дык вось, некалі я з’яўляўся сааўтарам фільма “Руіны страляюць...” Цяпер ужо амаль немагчыма ўспомніць, як мы сышліся на гэтай справе з Новікавым. Аднак і сцэнарый напісалі, і рэжысёра знайшлі, дакладней, угаварылі Чацверыкова, бо спярша выйшлі былі на Дабралюбава. Тым часам здымкі пачаліся. На Нямізе аддалі “пад руіны” некалькі будынкаў, каля моста на Паркавую магістраль, дзе тады яшчэ стаяла сінагога і ў малітоўныя дні каля яе можна было ўбачыць самазадаволеных яўрэяў у нацыянальным адзенні. Нарэшце знятая першая серыя, другая, трэцяя, чацвёртая... Удзельнікі так званага дадатковага гаркома апынуліся ў турмах, а хто і павешаны. На змену Казінцу прыходзіць Іван Кавалёў. І тут пачынаецца для мяне незразумелае. Кінастудыя з дазволу майго сааўтара наймае дапрацоўшчыка для сцэнарыя. Кавалёў раптам мяняецца на Багамолава. Тэкст падганяецца пад расхожы домысел. І ўжо пятая, шостая і сёмая серыі пабудаваны на суцэльнай выдумцы, якая заахвочваецца ў партыйным архіве, і ў ЦК, і кансультантамі, асабліва палкоўнікам Архіпавым, супрацоўнікам КДБ: маўляў, толькі так, а не іначай! Пры гэтым доказы мае, як сааўтара, дарэмныя: Кавалёў здраднік, і нам вашы тлумачэнні непатрэбны (а я спрабаваў давесці ў групе, што здолею паказаць мастацкімі сродкамі Кавалёва з усімі яго супярэчнасцямі). Аказваецца, некаторыя таварышы спрабавалі працягнуць у кіно чалавека, які пасля выгнання немцаў з Беларусі жыў у Германіі, памагаў тамтэйшым кіношнікам ствараць фільм пра мінскае падполле, нават ажаніўся з нейкай венгеркай... Бачачы маю нязгодлівую ўпартасць, маё прозвішча перад канчатковым паказам фільма знялі з цітраў. Як цяпер помню — ніякай узрушанасці я тады праз гэта не адчуў, толькі стаміўся хлусіць, тлумачачы гледачам і знаёмым, чаму падобнае здарылася. І не дай бог выставіць сябе героем!.. Гэта была краіна, дзе героем немагчыма было стаць.

Апошнія тры серыі фільма “Руіны страляюць...” паказвалі, такім чынам, без мяне.

Пасля, ужо ў новы час, мне давялося ўдзельнічаць у камісіі ЦК КПБ па аднаўленні праўды аб Кавалёве. Я не дужа быў падкаваны ў пытанні, якое разглядалася, бо шмат што забылася ўжо к таму часу, але і на камісіі пацвердзіў, што ніколі апошняга сакратара гаркома не лічыў здраднікам. Хтосьці вельмі заблытаў невінаватага чалавека ў хітра сплеценай павуціне. Цяпер выйшла і новая гісторыя па мінскім падполлі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і кнігі іншыя напісаны. Асабліва заслугоўвае ўвагі кніга Бараноўскага. На абмеркаванне іх часам клічуць мяне. Але я не люблю наведваць бітвы, якія адбываюцца пасля сапраўдных, хоць шмат дзе вельмі неабходна аднаўляць ісціну.

## ТРОХІ АБЫ-ЯКІХ ЗГАДАК

Што Лі Харві Освальд, забойца амерыканскага прэзідэнта Кенэдзі, жыў некаторы час у Мінску, вядома ўсім, хто цікавіўся альбо ўсё яшчэ цікавіцца гэтай гісторыяй. Але не кожнаму ў нашым горадзе давялося бачыць яго.

Між тым, адзін год пісьменнікі, у старым доме на вуліцы Энгельса, маглі не толькі назіраць, як ён ганяў шары па зялёным полі більярднага стала; паступова ўцякач з амерыканскага вайсковага карабля асвойваўся ў нас, адчуваючы сябе, быццам дома ці па меншай меры ў знаёмым амерыканскім клубе; па святах Лі Харві браў разам з творцамі чарку ў пісьменніцкім доме. Мне таксама аднаго разу давялося пасядзець з ім за сталом. Я не пытаўся, хто, адкуль і якім чынам трапіў у Савецкі Саюз. Здзіўляла толькі лёгкасць, з якой ён прыехаў з Далёкага Усходу да Масквы (гэта няйначай), а тады ўжо ў Мінск, падалей ад амерыканскай контрразведкі. Канечне, у нас магло здарацца ўсялякае. Праляцеў жа непрыкметна нямецкі хлопчык на Красную плошчу ад самае Балтыкі. Але гэта ўжо пры агоніі нашай вялікай дзяржавы. Прынамсі, у Ленінградзе, у штабе ваеннапаветранай акругі, генерал, зампаліт, які адзіны ўцалеў пасля чысткі, расказваў нам з Чакоўскім усе акалічнасці таго незвычайнага палёту. З ягоных слоў выходзіла, што нешта падобнае магчыма было і на іншых напрамках, бо даўно ўжо адстала тэхніка, на якую разлічвалі вартавыя неба. Высока ў небе яны яшчэ здольныя на штосьці былі, затое ніжэй, асабліва над самай зямлёй, на поспех разлічваць дарэмна было. Але пра гэта між іншым. Хутчэй таму, каб падкрэсліць, на нашу тэрыторыю не так ужо і цяжка было пранікнуць. Тым больш, што Освальду, няйначай, спрыялі перамяшчацца з аднаго горада ў другі. Яго ўсё-ткі “вяло” нядрэмнае вока гэбістаў. І ў дзённік заглядвалі, дзе чорным па белым было напісана, што ён абавязкова заб’е прэзідэнта Кенэдзі. І ў той вечар, калі я трапіў за адзін стол з ім, ён пацвердзіў сваё жаданне ажыццявіць сваю задуму. Зразумелая справа, што быць з такім чалавекам, які вярзе абы-што, было няўтульна. Але ж і пакінуць кампанію чамусьці не выпадала. Сядзіш і ўсё чакаеш, калі ж хто іншы ўстане з-за стала. Нарэшце Освальд ажаніўся з пляменніцай палкоўніка дзяржаўнай бяспекі і зусім лёгка выехаў у ЗША. Зважайце, ніводнай затрымкі нідзе. І гэта ў той наш час!

А яшчэ праз колькі часу, увосень шэсцьдзесят трэцяга года, адбылася трагедыя ў Даласе. Лі Харві Освальд!.. Знаёмае прозвішча. Газеты, вядома, пісалі абы-што. Замежныя шукалі сляды, адкуль з’явіўся забойца. Нашы замяталі іх. Складвалася такое ўражанне, што мутная душа былога марскога пехацінца нікому непатрэбная стала. Прынамсі, камісія Уорэна ні да чаго не прывяла. А між тым ужо забітым аказаўся і сам Лі Харві і яго забойца Рубінштэйн; загінулі па розных прычынах іншыя амерыканцы, якія мелі хоць якое дачыненне да трагічнай справы: людзей знішчалі за адну спробу даследаваць неяк здарэнне ў Даласе. Наколькі я цяпер помню, Маскве дужа не хацелася пускаць цікаўных у свой бок. Падтрымлівалася версія групавой змовы. Між тым, беларуская жонка ўяўнага забойцы не шкадавала мужа ў Амерыцы — то намёкам, то адкрыта давала зразумець, што галоўную ролю ў забойстве адыграў яе муж, правёзшы гэтую задуму праз увесь Савецкі Саюз. За гэта яе засыпалі доларамі.

Амерыканцы — наіўныя людзі, іх няцяжка пераканаць нават у самым неверагодным. Рашэнне камісіі Уорэна было прынята большасцю янкі. Ды і новы прэзідэнт усё больш патрабаваў да сябе ўвагі.

У нас жа, гэта значыць у тых, хто так ці інакш сутыкаўся ў Мінску з Освальдам, гэтая тэма зрабілася не толькі забароненай, колькі непажаданай. Навошта чалавеку лішнія турботы? Думаю, што сёйтой нават папярэджанне з такога поваду меў.

Сам я належу да людзей, якія, нягледзячы на эмацыянальнасць, умеюць захоўваць тайны. Прынамсі, пра сваё застолле з забойцам амерыканскага прэзідэнта ніколі не згадваў. Больш таго, будучы ў ЗША на сесіі Генеральнай асамблеі ААН, недзе ў душы непакоіўся, каб амерыканцам не стала вядома пра маё даўняе знаёмства з Освальдам... Хто ведае, як яны павядуць сябе, дарма што была ў мяне дыпламатычная недатыкальнасць. Але ж гэта так, дзеля парадку, бо джунглі ёсць джунглі. Асабліва пры той варожасці, якая існавала тады паміж дзвюма вялікімі краінамі. І амерыканская, і наша контрразведка дзейнічала бесцырымонна, галоўнае, каб агент не трапіў у рукі. Праўда, самім шпіёнам знаходзілася выйсце са становішча — заўсёды можна было памяняць амерыканскага на савецкага. Мне даводзілася бачыць кандыдатаў на замену ў доме на Рывердэлі, дзе яны чакалі, пакуль нехта іхняга рангу праваліцца ў Савецкім Саюзе.

Кажуць, што цяпер нават у Беларусі сталі даступныя дакументы пра знаходжанне Освальда ў нас. Не ведаю, што ў іх можна прачытаць цікавае, каб прадоўжыць развагі пра тую даўнюю трагедыю. Але якраз цяпер мяне пачала займаць думка — хто тады ў дом пісьменніка прыводзіў будучага забойцу. Доўгі час, колькі не высвятліваў, поспехаў не меў. У вачах кожны раз з’яўляўся дужа знаёмы твар, а на самага чалавека памяць не выходзіла. І я доўга пакутаваў праз тое, што не магу адолець нейкую заслону, якая ўвесь час толькі трымцела насупроць.

Нарэшце, мне пазваніў карэспандэнт адной амерыканскай газеты: “Ці не змаглі б мы з вамі пагаварыць... — і назваў забойства прэзідэнта Кенэдзі ў Даласе. — З Шамякіным мы ўжо мелі размовы. З сім-тым таксама. Але нам параілі пазваніць вам. Сёння прыём у Доме дружбы, і мы ведаем, што вы маеце запрашэнне”. — “Так, я маю запрашэнне, але што вас цікавіць?” — “Хацелася б напісаць пра Освальда, як ён жыў тут у вас, чым займаўся”. — “Баюся, што я асабіста мала чым здолею памагчы вам”. — “А вы ўсё-ткі прыйдзіце”.

Канечне, я не пайшоў на той прыём. Дужа нечакана была спроба амерыканскага карэспандэнта сустрэцца па даволі далікатным пытанні.

І вось аднаго разу мне цюкнула ў галаву — а ці ні Х прыводзіў у Саюз пісьменнікаў Освальда. Справа ў тым, што з гэтым чалавекам даводзілася сустракацца ўвесь гэты час: і ў нашым мікрараёне на Пуліхава, і на садова-агародных участках, дзе ў нас амаль побач хаціны. Аказваецца, праўда, што вялікае бачыцца на адлегласці. Сапраўды, гэты Х і апякаў тады Освальда. Толькі невядома, па сваёй ініцыятыве, ці па нечыім даручэнні. Сам жа ён пра тыя часы маўчаў, як шчупак пад лёдам. Ва ўсякім выпадку, пакуль не даводзілася чуць, што за мяжой што-небудзь пісалі пра яго. У дзённіку Освальда яго імя таксама не згадвалася.

●

Іншы раз здараюцца дзіўныя рэчы. Потым забываюцца. Але праходзіць колькі часу, зноў усплываюць з тоўшчы памяці.

Апошнія дні я моцна сілюся аднавіць падрабязнасці адной сустрэчы.

Гэта было пасля вайны ўжо. Мы ўбіраліся к таму часу ў падлеткі ўжо. Ва ўсякім разе, таму, хто сустрэў вайну ў сямігадовым узросце, цяпер было па дванаццаць-пятнаццаць гадоў. Больш дарослыя параз’ехаліся з вёскі, асабліва ў фабрычна-заводскія вучылішчы. Сёйтой потым ўцякаў адтуль у бушлаце, у фуражцы з ключамі-малаточкамі, іх лавілі, накіроўвалі ў лагеры, даючы па тры месяцы. Я і сам ездзіў у адведкі да дваюраднага брата, які ўцёк дамоў ажно з Поўначы, здаецца, з Мурманска. Пабачыў яго толькі ў калоне, на выхадзе з лагера, калі малалетнія зэкі ішлі на работу на шоўкавую фабрыку. Уласна кажучы, доўга тырчаць каля лагера мне не край было, бо ніякай перадачы не меў з сабой; галоўнае, убачыў брата, жывога і ўсё ў тым жа чорным бушлаце, што парудзеў ад цэглы, якую даводзілася насіць на казе на самы верх узводзімых сцен фабрыкі. Зрэшты, выйшла так, што ніхто ў вёсцы не здагадваўся, што я паехаў проста па сваёй ахвоце наведаць дваюраднага брата. Вядома, што мне дасталося за гэта. Цяпер ён жыве ў Армавіры, вырабляе з каштоўных звяркоў шапкі і даволі паспяхова гандлюе імі. Нядаўна прыязджаў у Мінск, тады паехаў са сваімі шапкамі ў Слуцк. Аднак перад ад’ездам прапанаваў і мне купіць у яго шапку, праўда, за такую цану, што намнога вышэй за камароўскую. Хто ж купіць у такі безграшовы час нават у сваяка? Асабліва, калі той спрабуе здзерці і тваю скуру, няйначай, на шапку...

Але ж няхай яго з шапкамі!

Мне важна было тут іншае. Пасля вайны аўтамашыны па нашых дарогах хадзілі рэдка, дарогі зноў павузелі, абапал з’явіліся сцежкі. Народ паранейшаму хадзіў пешкі альбо ездзіў на калёсах, балазе, коней на стайні таксама паболела. Нам, дзецям, дарма што ўжо некаторыя сямігодку кончылі, вельмі карцела пракаціцца на паўтаратонках ці на ЗІСах. А дзеля гэтага неабходна было падсцерагчы грузавік, дагнаць яго і схапіцца рукамі за задні борт. Пасля справа тэхнікі, спрыту і дужасці. Хто павісіць на борце ды ўпадзе, а хто і ў кузаў залезе. Саскоквалі мы з машын таксама на ходу. Словам, нядрэнная забава. Ну, а са злымі шафёрамі, якія спынялі свае аўтамашыны ды праганялі нас, мы паступалі жорстка — падсцерагалі на зваротнай дарозе і закідвалі каменнем, цалячы трапіць па фарах ці па лабавым шкле.

Той раз мы таксама пагналіся за паўтаратонкай, якая імчала па нашым канцы вёскі. Здаецца, пабегла яе даганяць нас многа, а ў кузаве апынуўся адзін я. “Ну вось і заяц, — сказаў усё роўна як з радасцю чалавек у напаўвайсковай форме і з аўтаматам на каленках. Канечне, што ў кузаве аказаліся людзі, было непрыемна. Нават небяспечна — што ім стукне ў галаву? Але на “зайца” адгукнуліся ці не ўсе. Я акінуў іх вокам: трое ўзброеных мужчын і адна жанчына з барадаўкай на шчацэ. Штосьці знаёмае падалося мне ў ёй. І я паспрабаваў успомніць. То была колішняя партызанка,

*(Працяг на стар. 14-15)*

## БІЯГРАФІЯ ЗЫГМУНТА ГЛОГЕРА —

**яшчэ адно пацвярджэнне таго, наколькі стасункі вучоных іншых краін маюць непасрэднае дачыненне да нашай краіны. А прыгадаць яго, вядомага польскага археолага, гісторыка і фальклярыста, добрым словам акурат надарылася нагода — 3 лістапада споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння З. Глогера (памёр 15 жніўня 1910 года).**

**Асноўныя навуковыя накірункі З. Глогера — даследаванне помнікаў археалогіі каменнага і бронзавага веку на тэрыторыі Беларусі, а таксама Польшчы і Літвы.**

**Першапраходцам З. Глогер стаў у такой навуковай галіне, як даследаванне беларускай драўлянай архітэктуры. Менавіта ён першым апублікаваў шэраг матэрыялаў, што тычыліся вывучэння гэтага пытання.**

**У часопісе "Wisla" (Вісла) З. Глогер выступаў з артыкуламі, у аснову якіх былі пакладзены звесткі, пачэрпнутыя ім падчас шматлікіх краязнаўчых падарожжаў. Для прыкладу: "На хвалях Буга", "Падарожжы Нёманам" і іншыя.**

**Зыгмунт Глогер меў багаты асабісты музей, у якім захоўваліся і каштоўныя матэрыялы са збораў такіх выдатных даследчыкаў беларушчыны, як М. Федароўскі, браты Тышкевічы, А. Кіркор, А. Ельскі і іншыя.**

**Асобныя матэрыялы, сабраныя гэтым руплівцам, выкарыстаны ў вядомай "Старапольскай энцыклапедыі".**

## ТРАГІЧНЫ ЛЁС, МУЖНАЯ ПЕСНЯ

**Хоць у розных даведніках пра Змітрака Астапенку і паведамляецца, што ён загінуў 7 кастрычніка 1944 года ў Карпатах, знаходзяцца людзі, якія сцвярджаюць, што бачылі яго жывым значна пазней. Прынамсі, на гэтым настойвае і Масей Сяднёў.**

**Што ж, у лёсе З. Астапенкі вельмі шмат загадкавага. І драматычнага, што ў рэшце рэшт і паслужыла загадкавасці вакол яго смерці.**

**Нарадзіўся Зміцер Емяльянавіч 10 лістапада 1910 года ў вёсцы Калеснікі былога Мсціслаўскага павета (цяпер Хіславіцкі раён Расіі, Смаленшчына). Скончыў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум, працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, некаторы час жыў у Маскве, але быў арыштаваны, адбываў зняволенне. Невядома як, ды яму ўдалося вырвацца, трапіць на фронт...**

**З першымі вершамі З. Астапенка выступіў у 1926 годзе. Выдаў кнігі паэзіі "На ўсход сонца" (1931), "Краіне" (1931), "Абураныя" (1932), кніжку-малюнак для дзяцей "Трактар" (1933), зборнік "Як шум дажджу" захаваўся ў гранках.**

**Акрамя таго, пісаў апавяданні. У 1932 годзе ў часопісе "Маладняк" апублікаваў навукова-фантастычны раман "Вызваленне сіл".**

**Займаўся перакладчыцкай дзейнасцю.**

## І ПІСЬМЕННІК, І ВУЧОНЫ

**Менавіта гэтыя дзве ролі спалучаў у адной асобе Міхайла Грамыка. Належаў да тых, хто стаяў ля вытокаў беларускай геалогіі. Адным з першых прымаў Міхаіл Аляксандравіч і ўдзел у пошуках нафты на Палессі.**

**У 1921—1930 гадах М. Грамыка працаваў у Інстытуце беларускай культуры, выкладаў геалогію ў Белпедтэхнікуме, быў дацэнтам кафедры геалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Апублікаваў на беларускай мове падручнікі "Пачатковая геаграфія", які вытрымаў чатыры выданні, "Уводзіны ў навуку аб неарганічнай прыродзе" (ч. 1 — "Крышталаграфія", ч. 2 — "Мінералогія").**

**А да ўсяго — плённа працаваў у літаратуры. З першымі творамі выступіў (па-руску) яшчэ ў 1907 годзе. Напісаў п'есы "Змітрок з Высокай Буды" (1918), "Скарынін сын з Полацка" (пастаўлена ў 1926 годзе), "Каля тэрасы" (пастаўлена ў 1927), "Віно бушуе" (1929), "Над Нёманам" (пастаўлена ў 1927), "Воўк" (1930). У 1927 годзе выдаў кнігі паэзіі — "Плынь" (вершы і паэмы) і "Дзве паэмы".**

**Аднак у 1930 годзе М. Грамыка вымушаны быў развітацца з Беларуссю. І, як аказалася, назаўсёды. Да 1936 года адбываў высылку ў Іванава-Вазнясенску, затым часта даводзілася пераязджаць з месца на месца. У апошнія гады жыў у горадзе Хімкі пад Масквой, дзе і памер 30 чэрвеня 1969 года.**

**12 лістапада з дня нараджэння М. Грамыкі споўнілася 110 гадоў. З яго вершамі, п'есамі, паэмамі, успамінамі, лістамі можна пазнаёміцца ў аднатомніку "Родная пушча", складзеным С. Шушкевічам і выдадзеным у 1987 годзе.**

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

яна запомнілася мне пасля аднаго выпадку. Наш хлопец, вечны беспрызорнік, прыахвоціўся разбіраць розныя выбуховыя прыстасаванні, якіх шмат было навокал. І ў той раз ён развінчваў міну з ротнага мінамёта. Але пачаў адразу з галоўкі, зачапіў там тонкую мембрану, выклікаў выбух. Можна ўявіць сабе, што пасля гэтага здарылася. Хлопцу адарвала тры пальцы на руцэ, пасекла асколкамі твар. Што рабіць, куды падацца? Інстынкт самазахавання падказаў паспяшацца да калодзежа, каб абмыць раны. Дзе ўжо тут кіпячоная вада, была б звычайная!.. І якраз каля калодзежа апынулася гэтая партызанка, мыла бялізну. Яна і ўзялася за параненага вяскоўца. Неяк спыніла кроў, завязаўшы руку памытымі падштанікамі, завязала твар, а тады павяла ў Шурышча, дзе стаяла рота адной з Клетнянскіх партызанскіх брыгад. Уласна кажучы, яна яго і вылечыла. І вось цяпер я зноў убачыў яе. Можа, і яна мяне пазнала. Толькі дзе там! Ці мала вясковых хлапчукоў збеглася тады да студні.

Між тым, сапраўды нічога непрыязнага не адбілася ў вачах людзей, што знаходзіліся ў кузаве. Зразумела, што я тым не менш памкнуўся саскочыць з аўтамашыны. Ды дзе там! Мяне проста затрымалі, не даўшы ніякіх тлумачэнняў. Так мы і даехалі да Бесядзі. Паўтаратонка спынілася на так званай Доўгай, дзе, можа, былі самыя глыбокія яры ў рацэ з ракамі і рыбай. Прыезджыя тут жа кінулі гранату на глыбокім месцы. На паверхню ўсплылі прыглушаныя шчупакі, акуні, плоткі, нават адзін судак (тады яшчэ вадзіліся ў Бяседзі судакі). Рака на Доўгай ніколі не вылучалася шырынёй. Палавіць рыбу не складала цяжкасці, калі стаць упоперак па цячэнні. Там мне і загадана было перагарадзіць Бесядзь, каб падбіраць усё яшчэ не ачунялую рыбу ды выкідваць яе на бераг. Вядома, што ўсю яе мне не ўдалося падабраць, але на два вядры юшкі хапіла. Мяне нават не прымусілі ныраць, каб падняць шчупакоў ды плотак на паверхню. А там яе столькі заставалася, не ў кожнага купца хапіла б серабра, каб хоць збольшага заслаць вось гэтак дно.

Няйначай, людзі былі вопытныя, нямала ездзілі, можа, нават харчаваліся ўсё яшчэ, як у паходзе, таму пашукалі ў лугавой траве нейкія зёлкі, паклалі іх у вёдры, а тады і спецыі купленыя дасталі з мяшэчкаў. Я ж тым часам нудзіўся — ніяк не выпадала дачакацца тут да цемнаты, бо ісці аднаму да вёскі было проста боязна ў такім узросце. Аднак па ўсім можна было зразумець, што ніхто і не думаў адпускаць мяне. І я ад пуза наеўся юшкі, пачаў пазяхаць, ледва пераадольваючы дрымоту. Нарэшце чацвёра з прыезджых пайшлі ў Клеявічы, што знаходзіліся па той бок Бесядзі; з машынай каля вогнішча засталіся шафёр і жанчына. Тым часам мне дазволілі лезці ў кузаў, спаць. На дне кузава не было ні саломінкі, ні сянінкі, ні ўвогуле аніякай парушынкі. Я памкнуўся быў схадзіць па сена да капы, што віднелася на ўзлеску, але шафёр на мяне цыкнуў, адбіў ахвоту. Давялося легчы на голыя дошкі ў адной сацінавай кашулі. Прачнуўся я ўначы. Шафёр з былой партызанкай таксама знаходзіліся ў кузаве. Абшчапіўшыся, яны грэліся такім чынам і ціха размаўлялі. Мяне адразу ж уразіла іхняя гамонка. Можа, пасля кахання яны працягвалі ўдакладняць некаторыя асаблівасці гэтага працэсу. Да таго ж, шафёр не-не ды пытаўся: "А як той рабіў гэта?" (Няйначай, у іх некалі былі агульныя знаёмыя). Жанчына з ахвотай, зусім нестыдаючыся, адказвала на пытанні. Альбо: "Так сабе!.." Альбо: "О, гэты рабіў сваю справу, нібыта пісаў: з коскамі, кропкамі, расстаноўкамі". Альбо яшчэ: "Ну, гэты проста жарабок, таго і глядзі, што кішкі выцягне". Можна ўявіць сабе, слухаць штосьці падобнае ў адзінаццаць-дванаццаць гадоў! Хоць з другога боку, ханжой таксама нявартa выдаваць падлетка — як кажуць, чулі ўжо і не такое! Але колькі б нецікава было прытварацца сонным, каб не перашкаджаць дарослым, аднак сон зноў адолеў. Прачнуўся я пад галасы. Гарэла вогнішча, у якое ніхто не падкідваў дроў уначы. Усе былі ў зборы — і тыя, што заставаліся на беразе ракі ўсю ноч, і тыя, што хадзілі кудысьці з вечара. Крокі за тры ад вогнішча сядзеў глухі ляснік з Клеявічаў, яго ў нас добра ведалі. Ды і дзіўна было б не ведаць лесніка, якога няцяжка было сустрэць і ў лесе, і ў вёсцы. Ён хоць і не меў слыху, аднак выходзіў на парушальнікаў лясной гаспадаркі акурат, быццам па нюху. Да таго ж вызначаўся паганай натурай. На службе шчыраваў так, што мала каму дараваў што. Вядома, калека, які ўсёй учэпістасцю сваёй трымаўся лесніковага месца, якое па тым галодным часе нядрэнна карміла яго ды паіла. Пагарэльцам трэба было будавацца, таму лішняе бервяно заўсёды прыдасца; шмат ехала ў нашы лясы так званых кажлаёў з Бранскай вобласці, дзе ўвогуле пачынаўся ўкраінскі стэп, але людзі будаваліся яшчэ з лесу. Мазанкі сустракаліся туды далей, дзе знаходзілася сапраўдная Украіна. Ляснік сядзеў унураны, як і належыць глухому чалавеку, няйначай, што ён нават не здагадваўся, што каля вогнішча размаўляюць аб ім. Гаварыў чалавек у пагонах капітана, з наганам у кабуры, якая вісела ў яго на жываце. Твар яго быў зарослы шчэццю, здаецца, шчыльней, чым у іншых дзядзькоў, вочы ліхаманкава блішчэлі; па усім можна было здагадацца, што ён вельмі здаволены.

— Думалі, што захопім знянацку іх, — расказваў ён. — Прасядзелі ў засадзе ўсю ноч. І дарэмна. Ну а ўранні ўзяліся за яго. Дзіўна было, што нікуды не выходзіў, а гасцей не дачакаліся.

— Можа, умоўны знак нейкі выстаўляў? — спытаў шафёр.

— Вось у гэтым і прычына ўся. Сноўдаючыся па закрытым з усіх бакоў двары, ён, паспеў пакласці на шула жалезную ступіцу. Значыць, небяспека, заходзіць нельга. Як на тое, мы таксама не прыкмецілі, каб хто-небудзь набліжаўся да варот.

— І як жа вы даведаліся пра гэта?

— Ну, даведацца няцяжка было. Яму яйцы прыціснулі, жонку да сценкі паставілі. Дзеці ў енк, а ён на каленкі, моў, даруйце, паночкі.

— Чаму паночкі?

— Ну, гэтага я ўжо не ведаю. Пытаемся, калі зноў абяцалі бандыты прыйсці?

— Кажа, няскора. Праз месяц. Дык хіба ж сядзець каля ягонага двара цэлы месяц. Павязём у аддзел, а там начальства вырашыць, што з ім рабіць. Хутчэй за ўсё, што да банды давядзецца дабірацца нейкім іншым шляхам. А яго калі не шлёпнуць за пасобніцтва ворагам савецкай улады, то ў турму ўжо пасадзяць.

Нарэшце, і мяне капітан заўважыў, здаецца, ажно ўзрадаваўся:

— І ты, заяц, тут? Не замёрз? Ну то злазь, будзем юшку сёрбаць. А тады мы завязём цябе ў вёску. Нам па дарозе.

Сапраўды, ім было па дарозе — гэта былі краснагорскія чэкісты.

Можа, адчуваючы віну перада мной, капітан не толькі сам падліваў з вядра смачнае варыва, але і намазваў тоўстым пластом на хлеб свіную тушонку. Нячаста тады можна было паласавацца такой ежай. Можна сказаць, мне пашанцавала, дарма што мерзнуў скрозь усю ноч ды з неахвотай слухаў дарослыя плёткі.

Між тым, раніца ўжо, як кажуць, рыкала на ўсю глотку. Прачнуўся ў блізкіх кустах драч, пераляцеў з месца на месца, прачысціў голас і пачаў у вербалозе драць лыка. Холад, здаецца, стаў мацнейшы ад начы, але вогнішча пякло моцна, хапала адно павярнуцца, каб пагрэць празяблае месца. За ноч з дна ракі ўсплылі заглушаныя рыбіны; няйначай, што некаторыя даўно ўжо сплылі па цячэнні, але штокольвеч прыбіла дробнаю хваляй да прыбярэжнай травы; яны прысталі там і цяпер гайдаліся. Відаць, пад самую раніцу над вадой слаўся туман. Аднак к гэтаму часу ён паспеў рассеяцца, і толькі ў недалёкай затоцы засціў шматлікія гарлачыкі, якія паспелі адцвісці. Хоць неба над лугам стаяла высока, але здавалася, што з кожнай хвілінай яно яшчэ больш падвышвалася.

Двое чэкістаў падсабілі залезці ў кузаў клеявіцкаму лесніку, самі паўскочылі ў кузаў. Патрохі і іншыя занялі свае ранейшыя месцы. Мне тым часам рупілася застацца на беразе Бесядзі, пазбіраць у рацэ рыбу, што гайдалася на вадзе; тым часам была надзея і на тое, што з дна таксама льга будзе дастаць сёе-тое: не ўся ж яна ўсплыла на паверхню. Аднак мяне капітан, які распараджаўся тут за старшага, таксама не пакінуў без увагі, загадаў лезці ў кузаў.

Як і абяцаў капітан, машына ў Красную Гару сапраўды ехала праз нашу вёску, і я спакойна саскочыў з яе насупроць свайго двара.

Думалася тады, што клеявіцкі ляснік ніколі не з'явіцца ў нашых мясцінах. Але яго чамусьці ніхто не расстраляў за пасобніцтва бандытам, не пасадзіў у турму. Ужо, бадай, праз тыдзень ён зноў бегаў па нашым лесе, лавіў парушальнікаў і прадаваў налева і направа кажлаям гонкія сосны.

Хутчэй за ўсё, што краснагорскія чэкісты прымусілі яго працаваць на іх. Тым больш, што неўзабаве пайшлі чуткі: нарэшце ўзяты быў у лясной зямлянцы атаман апошняй антысавецкай банды, якога выдаў нейкі ляснік.

●

Сёлета пазваніў мне чалавек. Сказаў, хто ён. У жыцці ўжо давялося столькі сустракаць людзей, што іншы раз без ведання акалічнасцяў сустрэчы нельга ўспомніць асобных. Відаць, я зніякавеў, бо нічога не засталося ў памяці. Тады чалавек нагадаў: "Помніш, Магілёў, чыгуначнае вучылішча, а сам я са Студзянца".

Сапраўды, было такое. Я ўжо згадваў, што нашы вясковыя падлеткі пасля вайны ўзялі моду паступаць у фабрычна-заводскія вучылішчы, якія тады чамусьці называліся ФЗО. Мой старэйшы брат Мікола к таму часу таксама падрос, захацеў ехаць з галоднага дому. "Вывучуся на спецыяльнасць і вам памагу". Маці не пярэчыла, а мы, меншыя, тым больш. Але ў адрозненне ад іншых, брат узяў сабе ў галаву паступаць у Магілёўскае чыгуначнае вучылішча на паравознага машыніста. Хто яго надаумеў, аднак чыгуначныя вучылішчы лічыліся ў той час прывілеяванымі. Конкурс быў неверагодны. Здаецца, дваццаць пяць паступаючых на адно месца. У інстытуты былі недаборы, а ў чыгуначнае вучылішча цэлая плойма жадаючых. Тым часам у школе Мікола вучыўся, можна сказаць, дрэнна, атэстат яму за сямігодку выдалі з цяжкасцю, хутчэй з павагі да маці. Затое ў мяне ў дзённіку мала калі з'яўляліся чацвёркі. Словам, камусьці прыйшло ў галаву, што разам з Міколам у Магілёў паеду і я, балазе, фотакартак тады на экзаменацыйныя лісткі не наклейвалі. Значыць, экзаменатару проста немагчыма было параўнаць жывую асобу з адбіткам яе на паперы. Да таго ж, з аўдыторыі ў аўдыторыю цёк звычайны хлапечы канвеер рыжых, чарнявых, канапатых, насатых, куртатых...

Ехалі мы ў Магілёў доўга, у Крычаве была тады перасадка на цэлы дзень. Зразумела, што ні грошай, ні торбы з ежай у нас не было з сабой. Між тым чыгуначнікі адзначалі свой дзень, і Мікола нейкім чынам у сувязі з гэтым здабыў буханку чэрствага хлеба — ці то выпрасіў у каго, ці то проста сцібрыў, як кажуць, спрытнасць рук — ніякага машэнства. Гуркоў мы нарвалі ў нейчым агародзе. Словам, дзень прайшоў нішто сабе. А пад вечар мы выехалі тульскім цягніком з Крычава, памогшы нейкім падлеткам перавярнуць дагары коламі новенькі "Масквічок" дырэктара цэмзавода. Мы з братам такім чынам вучыліся павадкам гарадскіх блазнюкоў, хоць сярод іх наўрад ці многа было менавіта гарадскіх, найбольш з вёскі, але разбэшчанасць ужо брала сваё паўсюды.

Не ведаю ўжо ад каго, аднак у інтэрнаце вучылішча даволі хутка даведаліся, што прыехаў аднекуль дока, якому нічога не каштуе здаць экзамен і па пісьме, і па матэматыцы хоць за каго. Ну а хвала, як хула, — хутка коціцца. Мяне пачалі шукаць, упрошваць. Хтосьці здабыў мне асобны пакой, маўляў, сядзі, паўтарай вучэбнікі. А тым часам за кожны экзамен, паколькі ты маламаёмасны, будзеш атрымліваць буханку хлеба і цэлую гарбушу. (Тады ў Магілёве ў магазінах чамусьці навалам было гэтай рыбы, да таго ж, зусім за бясцэнак, добра калі рубель-два каштавала адна вялікая асобіна). Шкада было адмаўляць хлопцам, якія прагнулі апрануць чырвоныя шынялі з малаточкамі і лічбай пяць у пятліцах. Зразумела, што машына закруцілася на ўсе колы. Усё рабілася сумленна: я здаваў экзамены, а мне прыносілі плату — буханку хлеба і гарбушу, злашча, што месца ў пакойчыку хапала, асабліва пасля таго, як зрабілі паліцу. Ні даць, ні ўзяць, а харчовы склад. У брата тым часам завяліся сябры-таварышы, і ён пачаў вадзіць іх да мяне ў пакойчык, частаваць гарбушай, бо ўсе хадзілі з адчуваннем голаду ў жываце. Нарэшце ўнадзіліся наведвацца ў маё жытло і тыя, хто сам прыносіў плату за здадзеныя экзамены. І неяк само сабой выйшла, што і гэтыя далучыліся да едакоў. Іншы раз ледзь не ўгіналася паліца ад прадуктаў, а потым — хоць шаром пакаці па ёй. Так што, мне самому не кожны раз хапала.

Здаралася, што хлопцы ў знак удзячнасці прыносілі садавіну, — якраз паспявалі слівы, ужо прадавалі на рынку, што каля Мінскай шашы, яблыкі... Але паколькі я разумеў, што ні слівы, ні яблыкі мае новыя знаёмыя не куплялі, альбо ў садах латашылі, альбо на рынку кралі. Няхітрая гэта была справа ватагай вырваць у вясковай кабеты кошык з садавінай.

Здаваў я экзамены, можна сказаць, паспяхова. Не ўсе траплялі ў групы паравозных машыністаў, але былі ж і іншыя спецыяльнасці — кавалі, слесары... Найбольш прываблівала, бадай, форма. Разам з бушлатамі выдавалі шынелькі, і ў страі навабранцы выглядалі прыгожа. Мяне і самога зайздрасць брала, калі бачыў навучэнцаў у адмысловай форме. Хоць я і здаў усё на выдатна, але Мікола мой чамусьці трапіў у групу кавалёў. Гэта яго засмуціла, і ён гатовы быў скінуць віну на мяне. Але пасля таго, як надзеў на сябе аднолькавую з усімі форму, здаецца, паспакайнеў. І тым не менш на ўсякі выпадак яшчэ з тыдзень пасля залічэння не адпускаў мяне дамоў — крый бог, каб нічога непрадбачанага не выйшла.

А між тым дарэмна я спадзяваўся, што ў вялікім патоку паступаючых заставаўся непрыкметным. Аднойчы сустрэў мяне выкладчык, даволі пажылы чалавек, паляпаў па плячы, затым вельмі пільна паглядзеў на мае сандалі, якія мы з Міколам купілі ў магазіне,

каб не збіваць ногі на бруку. Ды і цэглы на кожным кроку хапала. Магілёў яшчэ ляжаў у руінах. Дык той выкладчык агледзеў мяне з цікавасцю, усміхнуўся і сказаў:

— Думаеш, я не пазнаваў цябе на сваіх экзаменах? Проста, мне цікава было размаўляць з табой. Усё думаў, што як-небудзь заблытаешася на пытаннях. А пытанні я задаваў табе дай бог.

— Дык... — Толькі і здолеў я выцягнуць з сябе.

— А ведаеш, як я ўгадваў, што гэта ты? На твары я не памятлівы. Але ж заўсёды ёсць нейкія дэталі, якія выдаюць чалавека. У цябе, напрыклад, адзін раменьчык на сандалі белы, другі — чорны. Дастаткова было глянуць пад стол, каб здагадацца. Ну, то шукай і сам свае дарогі. А задумаеш паступаць да нас, калі ласка, без экзаменаў па матэматыцы прапушчу. Проста, ад прыемнасці бачыць цябе.

Нарэшце ў вучылішчы ўсё ўладкавалася, кожнаму навучэнцу знайшлі сваё месца, ніхто з іх ужо не асцерагаўся, што нейкім чынам будзе адлічаны. Тым часам у нашай сямігодцы пачаўся вучэбны год. Не ведаю чаму, але з усёй сям'і я быў прыкладны школьнік. Чамусьці вельмі баяўся парушыць заведзеныя правілы.

Праводзілі мяне на цягнік, няйначай, усе хлопцы, за якіх я здаваў экзамены. Былі яны ўжо ў форме, фарсілі ёй, але тры пончыкі з павідлам усё-ткі ўкралі ў станцыйным буфеце для мяне. На білет у іх хапіла грошай толькі да Лупалава. Значыць, у далейшым зноў мне давялося ехаць на даху, абшчапіўшы счэпленымі рукамі вентыляцыйную трубу. Галоўнае — не падняць пад мостам галавы, каб не адрэзала. Да таго ж, з даху праганяла на станцыях міліцыя. Але мы ўсё-ткі паспявалі зноў ускочыць на хаду. Ехаць такім чынам было неспакойна. Аднак такімі паязджанамі звычайна былі аблеплены ў тыя гады ўсе вагоны цягнікоў. Вядома, шмат хто з хлопцаў гінуў, але што зробіш — грошай сапраўды хапала да Лупалава, першай станцыі ад Магілёва на Крычаў.

Відаць, я многім падлеткам дапамог тады. Але наш Мікола неўзабаве ўцёк з вучылішча. Ужо не помню, чым ён тлумачыў гэта, але ён тут жа паступіў вучнем на курсы ў Каміцкую МТС і яго не сталі праз суд адшукваць: сельскай гаспадарцы спецыялісты таксама патрэбны былі.

## ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ

Я ўжо недзе хваліўся, што адмысловы рыбак. Але ж гэта пры той умове, калі бываеш на рыбалцы ў гады на ўрады. Яна і рыба, няйначай, вушлая — на кожнага ахвотніка не хопіць, а калі на месяц па адной, то калі ласка, лаві, калі без падобнага занятку не можаш. Словам, хочацца ўнесці ва ўсё гэта свядомую заканамернасць. Але ж усё-ткі існуе і ў рыбнай лоўлі свая навука. Шчаслівчык — адна справа, спецыяліст — другая. Мне не адзін раз даводзілася назіраць за докамі. Некаторыя здольныя вывудзяць шчупака нават на голым кургане, ад якога да вады ісці не дайсці. Бачыў таксама, як аднаго і таго ж акуня лавіў у адзін і той жа дзень адзін і той жа чалавек ажно ці не дзесяць разоў: зловіць — выкіне, а ён крокаў праз дваццаць па цячэнні зноў на кручку. Словам, што паляўнічы, то і рыбак. Але ж у даным выпадку давялося наглядаць самому.

Між тым, прыгадваліся мне рэдкія выпадкі палявання. Апошні час я не бяру ў рукі стрэльбу. Хаджу так з якім-небудзь паляўнічым альбо сяджу з ім у засадзе. Дзіўна, але сабакі чамусьці амаль заўсёды выганяюць звера насупроць таго месца, дзе знаходжуся я. Пра гэта паляўнічыя ўжо ведаюць, таму трымаюцца бліжэй. Так было аднаго разу з дзіком каля Бесядзі, калі яшчэ не ляжала там чарнобыльская атрута; так было і з ласём, які амаль з даверам падышоў да мяне ў Бялынкавіцкім лясніцтве. Але ж кажу, як і на рыбе, на паляванні бываю таксама рэдка.

Тым не менш помню адзін выпадак. Быў імжысты дзень, але галоўнае — вольны. У вёсцы ў нас хадзілі на паляванне ўсяго два чалавекі, Даніла Сіманёнак і Яшка Мелехаў. Праўда, Яшку на гэтую справу часу не хапала. Ён працаваў у саўгасе трактарыстам, Зразумела, зіму ў яго займаў рамонт, бо трактар пасля мінулагодніх работ у полі даводзілася збіраць ледзь не нанава, па тыдні шукаць запчасткі. І гэта тады, калі Яшка быў паляўнічы лепшы. Сіманёнак жа найбольш хваліўся, бо ніхто тых зайцоў, пра якія ён гаварыў, ніколі не каштаваў у яго, нават калі прыходзіў са сваёй гарэлкай. Адбываліся ў такім выпадку квашанай капустай. Дык у той імжысты дзень пайшоў я да Яшкі прасіць ружжа. На жаль, гаспадар дома адсутнічаў, як і заўсёды прападаў недзе на машынным двары. Але ў хаце завіхалася ягоная жонка Ганна, жанчына мнагадзетная, на якой трымалася гаспадарка. Заробіць гаспадар ці павінен застанецца, а ў Ганны на гародзе ўсё роўна што-небудзь вырасце. І дзеці яе галодныя не бегалі па вуліцы, і муж заўсёды мог разлічваць на абед. Убачыўшы мяне, яна выцерла аб фартух рукі, тады тым жа фартухом змахнула нейкія крошкі з услону, сказала радасна:

— Які госць у нас! Яшкі няма.

— Што ж, прыйду другі раз, — зусім не засмуціўся я.

— А што ў цябе, калі не сакрэт?

— Ды ніякага сакрэту. Хацеў папрасіць у гаспадара ружжо.

— Тае бяды, — сказала яна, беручы са скрыні ружжо. — Гэта ж ён ад дзяцей хавае.

Ружжо было цалкам самаробнае, прынамсі, ложу выстругваў гаспадар, гэта па ўсім было відаць, можа, адна руля куплёная. Але ўсе ў вёсцы ведалі, што ружжо дакладна страляла — цэнтральнага бою, аднолькава даставала цэль на малой і вялікай адлегласці. Пры спрыяльных умовах магло карміцелем быць. Але я ўжо казаў, што Яшка круглы год не адыходзіў ад свайго трактара.

— Дак бяры, — падала ружжо Ганна.

— А як жа Яшка? — занепакоіўся я.

— Дак... Ну раз я даю, то можаш браць. Як ета адмовіць такому госцю? Табе і з патронамі, здаецца, павязло. Якраз учора набіваў. Во глядзі! — З той жа скрыні яна дастала патроны. — Я табе раскажу, якім калі страляць. Кулі ён сам адліваў. Дак гэта вось на лася. Гэта — на дзіка. Гэта — на зайца. А тут дроб на птушак. Нават ёсць зусім дробненькая. Але якое паляванне на курапатак? Прынёс ён аднаго разу з дзесятак, дак толькі і хапіла на ўсіх, што лізнуць. Так што, палюй на дзіка. некаторыя мяняюцца — двух парсюкоў за аднаго вепрука. Кажуць, карэннямі ў лесе корміцца, шмат карысных траў з'ядае, дык мяса прапітана рознымі зёлкамі. Сёй-той лечыцца дзічынай.

Я паклаў у кішэню патроны, павесіў на плячо ружжо, паабяцаўшы прынесці Ганне гасцінец.

За вёскай ад імжы зрабілася шарэй, але я трохі паблукаў на полі, маючы надзею падняць зайца. І ўсё дарэмна. Няйначай, яны карміліся недзе на ўзлесках. Не напаткаў я ў балоце і ласёў, дарма што яны выходзілі да сялянскіх двароў цэлымі статкамі. Словам, ні адзін звер мне не трапіўся, якога можна было б узяць на мушку. А там — забіў звера ці не забіў, ды шуму многа нарабіў. І тым не менш правалэндаўся я цэлы дзянёк. Ад імжы стаў мокры. Аднак ўвесь час рухаўся, таму ўгрэўся. Ажно пара ішла з мяне. Вечар пачаў наставаць імгненна, можа, ад таго, што імжа памагала. Расчараваны, я выйшаў з лесу. На заснежанай балацявіне віднеліся скрозь імжу чатыры велічэзныя вольхі. У вёску мне належала ісці міма той балацявіны, бо ўсё роўна, куды б ні накіраваўся, давялося б прабівацца па цаліку. Тым часам ад імжы ўжо шэрхнуў снег. На ўзлеску дала аб сабе знаць стома. І я прыкінуў у галаве, за колькі пераходаў удасца дапяць да вёскі. Выходзіла, што ўвечары. Але я ўсё-ткі спыніўся каля балацявіны, стаў пад вольхай, прыхінуўшыся да яе спінай і паставіўшы ложай на снег ружжо, падтрымліваючы адной рукой. Трэба сказаць, што, можа, па нявопытнасці, аднак ружжо я пранасіў увесь дзень з патронам у патронніку. Яно і цяпер заставалася зараджаным, дарма што трымаў яго зусім не па правілах. І трэба ж мне было глянуць угору, на макаўку альхі. Там сядзеў цецярук. Відаць, сядзеў ужо даўно, бо, здаецца, думаў, альбо проста сцішыўся, кепска адрозніваючы скрозь імжу, што дзеелася ўнізе. Вось табе і паляўнічае шчасце! Асцярожна я падняў ружжо і, амаль не цэлячыся, націснуў курок. Грымнуў стрэл. Цецярук залапатаў крыламі на сваім седале, быццам спрабаваў узляцець угору, але куля трапіла яму якраз, і ён замест таго, каб падняцца ўгору, пачаў падаць на снег. Падаў ён замаруджана, і я паспеў зарадзіць ружжо нанава. Але дабіваць цецерука не прыйшлося. Ён трапыхнуўся раз-другі і сціх. Я ўзяў здабычу, узважыў на руцэ. Цецярук быў укормлены і тлусты. Якраз каб стушыць з капустай ці бульбай.

Гэта быў адзіны раз, калі мне пашанцавала ўпаляваць дзічыну. Больш таго, той цецярук, якога выхадзіў-ткі за цэлы дзень, стаў першай і апошняй ахвярай маёй на паляванні. Цяпер на паляванне не хаджу — вялікая міграцыя звяроў па ўсіх лясах і ніхто не можа сказаць з пэўнасцю, які з іх заражаны цэзіем ці стронцыем, а які чысты.

# ВЫКЛІК НЕБУ

*(Працяг. Пачатак на стар. 4)*

перыяд беларусізацыі ў БССР 20-х гадоў закончыўся этнацыдам і з боку бальшавікоў быў фактычна іхняй правакацыяй з мэтаю "вылавіць" альбо знішчыць беларускую культурную эліту.

Сутнасць неататалітарызму ў рэгіёнах былога СССР — не ў жаданні аднавіць былы СССР. Двойчы ўступіць у пройдзеную плынь гісторыі, як сказаў калісьці Геракліт, немагчыма. Але справа не толькі ў логіцы гісторыі. Аднаўлення былога месіянска-камуністычнага Саюза не хоча Расія, якая таксама была ахвяраю псеўдамесіянства. Затое ёсць шмат праектаў адраджэння новай Расійскай імперыі "мірным" шляхам, з далучэннем на першым этапе беларускага "калідору". У Расіі гэтыя імперскія ідэі натхняюць апазіцыйныя групоўкі розных палітычных адценняў, моцна ўплываюць на афіцыйную палітыку. А ў Беларусі прыхільнікі новай імперыі на хвалях дэмагогіі прыйшлі да ўлады і спрабуюць перахапіць ініцыятыву. Такая перспектыва — рэальная небяспека для сусветнай дэмакратыі. Бо эпоха транснацыянальных імперый даўно закончылася. Сёння яны маглі б часова ўтрымацца толькі сілаю ваеннай дыктатуры. А для Беларусі такая перспектыва смяротна небяспечная, бо яна азначала б, што народ не змог выказаць сваю боскую і гістарычную місію — тварыць самабытную культуру і несці яе здабыткі свету. Альтэрнатыва беларускай нацыянальнай дэмакратыі — не ізаляцыянізм, а вольная Беларусь у вольнай Еўропе. І сімфонія самабытных нацыянальных культур у іх творчым сумоўі.

На ўсіх этапах змагання Беларусі за выжыванне ключавое месца займалі беларускі друк і нацыянальная літаратура. Пачынаючы ад падпольнай "Мужыцкай праўды" К. Каліноўскага, "Нашае Нівы" (1906—1915), беларускай перыёдыкі 1917—1920 гг. і канчаючы сённяшнімі "Літаратурай і мастацтвам", "Полымем", "Нёманам", "Крыніцай", "Маладосцю", "Свабодай", іншымі беларускімі газетамі і часопісамі дэмакратычнага кірунку — усе яны разам з выдавецтвамі "Мастацкая літаратура", "Полымя" і інш. аднаўлялі і выхоўвалі беларускую нацыю на ейных руінах. Сёння неататалітарысцкі рэжым, манапалізаваўшы выдавецтва і электронна-тэхнічныя сродкі інфармацыі, аднаўляе тактыку бальшавікоў — нязгодных падавіць, а "згодных" зрабіць праваднікамі свае палітыкі ў масы. Як паказалі апошнія выбары і антынацыянальны псеўдарэферэндум, падчас якіх тыднямі не выходзіла апазіцыйная прэса, гэтая тактыка ўдаецца.

Дык хто выратуе беларусаў, іхнюю мову і культуру? Зразумела, у рэшце рэшт той, хто, паводле слоў Ф. Скарыны, "на той мове іх у свет пусціў". У нас, беларусаў, ёсць прыклад — гісторыя яўрэяў. Іх хацелі сцерці з твару зямлі, рассейвалі, пачынаючы ад егіпецкіх фараонаў і канчаючы Гітлерам. А яшчэ да Гітлера Сталін, у спрэчцы з Баўэрам, даказваў, што яўрэйскай нацыі няма. Але вось яўрэі змаглі адрадзіць сваю дзяржаву праз амаль дзве тысячы гадоў пасля выгнання з абетаванай зямлі. Бог толькі хоча, каб з ім супрацоўнічалі, шукалі выйсця на шляхах творчасці і духоўнай актыўнасці.

Верагодна, магчымыя дзве перспектывы выжывання беларускага незалежнага друку. Ужо сёння патрэбна агульнымі намаганнямі дабіцца дэманапалізацыі масавых сродкаў інфармацыі і выдавецтваў, з тым, каб ва ўмовах магчымай у будучыні дэмакратызацыі дзяржавы беларускія газеты, часопісы і выдавецтвы мелі супольна кантрольны пакет акцый на сродкі паліграфічнай вытворчасці.

Адначасова варта было б вярнуцца да беларускага вопыту стварэння выдавецкіх суполак на кааператыўных асновах. Адзін з прарокаў беларускага адраджэння Ігнат Канчэўскі, які быў не толькі паэтам і філосафам, але і арганізатарам кааператыўнага руху, пісаў у 1921 годзе: "Пазбаўленыя ўрадавай дапамогі, беларускія кааператывы вышлі на вольны шлях, шлях выяўлення сваіх сіл". Гэта быў час, калі ў БССР стварылася выдавецкае таварыства "Адраджэнне", пазней зліквідаванае бальшавікамі. Тады ж І. Канчэўскі заклікаў беларусаў стварыць кааператыўныя выдавецтвы, якія ў "нашаніўскую" эпоху паставілі на ногі беларускі друк. Сёння ёсць магчымасць ствараць прыватныя незалежныя друкарні. Яскрава заявіла цікавымі беларускімі кнігамі выдавецтва "Тэхналогія", створанае пры падтрымцы Фонду Сораса.

Другі шлях — аднаўленне кнігавыдавецкай, журналісцкай і літаратурна-творчай дзейнасці за мяжой, усюды, куды трапілі беларусы — па сваёй ці чужой волі. І не толькі ў вядомых асяродках беларускага расцярушання (ЗША, Канада), але і ў блізкім замежжы (Расіі, Літве, Латвіі, Эстоніі, на Украіне), у Польшчы ды іншых краінах.

І ўсё ж галоўная нашая надзея — дэмакратычнае абнаўленне Расіі і ўсяго рэгіёну былога СССР. Дэмакратыя, інтэлектуальная свабода і незалежныя ад зямной улады сродкі масавай інфармацыі.



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне Вольскаму Артуру Вітальевічу і Вольскаму Гарольду Вітальевічу з прычыны напаткаўшага іх гора — смерці маці.**

Адгалоскі

***Нашы чытачы, бадай, паспелі пазнаёміцца ўжо з артыкулам Г. Чарказяна "Адраджэнне" на практыцы...", апублікаваным 4 лістапада ў "Советской Белоруссии". Калі не прачыталі, дык, несумненна, чулі. Тым больш, што і "ЛіМ" у папярэднім нумары згадаў гэтую публікацыю ў сваёй традыцыйнай калонцы "Кола дзён". Прайсці міма артыкула нельга было: у ім прагучалі рэзкія абвінавачванні ў адрас выдавецтва "Мастацкая літаратура", яго дырэктара С. Андраюка і быццам бы апошні — галоўны віноўнік таго, што падае аўтарытэт беларускай кнігі, што яна слаба разыходзіцца..***

***Што ж, запрашаем чытачоў паслухаць і "вінаватага".***

# Серафім АНДРАЮК:
# "ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА ІСНУЕ ДЗЕЛЯ ВЫПУСКУ КНІГ..."

**— Серафім Антонавіч, я неаднойчы гутарыў з вамі, браў у вас інтэрв'ю; прызнаюся, заўсёды думаў: з чаго пачаць, якое першае пытанне задаць? Гэтым жа разам выпадак, можна сказаць, унікальны. Супрацоўнік выдавецтва, пісьменнік выступае супраць усяго калектыву і кіраўніцтва гэтага выдавецтва, ставіць крыж на ўсім, што зроблена і робіцца "Мастацкай літаратурай" па выпуску літаратуры, а значыць дзеля нацыянальнага Адраджэння. І пры гэтым заяўляе: у тым, што беларускамоўных кніг выдаецца мала, што яны слаба даходзяць да чытача, вінавата не дзяржаўная палітыка ў галіне кнігавыдання, а — дырэктар выдавецтва Андраюк... Што гэта? Звядзенне нейкіх асабістых рахункаў? Жаданне патрафіць некаму, хто "музыку" заказвае?**

— Скажу шчыра: суб'ектыўна некаторыя прычыны ў аўтара гэтага артыкула былі, ён быў паніжаны ў пасадзе, але тое, што напісана, вынесена на чытацкі суд, настолькі неадэкватна прычынам, што ўсё гэта цяжка зразумець. Хіба толькі, калі прычыну пашукаць у паўднёвым тэмпераменце, у нейкай асаблівай чалавечай зацятасці? Ды, зрэшты, гэта па першым уражанні. Калі ж да ўсяго паставіцца больш уважліва, дык высвятляецца, што справа не толькі ў канкрэтным аўтары, які пра ўсё напісаў. Бо ўсе мы, асабліва тыя, хто звязаны з друкам, добра ведаем: аўтар можа напісаць усё, што заўгодна, але гэта ніяк не значыць, што яно абавязкова будзе надрукавана. У дадзеным жа выпадку, як відаць, рэдакцыя ахвотна ўзяла гэты матэрыял. Больш таго, паставіла яго на першую паласу, вы працуеце ў газеце, ведаеце, якія матэрыялы і з якой мэтай выносяцца на першую паласу. Ёсць і другі момант, які прымушае задумацца, выклікае недаўменне: няўжо і аўтар, і газета, і яе галоўны рэдактар лічаць, што ім сама больш "баліць" за беларускую кнігу, і яны найбольш заклапочаны за яе лёс, а астатнія газеты, астатнія рэдактары ды і беларускія пісьменнікі, уся пісьменніцкая суполка, выдавецтвы не задумваюцца над складаным становішчам кнігавыдання? Не задумваюцца, бо ім гэта менш "баліць"!

Адказ увогуле, бадай, трэба шукаць не толькі ў сённяшнім дні, не толькі адштурхоўваючыся ад гэтай канкрэтнай (і непрыемнай!) сітуацыі. На працягу дзесяцігоддзяў і стагоддзяў нас вучылі іншыя: што пісаць, што друкаваць, што выдаваць, што чытаць, на якой мове гаварыць. Прыкладаў тут больш чым патрэбна. І яны, як высвятляецца, сяму-таму прыгадваюцца толькі пры адной нагодзе — самому пачаць іншых вучыць усяму гэтаму. Так што, хутчэй за ўсё, аўтар выконваў нечы сацыяльны заказ.

І яшчэ адзін момант, на які таксама нельга не звярнуць увагу. У такім тоне, у такім стылі, з такімі абвінавачваннямі пісалі толькі ў сумнавядомыя трыццатыя гады. І раптам падобнае "ўсплывае" сёння! Гэта ўжо не проста здзіўляе.

**— У згаданым артыкуле па сутнасці закрэсліваецца ўсё добрае, што зроблена "Мастацкай літаратурай" па выпуску кніг нацыянальных аўтараў, па прапагандзе нацыянальнай літаратуры. І гэта ў той час, калі і сёлета, можна сказаць, у надзвычайна цяжкіх умовах, выдавецтва ўсё ж, як кажуць, трымаецца на плыву. І кнігі выходзяць. Няхай і не столькі, як у ранейшыя гады, але выходзяць. Вось, калі ласка, на вашым стале — трохтомнік Івана Мележа... А ў Чарказяна і тое не так, і гэта...**

— Абараняць сябе — справа не надта ўдзячная. Таму хочацца сказаць не столькі пра сябе, колькі пра справу, якой займаюся, пра справы выдавецтва, якім кірую... Адштурхнуся ад асноўных абвінавачванняў. Аўтар допіса ў "Советской Белоруссии" папракае "Мастацкую літаратуру" за выпуск кнігі "На суд гісторыі"...

**— Выбачайце, Серафім Антонавіч, за што ж тут папракаць выдавецтва? Сама назва зборніка гаворыць за сябе — "На суд гісторыі"... Чытачу даецца магчымасць самому ва ўсім разабрацца, аб'ектыўна паставіўшыся і да аўтараў, і да напісанага імі. Ды і ўвогуле, гэта ж аксіёма: палітыка — адна справа, літаратура — зусім іншая рэч...**

— Гэта не першы падобны закід у адрас "Мастацкай літаратуры". Згадаем гісторыю з кнігай Кастуся Акулы, разборам займалася служба кантролю Адміністрацыі прэзідэнта. Недзе з паўгода высвятлялі, што і да чаго... Нам былі вынесены нават пэўныя спагнанні. Я разумею: можна той ці іншы твор ацэньваць пarознаму. Але сёння падобныя адносіны да эміграцыі — проста дзіўныя. Тым больш для краіны, якая імкнецца і хоча быць краінай еўрапейскай. Сёйтой ніяк не можа супакоіцца, яму ўсё хочацца "ваяваць", весці класавую барацьбу... Падобная зацятасць нагадвае нейкія племянныя разборкі ў некаторых афрыканскіх краінах.

**— Сапраўды: маёр пакрыўдзіў капітана, а той узяў і зрабіў ваенны пераварот...**

— Гэты класава-сацыяльны сіндром, прытым афрыканскага тыпу, аніяк не да гонару нашай дзяржавы. Еўрапейскія краіны — тая ж Іспанія, тая ж Германія, тая ж Польшча, усе нашы суседзі — даўно на ўсім гэтым паставілі кропку. Нельга цэлыя пакаленні выхоўваць на нянавісці, калі мы хочам лічыць сябе цывілізаванымі людзьмі. Чаго толькі сёння не выдаюць з эміграцыйнай літаратуры нашы суседзі? Гляньма хоць на нашага "старэйшага брата", на якога мы так любім арыентавацца! У Расіі ж па сутнасці ці не ўся эміграцыйная літаратура ўжо выдадзена. Праўда, сёй-той можа запярэчыць: маўляў, там творчая эміграцыя ў асноўным першай хвалі, тыя, хто ў пераважнай большасці сваёй выехаў за мяжу адразу пасля кастрычніцкіх падзей ці ў грамадзянскую вайну. Запярэчу і я — не зусім так. Возьмем хоць бы такога зацятага ворага савецкай улады, які ваяваў супраць Савецкага Саюза і ў гады мінулай вайны і якога, узяўшы ў палон, павесілі, — генерала Краснова. Ён, да ўсяго, і вядомы пісьменнік! Дык вось: ягоныя кнігі ў Расіі выдаюцца і перавыдаюцца. Чаму ж, у такім разе, мы не можам прымірыцца?! Тым больш, што беларуская пісьменніцкая эміграцыя ні ў чым падобным, як Красноў, не замешана. Яе дачыненні да той барацьбы, што вялася ў гады вайны, зусім не такія. Ды і пры выданні мастацкай літаратуры трэба ўсё ж улічваць галоўнае — момант эстэтычны. Праходзіць час, хто кім быў пры пэўных падзеях — забываецца, застаюцца творы. Сёння сама час збіраць нашы мастакоўскія скарбы.

І яшчэ адзін момант у сувязі з гэтым. Тыя кнігі, пра якія гаворыць аўтар, рыхтаваліся і выдаваліся тады, калі выданне падобнай літаратуры не тое што падтрымлівалася, а і заахвочвалася. Дык навошта, як кажуць, заднім чыслом рабіць абвінавачванні? Час вызначыць, пакажа, урэшце, што трэба выдаваць, а што — не... А папрокі, што гучаць са старонак "Советской Белоруссии", не да гонару краіны, якая ладзіць сваё суверэннае жыццё і хоча адчуваць сябе годна ў еўрапейскай цывілізаванай супольнасці.

Прагучала абвінавачванне наконт таго, што, маўляў, "Мастацкай літаратурай" выпускаецца не тая літаратура, якая патрэбна... У сувязі з гэтым мушу сказаць, што мы — выдавецтва дзяржаўнае, таму выдавалі і выдаём літаратуру, якая патрэбна для дзяржаўных патрэб — яна выходзіць па так званым дзяржаўным заказе. А вось сёлета склалася сітуацыя надзіва складаная, нават крытычная, а чаму — і я да гэтага часу цалкам не ведаю. І не магу наконт гэтага адказаць адназначна. У першым квартале ўсё ішло нармальна, мы выпусцілі нават больш кніг, чым павінны былі выдаць па плане. Дарэчы, нашы кнігі датуюцца дзяржавай, а з другога боку ідзе аплата кнігагандлюючымі арганізацыямі. Датацыі мы атрымліваем своечасова. А вось разлікі кнігагандлю... Пачынаючы недзе з красавіка "Белкніга", як галоўная гандлёвая арганізацыя, спыніла нам аплату. Было наконт гэтага шмат размоў, але на працягу амаль пяці месяцаў справа так і не зрушылася з месца. Дайшло да таго, што запазычанасць складала каля аднаго мільярда рублёў. Пры гэтым сцвярджалася з боку кіраўніцтва "Белкнігі", што наша літаратура не разыходзіцца, таму і няма чым плаціць. Калі ж правялі пайменны ўлік кніг наша выдавецтва, то аказалася, што астаткі не такія ўжо і вялікія. З кніг, выпушчаных за пяць месяцаў сёлетняга года, на той час непрададзенымі засталіся ўсяго трыццаць працэнтаў. Значыць, "Белкніга" павінна была разлічыцца за семдзесят працэнтаў літаратуры, атрыманай ад "Мастацкай літаратуры". Разлічылася ж за трыццаць працэнтаў. Не плацілі нам, а мы, у сваю чаргу, не маглі плаціць паліграфкамбінату, а ён, зразумела, спыніў друкаванне. І гэта працягвалася некалькі месяцаў. Цяпер сітуацыя крыху палепшылася, кнігі пачалі выходзіць.

Я, безумоўна, не хачу ва ўсіх бедах абвінавачваць адну "Белкнігу", былі і іншыя прычыны, што грошай не хапала ва ўсіх і на ўсё. Але, паўтараю, мы выдавецтва дзяржаўнае і пайсці па шляху выпуску камерцыйнай літаратуры не можам. Я лічу, што гэта справа не дзяржаўная, не дзяржаўных выдавецтваў. Дый, на сённяшні дзень, гэтай камерцыйнай літаратуры ўжо больш чым патрэбна. Да таго ж, яна завозіцца ў нашу краіну і з Расіі, і з іншых дзяржаў СНД. А колькі ў нас выпускаецца! Дастаткова пазнаёміцца з газетай "Книга и мы", там рэгулярна друкуецца старонка "Сігнальныя экземпляры". Не так даўно ("Книга и мы", N 61) у раздзеле "Мастацкая літаратура" я налічыў ажно сорак восем назваў, беларускай ніводнай! У наступным нумары тое ж самае. Няўжо яшчэ і мы павінны працягваць падобнае кнігавыданне? А ў нас жа ёсць Саюз пісьменнікаў, у нас столькі працуе літаратараў. У нас багатая, дасюль нявыдадзеная літаратурная спадчына. Нарэшце, тут, на гэтай зямлі, жыве народ, які мае сваю мову і душа якога яшчэ гаворыць на гэтай беларускай мове.

**— Серафім Антонавіч, не менш прыкра чытаць і тыя мясціны ў матэрыяле "СБ", дзе гучаць не проста папрокі, а праяўляецца звычайнае бескультур'е. Гучыць, скажам, такое абвінавачванне: маўляў, у выдавецтве працуюць адны пенсіянеры. Гэта ж горш, чым быць, як кажуць, без Бога ў галаве. Усе ж мы калі-небудзь прыйдзем да такога ўзросту. Але мне здаецца, што тая ж "Мастацкая літаратура" сёння яшчэ і трымаецца таму, што ля яе "штурвала" стаяць сталыя вопытныя людзі. Людзі, якія ведаюць сваю справу.**

— Наконт таго, што ў нас "заціскаецца" моладзь... Мякка кажучы, аўтар тут не мае рацыі. Узяць асноўную рэдакцыю прозы і паэзіі, ці, як называем мы сёння яе — рэдакцыю арыгінальнай літаратуры. Яе ўзначальвае сёння Леанід Дранько-Майсюк. Гэта што, стары пісьменнік? Асноўным аддзелам — фінансава-эканамічным — кіруе таксама малады супрацоўнік выдавецтва. Аддзел мастацкага афармлення, карэктарскую ўзначальваюць зноў жа маладыя людзі... І ўвогуле для мяне, як кіраўніка, важна зусім не ўзрост, а тое, наколькі прафесійна, кваліфікавана, наколькі сумленна працуе і кіруе канкрэтны чалавек.

**— У лісце згадваецца Васіль Сёмуха, якога, маўляў, панізілі ў пасадзе...**

— Па-першае, сам Сёмуха ніякіх прэтэнзій, ніякага нездавальнення не выказаў, калі я з ім папярэдне ўсё ўзгадняў. Дарэчы, выдавецтва вымушана было зрабіць пэўныя структурныя змены, аб'яднаць асобныя рэдакцыі, службы. Кнігі не выходзілі, і нельга было, каб і надалей на чале, напрыклад, двух чалавек абавязкова стаяў загадчык. У сённяшніх умовах гэта неразумна. Таму некаторыя рэдакцыі былі аб'яднаны, у тым ліку і рэдакцыя, якую ўзначальваў Васіль Сёмуха. А наконт ацэнкі яго як высакакласнага спецыяліста? Дастаткова паглядзець тэматычныя планы і адразу ўпэўнішся, што кнігі, перакладзеныя ім, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі, ніколі не затрымліваюцца і выходзяць ці не кожны год. Ды і ў аб'яднанай рэдакцыі Сёмуха займаецца той справай, якой і займаўся да аб'яднання. І ў зарплаце ён страціў зусім няшмат.

І яшчэ... Менавіта дзякуючы пенсіянеру Рыгору Барадуліну гучыць па-беларуску паэзія самога Чарказяна, які, як вядома, піша па-курдску і па-курдску амаль не выдаецца. Таму можна сказаць, што паэта Чарказяна ў значнай ступені робіць паэт-пенсіянер Барадулін.

І апошняе... Сёння многае, можна сказаць, перавярнулася дагары нагамі. У тым ліку і ў выдавецкай справе. Сёння для многіх галоўнае — рабіць грошы, зарабляць грошы. Для мяне ж галоўнае — выпускаць кнігі. Выдавецтва, прынамсі, дзяржаўнае, найперш існуе і дзеля выпуску кніг. Без грошай, канечне, не абысціся, але для мяне, як для дырэктара "Мастацкай літаратуры", усё ж на першым месцы кнігі.

**— Каб жа так лічыла і вышэйшае кіраўніцтва...**

— Як на самай справе ўсё, думаю, свае слова скажа Міністэрства культуры і друку, якое сёння (13.10.95. — **А. М.**) праводзіць у выдавецтве комплексную праверку.

**— Дзякуй, Серафім Антонавіч, за шчырую гаворку. Поспехаў вам і нашаму выдавецтву!**

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 332-461
наменікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6459.
Нумар падпісаны 16.11.1995 г.
Заказ 5849/Г

П123456789101112
М123456789101112